Станіслаў Выспяньскі

# Вяселле

Драмы

Мінск
Выдавец Зміцер Колас
2014

УДК 821.162.1-12
ББК 84(4Пол)-6
В93

Пераклад з польскай мовы,
слова замест пасляслоўя і каментары
*Лявона Баршчэўскага*.

Рэцэнзент: Адам Паморскі (Adam Pomorski),
прэзідэнт Польскага ПЭН-Цэнтра, літаратурны перакладчык.

Пераклад зроблены паводле выдання:
Wyspiański, Stanisław. Dramaty. T. I.
Wydawnictwo Literackie, Kraków, 1970. 452 s.

Кніга выйшла ў свет дзякуючы дапамозе Амбасады Рэспублікі Польшча
ў Беларусі і Інстытута кнігі ў Кракаве.
Książka ukazała się dzięki wsparciu Ambasady Rzeczypospolitej Polskiej
w Republice Białoruś oraz Instytutu Książki w Krakowie.

ВЫДАННЕ ГЭТАЙ КНІГІ АЖЫЦЦЁЎЛЕНА ПРЫ ФІНАНСАВАЙ ПАДТРЫМЦЫ ПОЛЬСКАГА ІНСТЫТУТА КНІГІ

THE ©POLAND TRANSLATION PROGRAM

BOOK INSTITUTE ©POLAND

**Выспяньскі,** С.
В93 Вяселле : драмы / Станіслаў Выспяньскі ; пер. з нямецк. Лявона Баршчэўскага. – Мінск : Зміцер Колас, 2014. – 208 с.
ISBN 978-985-6992-40-0.

У кнігу ўвайшлі дзве найбольш вядомыя драмы польскага паэта, драматурга і мастака Станіслава Выспяньскага (1869–1907) – «Вяселле» і «Варшавянка».

**УДК 821.162.1-12**
**ББК 84(4Пол)-6**

**ISBN 978-985-6992-40-0**

# Варшавянка

*Песня з 1831 года*

## Асобы

Марыя
Ганна
Хлапіцкі
Малады афіцэр
Стары ветэран
Хор

*Падзеі адбываюцца ў 1831 годзе, 25 лютага,*
*у дзень бітвы пад Грохавам.*

# Дэкарацыі

У прадмесці, на панадворку, у бельэтажы. Прасторны салон. Стыль ампір. Зала светлая, белая; сцены падзеленыя высокімі пілястрамі, некаторыя фрагменты якіх у пазалоце. У глыбіні сцэны два акны, размешчаныя шчыльна адно каля аднаго – так што пілястры ледзь змясціліся паміж імі; вокны займаюць мала што не ўсю сцяну. З правага і з левага бакоў высокія дзверы, над дзвярыма пацямнелыя партрэты людзей ва ўборах 1810 года.

Паміж вокнамі, на немалым узвышэнні, мармуровы белы бюст імператара Напалеона ў лаўровым вянку: скульптар імкнуўся надаць яму рысы Актавіяна Аўгуста. Паркет цёмны, амаль што чорны. Старадаўні набор белай мэблі ў стылі Першай імперыі; спінкі крэслаў – у форме ажурных вытачаных лютняў. На сярэдзіну залы выстаўленыя клавікорды. Са столі звісае бронзавая жырандоля. За белымі цюлевымі фіранкамі відаць гасцінец, які праходзіць пад самымі вокнамі; удалечыні – сад і заснежаны горад.

Раніца, каля сёмай гадзіны.

Здалёк далятае няспынны грукат гармат, прыцішаны, ледзьве чутны: ён не змаўкае цягам усяго дзеяння. Грамада вялікая: шмат генералаў, афіцэраў, грамадзян у цывільнай вопратцы ўзору 1830-х гадоў; яны ходзяць сюды й туды купкамі, ажыўлена, але нягаласна размаўляючы. У вайскоўцаў на тварах чытаецца выклік: старэйшыя сярод іх служылі яшчэ ў Напалеона; ёсць і малодшыя добраахвотнікі.

Паперадзе злева стаіць Х л а п і ц к і, у цывільным гарнітуры, задрапаваны ў шэры й надта шырокі палітон, які фальбонкамі спадае долу; рукі скрыжаваныя на грудзях, галава высока ўзнятая; ва ўсёй яго нерухомай, гордай, пагардлівай постаці праглядаецца энергічнасць, воля, моц, непрыступнасць. Ён стаіць самотна, апанаваны сваімі неадчэпнымі думкамі...

У зале таксама знаходзяцца: генерал Ян С к ш ы н е ц к і,

генерал граф Людвік Міхал Пац, генерал Ян Непамуцэн Умінскі, Пётр Высоцкі, Бажыкоўскі, Казімеж Малахоўскі, Рыбінскі, двое Немаёўскіх, двое Мыцельскіх, Ледахоўскія, Валоўскі, Бландоўскі, Бажэўскі, Завіша, Пліхта.

Дарослыя панны, Марыя і Ганна, дочкі гаспадыні дому; абедзве ў белых строях: сукенкі з шырокімі спадніцамі; пышныя трубчастыя рукавы, якія ідуць ад самых плячэй. Яны, спінамі да гледачоў, сядзяць пры клавікордах, збіраючыся штосьці заспяваць.

У зале гучная гамонка, якая пры гуках клавікордаў пачынае паступова сціхаць.

*(Калі ўсё сціхла.)*

Марыя (*да Ганны*).
Выбег ён – страшна зрабілася мне...
Сеў на каня, і, у раннім паўзмроку,
Ўгледзеў ён белую сукню маю
Проста ў акне.
Бачачы, як я ў адчаі стаю,
Руку прыклаў да грудзей і здалёку
Даў мне паклон. Ён казаў: генерал
Важную місію ім давяраў
Самым найпершым...
Ганна. Чаму ён, аднак,
Гэтак спяшаўся? Нас жа ўсіх шмат
Тут заставалася... Ў чым жа прычына?
Марыя. Я яго подзвігу прагнула так.
Ганна. І *ад цябе* атрымаў ён загад...
Марыя. Не! Хіба можа загадваць жанчына?
Славы хачу для яго. Ды няўзнак
Страх перад Лёсам нямецць прымушае,
Цень прадчуванняў благіх абуджае...
– – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – –

Малады афіцэр (*да Хлапіцкага*).
...Ў малодшую, пан генерал, я закаханы –
Ў бялявую, што вунь стаіць...

Хлапіцкі (*імкліва павярнуўшыся да паненак, акідае іх зрокам, потым зноў адварочваецца*).
Старэйшая мне болей даспадобы;
То значыць, ты таксама закахаўся
Усмерць? Але ж чаму ж тады не тая?
Твар яе горды выклікае зайздрасць...

Малады афіцэр. Пан генерал, а нарачоны гэтай панны
У нас тут служыць, нават побач з вамі...

Хлапіцкі. Ну, пэўна ж, малады. Як на плячах
Ён мае эпалеты, не дзіва, што кахае.
Скажыце мне: хто ж гэта?

Ганна (*учуўшы гэтую размову*).
Мы скажам, як ён вылучыцца ў справе.

Хлапіцкі. Ён вылучыцца, я сумневу ў тым не маю,
Бо гэтага ён прагне.
Адно што ў моладзі настроі рамантычныя.
Яны ж – князькі фантазій, ды такія паэтычныя!
І кожны б захацеў геройскі чын ачоліць.
А ў іх на лбе напісана: сваволіць
Па-байранаўску хочуць.
У сумцы ў кожнага ёсць строфы гераічныя
Пра подзвігі свае. Фельдмаршала жазло
Каторы б і займеў, як Францыі служыў бы.
А ў Польшчы з іх нічога і не будзе:
Таўкуцца. Ім патрэбны імператар...

Пац. Нязломны Банапарт які, ці Кромвель –
Памкненням душ дарэчы б быў дыктатар.

Хлапіцкі. Прынеслі мы, адэпты Банапарта,
Арлоў Напалеонавых, зславіўшы на ляту.
І кожны ж сябе лічыць
Цынцынатам на пасту:

Той пост заняць нібыта толькі варта –
І здзівіць ён паўсвету.
Пац. Павесяліць паўсвету.
Хлапіцкі. Арлам зламалі крылы: з нябёс яны
Спадаюць, як навокал – груганы.
Біццё арліных сэрцаў моцнае занадта:
Чарговая іх дабівае здрада.
Я кінуў быў свой меч раз, як за спінай
Убачыў: розгі ліктара сякуць заслаба,
А я ў тым атачэнні і няздольны
Стрымаць натоўпы каралёў.
Скшынецкі. Ад пыхі твой прысуд не вольны –
Што справу без цябе ніхто й не зробіць.
Хлапіцкі. Дыктатары хай стануць у чаргу:
Зірні, як шмат палітыкаў у зале.
І кожнаму, хто за Хлапіцкага іначай
Штось думае, адразу ж собіць
Узяцца за пяро і тут жа, на бягу,
Штось палітычнае накрэмзаць, паказаць,
Як тактыку ён ведае, паходаў
Сакрэты – тых, што прайграныя былі.
Бо пасля бойкі ўсе ж разумныя заўсёды:
Маўляў, у мірны час абдумаць варта гэта...
І я прадбачу,
Як некалі памылак кніга ўзнікне,
І хтось над ёй ад жалю й абурэння ўскрыкне...
Скшынецкі. Сатырай генерал нас лупіць шчыра
І цэліць лепей тут, чым як дыктатар у паўстанні
Нацыянальным.
Хлапіцкі. Сам я ўжо – аб’ект сатыры:
Яе атрута кроў маю аж кіпяціць.
Скшынецкі. Што ж, і далей айчыне будзе ён служыць –
Марыя і Ганна (*граюць і спяваюць*).
«Дзень змагання й славы смелых
Каб жа днём збавення стаў.

Каб арол наш польскі белы
Веру ў зорку уздымаў –
Зорку перамог чаканых,
Каб быў вокліч той чуцён:
Польшча, ўстань!..

*Агульнае ўзрушэнне, воклічы; прыглушанае падпяванне; спеў дзяўчат глушаць выкрыкі, агульная гамана. А праз хвілю зноў чуваць:*

Марыя і Ганна (*спяваюць*).
...Польшча, вырвіся з кайданаў –
Каб спазнаць трыумф ці скон!»
– – – – – – – – – – –  – – – – – – – – – – – – –

Хлапіцкі (*сярод агульнай размовы*).
Вось жа скон, скон... І, калі ўсім нам трэба,
Каб ляцеў Марс узброены цераз палі,
Тут мы бачым міязмы разладу і ўпадку:
Смерць рабіць жывапіснаю тут пачалі;
У галовах – паэм рамантычных сюжэты!
І да іх пасаваць будуць чорны плюмаж.
Чорны мошаст на ўборы жалобныя ім –
Хай апрануцца воі раманныя ў гэта.
«Лёс паклікаў мяне – згіну я немінуча,
Застануся затое ў вяках неўміручы!»
Захапляў Банапарта Тальма, і мяне
Захапляў ён; цяпер я з глядзельнае залы
Сам на сцэну трагедыі выйшаў: наўкола
Штаб з людзей, што магілам заўзята й зухвала
Прысягаюць...
Марыя! Ішлі мы пад посвісты куляў даўней
І на горы ўзбягалі бясстрашна, вясёла
Каменістай дарогай, што ў вочы пяском
І аблокамі пылу нам сыпала проста;
Ды мы подскакам недзе, а недзе бягом
Дасягнулі вяршыні над прорвай бяздоннай...
І нікому чала не азмрочвалі думкі пра смерць;

Бітвы дух, што адолее ўсе бастыёны
З намі быў, падганяў нас, і быў ён нястрымны,
Пераможным наперад ляцеў ураганам,
І «Вікторыя!» покліч гучаў несціхана.
Промні сонца вялі да трыумфу і славы.
Вось былі дзе найпершыя, дайце мне веры,
Увянчаныя лёсам Еўропы жаўнеры!
Страх паперадзе йшоў нас на тысячу міль,
Брамы местаў пакорліва нам адчынялі,
Хто ж чыніў супраціў, мы мячом Баляслава
Адпраўлялі на смерць. І ўжо ўсе адчувалі
(Прысягнуць я гатовы), што польскага духу
Веліч кожны адчуў, як гарматы паслухаў,
Што між гор грукаталі вулканамі ў дыме.
Мы ўзялі Перамогу тады нашым імем –
Іншых лозунгаў і не было ў галаве.
Вы ж шукаеце смерці, ў вас Марс не жыве.
Маладых вас цікавіць адно толькі гэта –
Ваш мундзір, ваш плюмаж, на плячах эпалеты,
Лаўры вабяць нясцерпна – адно з таго свету.
Гледзіце па-сенатарску горда наўкола,
Толькі пыха на вашых абліччах і чолах,
У мундзіры спавітая, ўзнятая шпагай.
Скуль той смутак, нягегласць і смерці жаданне?
Стала што з абавязкам паляка, з адвагай?
Смерці пець хваласпевы так вам даспадобы;
Над сцягамі ў вас толькі што стужкі жалобы.
Вам карціць – і прытым не ўзбуджае агіду –
Так, па-рыцарску... ў царства спусціцца Аіду,
Апынуцца сярод цёмнай ночы вячыстай,
Пахаванняў так хочацца вам  урачыстых?
І што – здзейснена ваша жаданне?
Скшынецкі. Вісіць над Альшынкай смуга таямніцы;
А той генерал, што над імі стаіць,
Нібыта са смерцю хаўрус заключыць

Схацеў – і жаўнерам гаворыць навокал
Пра тое...
Хлапіцкі. Ваяр гэты, рыцар адважны і сокал
І Дзэўсаў арол... ці ён можа лічыць
Сябе гэткім – як паддаецца ён жалю,
Слязам і за мроямі думкай імчыцца,
І верыць у Скон?
Скшынецкі. На людзей уплывае
Жымірскі нядобра: ўсё смерць наклікае.
Хлапіцкі. Як той маладзён акурат – зграбны, ладны...
Меў светла-блакітныя вочы, як неба,
Пад віленскім замкам адбітае ў рэчцы,
Што зрок гэтак вабіць заўсёды панадна...
Прасіў маладзён у мяне прызначэння:
Нібы той Жымірскі, загінуць, здаецца
Так прагнуў ён, ледзьве не страціў цярпенне...
Я мог затрымаць яго словам, як трэба,
А толькі зірнуў яму ў вочы – й не здолеў,
Нібы скамянеў, і за Справу дазволіў
Пайсці яму... не, не ў акопы – далей,
У Сон, у Адвечнасць, у польскім мундзіры.
І бачу ўжо ўзгорак над новай магілай,
І слёзы ўваччу, так пралітыя шчыра –
Уцехі або меланхоліі мілай? –
На гэтым мундзіры, як быццам пярлінкі...
Ах! каб імператар аднойчы пабачыў:
Ягоны жаўнер так расчуліўся й плача!
– – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – –
Не вернецца ён, бо ў яго на чале,
На сэрцы Знак Смерці гарэў і смылеў.
І ўранні ўжо мы пра апошнія ўчынкі
Яго будзем ведаць... І рапарт ягоны
Закончыцца просьбаю, каб нарачонай
Мы стужку, што браў ён на памяць, вярнулі...
Скшынецкі. Выведка яшчэ не вярнулася, пане.

Хлапіцкі. Чакацьмем, пакуль пра яе не пачулі:
Пазіцыя гэта для нашай кампаніі
Усё вырашае.
Скшынецкі. А нешта ж задоўга б’юцца...
Хлапіцкі. А й трэба, каб яно ўсё так ішло,
І камандзірскае ты мусіш мець жазло:
Нікчэмнікі цябе так недаацанілі.
Скшынецкі. Нам кепскае варожаць прадчуванні –
Ім доўга не ўтрымацца. Знак бяды відаць.
Хлапіцкі. Чорт іх бяры! Стаялі моцна, як на ліха;
Іх лепш бы смерць хоць раз абняла пераможна.
Скшынецкі. Пазіцыю, што страчана, вярнуць ужо
няможна,
Як і дывізію каму яшчэ камандаваць аддаць.
Хлапіцкі. Такія рэчы заслужылі б пакарання.
Скшынецкі. Жымірскі ходзіць, не падобны да сябе,
Ўжо колькі дзён і ў кепскіх прадчуваннях
Выспавядацца прагне кожнаму, паціху
Жаўнерам цвердзячы пра поле бітвы душаў,
Дзе Смерць адна ўладарыць.
Хлапіцкі. Наварожыць Каліёстра...
А ваяру патрэбна адчуваць дух бітваў востра.
Пра бітву гэткую мне сэрца саграваe Сон,
Вялікай бойкі водгалас здалёк чуцён...
Ён дух мой, Божа, раптам так узрушыў,
А столькі ж год прайшло...
Малады афіцэр (*размаўляючы з Ганнаю*).
...З нас частка ў горадзе там кватаруе,
А мы напагатове, тут.
Ганна (*размаўляючы з Маладым афіцэрам*).
З Альшынкай, значыць,
Трымаеце вы сувязь?
Малады афіцэр. Так, штохвілі
К нам наўзгалоп імчацца сувязныя.
Ледзь штосьці новае выведкаю злавілі,

Як рапарты да нас вязуць, да генерала.
Якраз, мажліва, Юзаф...
Хлапіцкі (*пачуўшы гэта*). Так майго героя клічуць.
Малады афіцэр. Вас, панна, прозвішча яго цікавіць...
Ганна. ...Хто прагнуў так пад кулямі сябе праславіць.
Хлапіцкі. Усё пра Славу сняць галовы маладыя:
Ў герояў сэрцы прагнулі б пазычыць...
Я прозвішча не назаву, бо мог бы ў скруху
Увесці сваякоў яго, між нас прысутных...
(*Да Марыі.*)
Я чуў, вы нарачоная нібыта?

*Марыя ўстае і робіць урачысты рэверанс.*

Шматпакутны
Жаніх ваш да Гамеравых герояў,
Відаць, падобны.
Ганна. Пан генерал, жаніх вядомы добра вам:
Да вас прыбліжаны ён, хоць цяпер адсутны.
Хлапіцкі. Сярод маіх ён ад’ютантаў? Не падобна:
Усе ж яны са мной, апроч хіба што...
Як прозвішча яго?
Ганна (*жартаўліва*). Ну, а цяпер – чыё пытанне?
Марыя. Трывожна зноў, сястра мне... А пан генерал,
Відаць, і блізка веры даць не хоча,
Што думкі цьмяна-смутныя блукаюць
І ў сэрцах радасць заглушаюць у дзявочых.
Хлапіцкі. Шаноўнай панны сэрца, што кахае, –
То не абы-які суддзя...
Марыя. Нядобра, што ў душы страх пасяліўся
Ў мяне, і ў вуснах застываюць словы,
І з сэрца мроя ясная знікае...
Хлапіцкі. Хай панна ў вочы мне зірне мусова –
Шкада, што слёзы зрэнкі панне засцяць...
Такая ладная высокая фрызура
І рысы твару годныя: ў іх поўна жарсці;

Прыгожыя і жэсты, і фігура,
І голас нізкі (бразгат срэбра аб труну)
Мне нагадалі тут гісторыю адну –
Як мы з Князевічам у парку Фантэнбло
Былі – і ўбачылі раптоўна Жазэфіну,
Сужонку імператара... Ах, вы пачырванелі!
Зусім я не хацеў збянтэжыць вас, а зрэшты,
Пасуе вам румянец... Я ж пра іншае пра нешта:
У пані Жазэфіны штосьці ў позірку было
Падобнае (раз-пораз вочы скрушна так глядзелі):
Калі яе туга ахоплівала, смутак
Схаваць яна не ўмела – і, паводле чутак,
Бяду на іншых наклікала несвядома...
Каму ж варожыце ліхое *вы*?

Марыя. Ў душы дагэтуль пакрыёма
Былі трывогі й гэты боль жывы;
І хай так будзе надалей...

*Павольна апускаецца ў крэсла побач з сястрою; каля яе збіраюцца іншыя.*

Хлапіцкі (*якую хвілю глядзіць на яе, потым кліча*).
Дзяжурны, да мяне!

Малады афіцэр (*салютуючы*). Я! Слухаю загад!

Хлапіцкі (*не надта ўпэўнена*).
Вярнулася выведка? Паглядзіце!

Малады афіцэр. Ідзе жаўнер.

Хлапіцкі. Што?! Шараговец? Больш нікога?

Малады афіцэр. Так, толькі шараговец.
Ці мне насустрач выйсці, рапарт каб прыняць?

Хлапіцкі. Застаньцеся! То лёс мой, так бы мовіць, –
Смерць, не паспеўшы і падумаць, прадракаць.

Марыя (*апрытомнеўшы і гледзячы ў бок Хлапіцкага, да Ганны*).
Ці штосьці ў думках ёсць таемнае ў яго,
Што сэрца кроіць мне?

Ганна. Сястра, ён як зірне
Загадкава ці змоўкне задуменна
(Нібы пярун запынены ці сфінкс каменны),
Раптоўна палымяным позірк стане...
Ваюе з думкамі сваімі ён: адно сумленне
Яго і ведае пра гэтае змаганне.
Марыя. О не, сястра...
Я адчуваю тое, што бянтэжыла мяне,
Палохала – і што напісана ў яго на твары:
Знак Страху й Жудасці; вось гарпія злятае,
Брутальны нехта... І такая думка хмарай
Злавеснай зранку нада мной лунае.
Ганна. Што хочаш ты сказаць?!
Марыя (*падымаючыся з месца*). Пан генерал...
Ганна. Марыя!
Марыя (*уся дрыжучы, пільна ўглядаецца*).
...Вы нарачонага майго хацелі
Імя і прозвішча пачуць:
То Юзаф Рудскі – так яго завуць.
Хлапіцкі (*пачуўшы, раптоўна:*)
О Божа мой!
Ганна. Марыська!..
Марыя (*устаючы*). Вымавіў ён Божае імя, сястра,
Звязаўшы з іменем ягоным.

*Вакол сясцёр збіраюцца іншыя прысутныя,*
*на хвілю засланяючы іх.*

Хлапіцкі. Дзе сувязны той?
Малады афіцэр. Ад Жымірскага салдат?!
Хлапіцкі. Ёсць рапарт!
Малады афіцэр. А што гэта значыць?
Хлапіцкі. Тое, што
Рэдут разбіты наш і страчаны. Загад
Быў ідыёцкі – й знішчаны атрад.
Каторая гадзіна?

Малады афіцэр. Дакладна сёмая.
Хлапіцкі. А я ж прадбачыў,
Што ўсю дывізію пад корань знішчаць
Да гэтай хвілі. Рапарт паўгадзіны я чакаю.
Малады афіцэр. Ўжо на дзядзінцы сувязны...
Хлапіцкі (*пачуўшы, раптоўна:*) Ўяўляю
Яго, хоць і не бачыў... Ён прыбыў адзін?
Малады афіцэр. Так...
Хлапіцкі. То не мой жаўнер.
Малады афіцэр. ...Ужо ў дзвярах.
Хлапіцкі. Чаму не затрымалі? Дайце нейкі знак,
Каб ён маўчаў.
Малады афіцэр. Запозна, ды ваяка ён стары:
Сам зразумее, што маўчаць павінен.
Хлапіцкі. Глядзяць на нас паненкі...
(*Бачачы, што ўся ўвага звернутая да яго,*
*кажа ўсім прысутным.*)
То датычыць спраў вайсковых.
(*Да Ганны і Марыі.*)
Ад паннаў мы пачуем спеваў новых?
Гаспадыня дому. Ёсць новы спеў,
прысвечаны паўстанню:
Пан Дэлявінь, паэт французскі жарсны,
Склаў колькі строф...
Хлапіцкі. Француз ідэю даў.
Гаспадыня дому (*знаёмячы з Літаратарам*).
Паляк, паэт наш, песню пераклаў:
У ёй менш гучнасці, ды – больш замілавання.
Літаратар. Наблізіць прагнуў я да польскай музы
Запал, што быў узяты ад француза,
Але ж ён бачыць нас адно здалёку,
І скрухі спеву нашага ён не спасцігне.
Марыя (*за імгненне перад гэтым рэзка ўстаўшы,*
*пільна глядзіць на Хлапіцкага*).
Ён спалатнеў, я добра бачу.

Хлапіцкі (*адчуўшы на сабе яе позірк,*
*стаіць нерухома, крыху адвярнуўшыся*).
І трэба ж было здарыцца, што сёння я спаткаў
Якраз яе, якой удар у сэрца скіраваны,
Удар, які міжволі ёй я сам нанёс,
Адправіўшы ў бой жаніха яе. О, Лёс!
А сёння я пазнаў яе, што так аддана
Спявае вуснамі, якія праклінаць мяне
Так хутка будуць, пра нашу славу...
Смерць, ты найлепшую ў нас моладзь забіраеш!

*Ганна ўвесь час іграе мелодыю рэфрэна, Літаратар падыходзіць да клавікордаў, абапіраецца на іх, некалькі тактаў дырыжыруе; ідзе агульная размова.*

Хор. «За штыхі, усе палякі!
За свабоду Польшчы ў бой!
Ворагу ён дасца ў знакі,
Спеў наш, з мужнаю трубой!»

*Падчас спеву ўваходзіць жаўнер, потым з'яўляецца Стары ветэран, просты шараговец з дывізіі генерала Жымірскага: ён абпырсканы гразёю, абсыпаны снегам; усе расступаюцца... ён спыняецца за два крокі ад генерала, салютуе...*

*Хлапіцкі, не гледзячы, працягвае да яго руку; жаўнер аддае генералу пакет; Хлапіцкі моўчкі чытае і перадае пакет Маладому афіцэру, які хавае яго на грудзях.*

*На клавікордах цяпер граюць мелодыю песні.*

*Хлапіцкі, адчуваючы, што жаўнер усё яшчэ стаіць, паварочвае галаву да яго... Жаўнер працягвае яму скрутачак – нейкі маленькі пакецік, стужку; Хлапіцкі хутка бярэ ўсё гэта і сціскае ў далоні. Жаўнер моўчкі салютуе і выходзіць.*

Марыя (*якая ўвесь гэты час сачыла за рухамі генерала*).
Збялеў ён, нахмураны... толькі што скрутак жаўнер
Даставіў, як трэба... І што ж тут цяпер?
Чаму столькі роспачы бачу ў паглядзе?..
Аднак жа мундзір веставога з таго ж быў палка...
Як – *быў?* Я пра што? Ён запырсканы, ў плямах

Ружовых... А раніцай белай жа стужка была.
Ах, Божа! Жахлівая думка мне ў голаў прыйшла!

Хлапіцкі (*хаваючы скрутак на грудзях, да афіцэра:*)
Глядзіце мне – ні слова! З намі поруч дамы.

Ганна (*да Марыі*).
Марыя, змоўкла ты – і бледны твар такі...

Марыя (*паўшэптам*).
Мне словы блытаюцца, і, таксама,
Ўсё на магіле кветкі мрояцца, вянкі...

Скшынецкі (*пасярэдзіне залы*).
Як быццам бітваў божышчы над намі
Пад гукі спеваў крыламі ўзмахнулі
І на вайну нас клічуць – каб пачулі;
Пан генерал, прызнайцеся: стрымацца цяжка
І не памкнуцца ўслед туды, дзе кроў ліецца!

Хлапіцкі (*няголасна*).
Вар'яцтва спеў: нам на бяду, здаецца...

Марыя. Пан генерал, ці варта мне спяваць далей?

Хлапіцкі (*праз хвілю вагання, змененым голасам*).
...Прашу вас, песня ваша гэтак захапляе,
Ў душы забытыя матывы ажыўляе,
І ява праўдаю стае перад вачыма;
Вось-вось і ўбачаць: у душы маёй
Адчай страшэнны і нязбыўны неспакой...

Марыя (*стоячы, няспынна гледзячы на Хлапіцкага*).
Бяры, сястрычка, найгрымотнейшы акорд!

Хлапіцкі. Нясуцца гукі па-над домам, як віхор...

Марыя (*шэптам*). Узрушаны ён, бачу. Акампанемент
Яго ўзмацняе страх, які над ім пануе.

Хлапіцкі (*пад уздзеяннем яе позірку*).
За мною сочыць... можа ўтаймаваць спрабуе
Ўсё тое, што ёй сэрца разрывае ўшчэнт?

Марыя (*уся дрыжыць; вочы яе пачынаюць імгліцца*).
Я ўбачыла не проста шчасця скон майго –
Вялікім лёсам цень мой лёс стварае;

Хай спеў геройскі смуткам набрыняе –
Мой лёс… я – буду вартая яго.
Хор. «Польшча любая, малітвы
Дзецям лепшы лёс далі,
Чым даўней – калі іх бітвы
Ля Крамля ці Тыбра йшлі.
Дваццаць год адно ў чужыне
Мог чакаць жаўнера скон.
А цяпер, як хто загіне,
Ляжа ў дол айчынны ён».
Марыя (*павольна, нібы ў паўсне*).
«А цяпер, як хто загіне,
Ляжа ў дол айчынны ён».

*Чуваць сігнал вайсковай трубы;*
*пасля гэтага ўсе кідаюцца да вокнаў; некалькі чалавек выходзяць;*
*нерухома застаюцца сядзець Хлапіцкі і Марыя.*

Марыя. Пан генерал...
Хлапіцкі. Я слухаю вас, панна.
Марыя. Той, хто мне мілы... ці ён вернецца назад?
Хлапіцкі. Той, хто вам мілы,
Ён – жаўнер, ён на вайне,
На бітве, што ідзе сягоння.
Марыя. Так, ды жаўнер патрэбны будзе краю і пасля
Вайны, каб ураўляць зямлю і сеяць збожжа...
Хлапіцкі. Паненка, далібог, цяпер трывожна й мне
За вашага абранніка, аднак... быць можа,
Ён вернецца яшчэ.
Марыя. Трывожна вам? Бо, генерал, віну сваю
Вы адчуваеце: прамовіць баіцеся:
«Не вернецца ён больш». Я слова вам даю,
Што вы не можаце мне прысягнуць наконт яго...
Пустымі словамі «быць можа» не зменіць вам долі;
Скажыце, пане! Гэта ўсё ж у вашай волі...
Няўжо ж вам болю сэрца не чутно майго,
Што галубком параненым трапеча?

Я ведаю: ўсе вашы словы не дарэчы,
Што марна хочаце вы падмануць мяне,
Здагадка ж праблiскам не-не ды палыхне
I сэрца сцiснецца: ўсё ж вам было вядома!
Яго вы лёгка ў рукi смерцi аддалi.
Я ж бачу: родны край крывёю залiлi
У гэтых вашых бойках. Генерал, паслухай!
Вы ўсе, у славе, там застанецеся –
Наш боскі скарб, наш гонар, веліч духу...
Сваіх я слоў баюся: перад вамі пакрыёма
Магільны змрок відзён за брамай: там
Наканавана ўсім застацца вам.
Хлапіцкі. Паненка, Божа літасцівы! вашы
Відзежы страшныя і рыцарскі мой дух,
І гарт мой цалкам знішчыць мусяць...
Марыя. Пяю аб перамозе –
Толькі ж словы мае хлусяць!
Бо гінуць будуць ад снарадаў, куль
Шарэнга за шарэнгай:
Стаіць ужо ў мяне ўваччу,
Як покатам ляжаць яны,
Я вочы ім закрыць хачу;
Таемнай сілаю галлё сухое
Ламаецца над ротамі, й віхор
Над імі дзьме, і куляў посвіст,
Раскаты выбухаў, гармат чутны,
І трупы, трупы навакол ляжаць
Тых, што патрапілі пад молат Лёсу.
Боль авалодае душой тваёю:
Пакуль над лесам сонца будзе праплываць,
Уся раўніна снежная сплыве крывёю.
Хлапіцкі (*моцна ўражаны*).
Пазіцыя там наша...
(*З пагрозай у голасе гучна звяртаючыся*
*да Марыі, каб яна апрытомнела.*)
Ачомайся, дзяўчына!

Марыя (*пагрозліва, устаючы і паказваючы на яго*).
Паверылі болю майму вы, Леў колішні наш –
То ведайце, што я хачу вам сказаць,
Віна неаспрэчная ёсць. А чыя ж?
З грудзей рвецца крык:
Прадчуванні дратуюць мяне.
Ці спраўлюся з болю навалай,
Ці сэрца змагу ўтаймаваць –
Жалоба каб не дабівала?..
Ў грудзях арфы спевы мацней
Адчай, плач і стогн абуджаюць...
Пяруне! Зламі свае стрэлы аб іх!
Прадказваю вам я няшчасці,
Што сёння йшчэ споўніцца маюць.
Свабоднай была я: не засціў
Мой розум памкненняў
Бунтоўных маіх.
Цяпер я ў кайда́нах,
Нявольніцай стала;
Смыляць моцна раны,
Без сілаў стаю: гэтак туга
Стальная спавіла кальчуга...
Хлапіцкі. Няшчасная ты варажбітка:
Там рушыла войска на бітву,
Там полымя, і глухавата
Гамоняць ізноўку гарматы.
Марыя. А Духі ж – са мною! Я ж бачу:
Там трупаў аж горы, няйначай.
А вы ж абазнаныя надта!
Хлапіцкі. Наш сённяшні бой – вырашальны;
А дзень гэты мроіцца мне цёмнай ноччу.
Чакаю я рыцарскай славы, а мне пахавальным
Тут голасам нехта біду напрарочыў...

*Усе збіраюцца выходзіць; генералы чакаюць, азіраючыся на Хлапіцкага; звонку даносяцца гукі вайсковай трубы.*

Пац. Чакаеце ўсё, генерал? А нам доўга чакаць?
Хлапіцкі. Ці ж я правадыр ваш? Над вамі галоўным
Прызначаны князь. Ён і справу рассудзіць,
Пац. Прывыклі вы гэтак нядобра марудзіць,
Але ж правадыр – толькі вы, безумоўна.
Няможна ж праз вас толькі бітву прайграць.
Нашто ж пагаджацца было браць уладу?
Хлапіцкі. Забраць яе – і даць з чартоў быў нехта рады.
Пац. Хто блытае жазло і меч, хай будзе той пракляты!
Хлапіцкі (*раптоўна*). А ведайце, хто Правадыр:
Ён – пошуг маланкі. Яго
Паўбогі Вайны заклікаюць;
Вакол грамы лятаюць.
Ён Марс, ён Дух прарочы –
Вайны, што верне мір!
Дзе знак падасць – ураз
Натоўп там, тупат, ляск...
Рукой дзе махне ён – усюды
Ён Смерці пасее прысуды.
(*Павольней.*)
А я з жаўнераў простых і заўзятых,
Час марнаваць я не хачу ў дэбатах;
Я цуды здзейсню – толькі загадайце.
Так, быў вялікі Ён. Ды ўсё-ткі майце
На ўвазе: ён вялікі быў для люду:
Здзяйсняў ён цуды, а ўва мне – *спяць* цуды.
(*Звяртаючыся да бюста Напалеона.*)
О, Імператар!
Мы перад усёй Еўропай на зямлі
Стваралі Славу для цябе; мы йшлі
На бітвы за цябе – й перамагалі,
А сёння, як наш Лёс пакладзены на шалі,
Нямогласць сэрцы нам пакроіць мусіць –
Жалобы цень на свет наш ляжа сёння...
О, Імператар! Хіба сэрцы нашы схлусяць?

Дзеля цябе тады, за шчасцем у пагоні,
Жаўнераў слаўных выстаўлялі легіёны
І пахвалу, і лаўры бралі з рук тваіх.
Цяпер ад дасягненняў і хаўрусаў тых,
Ад гонару ашмёткі засталіся. Краю,
Айчыне лёс цяжкі я прадракаю...
О, Імператар!
Цісне нас цяжар праклёнаў,
Няўдачнікам ніхто ж і не падасць далоні...
Руку і мне ты ціснуў і глядзеў у вочы пільна,
Паказваючы проста ў бок Гародні й Вільні.
Я разумеў: ты паказаць імкнуўся, што ўваскрэсне
Айчына нашая і ў свету выкліча здзіўленне.
О, Імператар! Францыя цяпер нам спалучэнне
Прыгожых гукаў дасылае – песню.
...Ну йдзіце ўжо адны ў дарогу.
Мая душа ад прадчуванняў кепскіх знемагае.
Не адыду я з вамі ад парогу:
Патрэбная вера надзвычайная такая
У поспех, моц, што сэрца падтрымае,
Моц веры непахісная, святая,
Што арханёлам абуджае дзіва.
Хай іншы вас вядзе і будзе больш шчаслівы.
Пац. Няможна так. Памкненні трэба ўсё-ткі шанаваць
Той моладзі, што горнецца да нас аддана.
Не скардзься, бо камандаваць – табе наканавана.
Скшынецкі. Пазіцыю адзін *ты* здольны ўратаваць,
Хоць кепская яна. Адзін *ты* выйсце знаеш.
Я ўпэўнены: ты й план таемны маеш...
Калі б адно з'явіўся ты сярод жаўнераў,
Ізноў бы ў Перамогу кожны з іх паверыў.
Хлапіцкі. Агонь, перамога, парыў, выклік Лёсу
Калісьці нас клікалі пад Сарагосу...
За Францыі славу мы ўсе адпалалі.
Скшынецкі. Жымірскі загінуў. Сваё атрымалі

Упартасць і доля ліхая. Параза
Пасеяла чуткі па войсках адразу.
Хлапіцкі. Я ведаю, а лепш было б, каб на гадзіну
Раней у гэтай бітве ён загінуў.
Скшынецкі. Навошта, генерал, ты так вярэдзіш раны?
Хлапіцкі. Бо іншы мусіў быць туды пасланы;
Я ад пачатку бачыў: будзе бой прайграны.
Князь іх паслаў, шалёны, апантаны...
Я тут не камандзір. Хай Радзівіл кіруе.
Пац. Што, Радзівіл? Пан генерал мяркуе?..
Быў спраўны ён, ды не памыліцца німала,
Хто скажа: зорка Радзівілава ўжо ўпала;
Аўтарытэтны ён, пакуль не стане на чале.
Скшынецкі. Вы першы, граф, былі каля стырна;
Цяпер яно сюды-туды – як мячык Наўсікаі.
Пац. Лёс з амулетамі так польскімі гуляе.
Скшынецкі. Пажар навокал нас, агню сцяна –
Патрэбна тут...
Пац. Не трэба тут нічога.
Ёсць сэрцы чулыя, гракоў чароды, карабель,
Які садзіцца ўжо без ветразяў на мель.
Хлапіцкі. Ха! Гэта будзе клопат князя дарагога.
Пац. Табе ён, несумненна, саступіць павінны.
Хлапіцкі. Ды не! І хай ваш князь не скупіцца на кпіны.
Скшынецкі. Хадзем жа з намі, генерал!
Малахоўскі. ...З жаўнерамі старымі!
Глядзі: наўкол руіны ў непраглядным дыме.
Прымай уладу, раз табе яе тут уручаюць.
Загадвай! – Хай святыя словы ўсіх натхняюць!
Саступіць месца князь, усё табе пакіне.
Як ты не возьмешся, дык Слава нашая загіне.
Скшынецкі. Прымусь яго: ён цягне. Час жа – дарагі.
Хлапіцкі. А ты, што б *ты* рабіў, як атрымаў бы ўладу
І бачыў бы: ўсё блізка гэтак да распаду?
Ты ўладу атрымаеш, дойдзе да чаргі.

Ты ўздзенеш зорку пад плюмаж на радасць люду,
А нехта будзе ўжо табе падкопы строіць.
Што я раблю? Няможна нават і прымроіць...
Скшынецкі. Я слоў тваіх баюся, іх я доўга помніць буду...
Мне Бог улады не даваў, а калі б меч мне працягнуў,
Дык я б на чысціню вады ў рацэ зірнуў:
Ці хто яе не каламуціць? Геній бітваў ты адзін –
Хай пад штандар твой стане кожны Марсаў сын!
Хлапіцкі. Нашто ліслівіць? я чакацьму той пары,
Як узмацнее дух мой. Ёсць жа духу ўладары
Вялікія – і ім скараюцца народы.
Не ведаю, ці запануе *ў нас* дух згоды;
Пасля паразы бо ж не выжыць і герою,
Як заржавелую на смех ён возьме зброю.
*Не то мне дело*, хто раней-пазней загіне:
Ён паказаць сябе павінны ў збройным чыне.
Скшынецкі. Трывай жа, правадыр наш: будзе слава
Табе! Падчас нарадаў ты, аднак, сядзіш маўкліва;
Усе гамоняць там пра нешта мітусліва,
Ды меркаванне нам адно *тваё* пачуць цікава.
Ты адчуваеш: мы няўдала нашы дзеянні плануем;
Загады аддаём – і ўсю дамоўленасць руйнуем.
Ты ж потым кпіш, бо ведаў, што сарвецца план.
Ты бачыш лепш усё, а ўводзіш люд у зман.
Таму камандаваць *табе* найлепей, аднаму!
Хлапіцкі. Ёсць правадыр – падпарадкуйцеся яму;
Як я, маўчыце лепш. Збіраючы палкі́,
Суцішцеся, ўтаймуйце ўрэшце языкі!
Нам трэба са сталёвым сэрцам камандзіраў –
Не лоску вонкавага й дарагіх мундзіраў!
Скшынецкі. Раскінь над намі крылы, калі даў Пан Бог
Табе душу арла і здольнасць да палёту.
Хлапіцкі. Тут веры трэба...
Скшынецкі. То павер, герой, павер!
У зорку люду нашага. Гатовы ён цяпер

З табой ісці, а Лёсу ты пакінь яго турботы.
Адвагі больш!

Хлапіцкі (*змяніўшыся ў твары*). Адвагі мне заўжды хапала
І з лішкам! Што ж, я ў бездань кінуцца гатовы!

Хор (*у той час, як усе захопленыя яго словамі*).
Вядзі, дыктатар, нас! Вядзі нас, правадыр!
Няхай жыве Хлапіцкі-камандзір!!!
Мы верым і ты вер!

Хлапіцкі (*ціхшэйшым голасам*). Пайсці, як юнаку,
На бітву з вамі... У агонь і на гарматы,
Што б'юць няспынна...
(*Раптам замаўкае.*)

*Западае цішыня. Усе прыслухоўваюцца.*

Марыя (*гучна і надзіва спакойна*).
Вера ваша хутка надта
Рассеялася... Зорка Прызначэння праляцела
Паўз вас. Прайграны бой; навокал целы, целы...

*Некаторыя глядзяць на яе агаломшана.*

Хлапіцкі (*не адрываючы позірку ад яе вачэй*).
Таемны сэнс я вашых разумею словаў:
Яны ўва мне дух рыцара прыспаны абуджаюць.
І бачу ў вашых я вачах сваіх вачэй адбітак:
На доўгіх вейках слёзы, як пярлінкі, ззяюць...
Перш чым па страчаным жыцці яны патокам
Пральюцца, па зламаных крылах генія.
На снезе пер'е бачу, нібы ў сненні, я:
Магілы скрозь адны, як кінуць вокам.
Каб тыя крылы ў паднябессі распасцерці
Пад залпы зброі – й прывіды вайны ды смерці
Прэч адагнаць...
О, колькі ж іх пад кулямі палегла – не злічыць,
Я ж выратаваны быў дзівоснай сілай.
І што – загінуць? Што – сысці ў магілу?
Мне, хто так шмат трагедый здолеў перажыць?

Цяпер гляджу на здзейсненыя справы
Як на спанатранае велічы выявы –
Сваю я пыху бачыў, на якой праклён ляжыць.
– – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – –
Ажыў Дух ува мне на гук трубы ваеннай,
Дрыжу ад радасці: то Мроя, Лёс нязменны.
З сашчэпленымі на грудзях рукамі
Чакаю я, што Мроя ўрэшце стане явай,
Што засціцца рэальнасць туманáмі...
Сваю я зорку шчасця бачу, што ляціць,
Як метэор, і спакушае ясным ззяннем...
Хай будзе, што мне кажуць Лёс, Наканаванне.
Няхай! Цяпер пайду на бітву я з палкáмі!
Каня! Мой белы конь наперад паімчыць.
Каня! Жаўнеры, на смяротны бой за намі!
Я правадыр ваш!

*Ажыўленне сярод афіцэраў.* Г а н н а *стоячы адною рукой найграе мелодыю і спявае;* і н ш ы я *напаўголаса падцягваюць ёй, завучваючы словы песні.*

Хлапіцкі (*карыстаючыся агульным замяшаннем, прыцішаны, паважна прамаўляе да Марыі*).
Панна, я развітваюся з вамі.
(*Да афіцэраў і генералаў.*)
Панове, рушым! Вунь і войскі падыходзяць,
За ротай рота. Я каманду на сябе прымаю!
(*Ціша.*)
Пагляд з мяне не зводзіць.

Скшынецкі (*напаўголаса*). Відаць, запал ягоны быў з саломы:
Ў дзяўчыну позірк утаропіў нерухомы!

Хлапіцкі (*да Марыі*).
Не хочаце, каб набліжаўся я... Баюся
Слоў вашых... Вы даруйце мне, на развітанне.
Стаяць пасланы я Наканаваннем
Ля брамы – брамы Смерці. Вам на адыход малюся.

Ганна (*здагадваючыся*).
Сястра, дрыжыш ты... Мілая, ну што з табой?

*Падыходзіць да сястры, спрабуе яе падтрымаць, становячыся каля вакна і гледзячы на вуліцу; усе выходзяць, акрамя дзяўчат.*

Марыя (*пасярэдзіне залы, каля клавікордаў, напаўголаса*).
Ну што рабіць з цікаўнасцю маёй?
Я ведаю амаль што ўсё. А што са мною? –
Ўваччу мне пацямнела, грукат бою
Аддаленага чую: ён даходзіць глуха...
Палі, засыпаныя снежным пухам
І цені нерухомых духаў...
Над полем бітвы, па-над вольхамі віхор,
Усё шумлівая ўздымае завіруха,
І мерцвякі паўсюль закасцянелі:
Пісяг крывавы ў кожнага на целе,
І годнасці пячатка,
Што ніхто не сцёр...
Ён сябрам быў арлам...
Ён мой!
А што ж са мною стала?
Як здолела фінал я адгадаць?
А можа ўсё не так? Ах, не! Відаць,
Душу маю ўсю Ноч апанавала?

*Глядзіць нерухома перад сабою.*

Ганна (*у акне з левага боку*).
Марыська, выпраўляюцца палкі́...
Зірні: Хлапіцкі вунь, яму вядуць
Каня... сядлае...
І наперад як хутчэй
Памкнуўся конь...
Спыніў яго абраннік славы...
Як Марс глядзіць ён, ды – не зводзячы вачэй
З тых вокнаў нашых. І мне робіцца цікава,

Ці не пазнаў каго з нас... Поруч будзь.
Пагляд нібы ў наш бок, а задуменны ён такі...
Марыя. Ён бачыць крылы – як прадвеснікі бяды,
Над войскам распасцертыя...
Ганна. Скшынецкі! Малахоўскі!.. Ўжо сядлаюць коней...
Як ураган. Зляцелі... Божа мой! Уланы!
Перамагчы яны, Марыя, *мусяць* сёння!
Марыя. Імчаць туды, дзе вырак Лёсу ім наканаваны...

*Павольна падыходзіць да акна.*

Ганна. Зірні! Там кожны гэткі бравы, малады;
Нібы плывуць на конях эскадроны,
Гасцінец запаўняюць...
Сястра! Мне ў галаву прыйсці не можа,
Каб нехта іх пад кулямі загінуў;
Яны ж плывуць туды, дзе куляў град няспынны.
Сястра, журботай розум мой замглёны,
І сэрца замірае... Нашы! Божа!
Марыя. Мне сэрца крояць іх апошнія хвіліны,
Калі яны прыгожыя такія...
(*Здрыганулася і раптоўна нахілілася да акна.*)
Хлапіцкі – гэта той, зірні, каня што завярнуў,
Глядзіць сюды, жазлом вунь некаму махнуў?
Ганна. Пан Ян ізноў пакліканы да генерала:
Зірні туды:
Яму штось кажа, аддае пакет цяпер...
Марыя (*уся дрыжучы*). Пакет той самы, што прынёс тады жаўнер.
Ганна. Мой маладзён вунь салютуе...
Што? Бяжыць да нас, сюды?
Марыя (*раптоўна, здагадаўшыся*).
Ён да мяне, я гэта прадчувала...
Сам генерал сказаць пра гэта мне не здолеў
І высылае ад'ютанта-вестуна.
Вястун, убачыўшы мяне, не зможа болей

Ад слёз у горле слова вымавіць...
(*Голасна.*)
О не!
Стоп! Затрымаць яго!
Вястун, мяне няшчаснай
Ты не рабі! Жыцця не адбірай хоць рэшты – у мяне...
(*Хутка зачыняе бакавыя дзверы злева.*)
Жывы яшчэ, так, ён жывы...
Я ж бачу ясна: ён развітваецца
Са мной... жывы... жывы...
Ганна (*напалоханая, размаўляючы з кімсьці, хто стаіць за дзвярыма*).
Пан Ян, ці гэта вы?
(*Да Марыі.*) Што, што з табою?
Марыя (*раптоўна*). Не кліч, о не, не кліч!..
Ганна (*цішэй, збянтэжана*).
То, даражэнькая, нам трэба развітацца
Як след таксама...
(*Далікатна не пускаючы яе да дзвярэй.*)
Дазволь, сястра... ты ж разумееш, бо кахаеш.

*Забягае Малады афіцэр, убачыўшы Марыю, спыняецца каля дзвярэй; Ганна падбягае да яго; Марыя, дрыжучы ўсім целам, амаль што інстынктыўна сядае за клавікорды, трывожна сочачы за кожным рухам афіцэра; той цалуе Ганну ў ручку; Ганна левай рукой адчапляе стужку ад сваіх валасоў і падае яму.*

Ганна. Вазьміце памятку...
Малады афіцэр (*расчулена*). О, пані Ганна!..
Ганна. Дык можа стужкі вам маёй
Было не трэба?
Нібыта браць не хочаце яе?
Марыя (*сама сабе*).
На *той* ён стужцы бачыў след крывавы...
Відаць, што мне нясе...
Ганна (*да афіцэра*). Вазьміце дзеля шчасця й славы.
Марыя (*голасна*). Я рыцару майму... так, сёння ўранні,

Ўручала стужку: шчасця зычыла ды славы...
Не хочацца вам стаць майму герою братам?

Малады афіцэр (*беручы стужку, сур'ёзна, гледзячы Марыі ў вочы*).
Аддаць жыццё за край свой – слаўнае жаданне!

*Марыя глядзіць яму ў вочы, потым праз першыя з правага боку дзверы выходзіць у бакавы пакой.*

Ганна. Пан Ян, вы спалатнелі гэтак раптам.
Чаму? Што з вамі?

Малады афіцэр (*пачынае гаварыць хутка, азіраючыся на дзверы, праз якія толькі што выйшла Марыя*).
Хай Бог злітуецца, панна Ганна, пастаўцеся
да гэтага спакойна... Юзаф загінуў гадзіну
таму... сёння, на золку генерал паслаў яго
на пазіцыю, якую
сам ужо даўно лічыў страчанаю; адно толькі
праз упартасць сваю, каб лепей паказаць
бяздарнасць князя, ён выконваў аддадзены
некалі загад... Юзаф жа дамагаўся, прасіў,
добра ведаючы, што адзін з нас павінен быў туды
пайсці... Там з усёй дывізіі нікога не засталося;
той жаўнер, які толькі што быў з'явіўся тут
у зале, той стары ветэран, як выявілася, быў цяжка
паранены: яго паклалі ў перадпакоі... той жаўнер
прынёс рапарт, што ўся дывізія больш не існуе.

Ганна. Божа, сястрыца!..

Малады афіцэр. Учора ўвечары Юзаф,
атрымаўшы ўжо дазвол выехаць на тую пазіцыю,
як бы жартам, смеючыся, папрасіў,
каб, калі ён загіне, генерал стужку,
знятую з яго грудзей, сам вярнуў яго нарачонай...
Генерал паабяцаў. Было нямала смеху, жартаў:
ніхто з нас тады не думаў, што на пазіцыі

было так небяспечна і што Хлапіцкі
лічыў яе незваротна страчанаю.
Цяпер ён і сам паляцеў туды,
Дзе Смерць ягоных рыцараў забрала;
Ён апярэдзіў нашы эскадроны
Каня свайго ён падганяе, ды
Ўсе бачаць добра: дух вайны шалёны
Ў яго ўсяліўся...

*Чуваць, як трубяць сігнал выступлення.*

Стужка тая вось... Бо генералу
Так вусцішна было яе вяртаць...
Ганна (*беручы стужку*). О Божа! Ўся ў крыві...
Малады афіцэр. Бывай здарова.
Ганна (*падыходзіць да яго і, кінуўшы акрываўленую стужку на клавішы, абдымае яго*).
Пан Ян... мой дарагі... мой Ясю!..
Малады афіцэр. Чацвёрты полк мой, Ганна!
Ганна (*тут жа падхапіўшыся з месца*).
Чацвёрты? Я хачу
Іх бачыць!..

*Яна выбягае ўслед за ім. З боку гасцінца тры разы чуцён гучны сігнал трубы, які паўтараецца з розных адлегласцяў; за вокнамі праходзяць і праязджаюць на конях вайсковыя шыхты; відаць вершнікі, конскія галовы, чуваць несупынны тупат капытоў і грукат зброі.*

Марыя (*выходзячы з правых бакавых дзвярэй; яе валасы разбэрсаныя; яна ідзе, як ажылы стод: велізарныя вочы ззяюць; яна нібы забылася, ідзе выцягнуўшы рукі наперад*).
Я ведаю ўжо ўсё...
Яны баяцца мне сказаць...
Вы маўчыцé! Я ж разумею ўсё сама
Па тварах вашых... то глядзіце ў вочы мне...
Шум, ляскат... столькі збройных ваяроў там сабралося...

*Яна амаль машынальна разнасцежвае і адно, і другое вокны; жаўнеры, якія едуць унізе паўз будынак, бачаць яе.*

Хор (*войска, што праязджае пад вокнамі*).
«Наш арол, ляці, каб людзям,
Польшчы, свету паслужыць...»
Марыя (*ідзе да клавікордаў і, калі бярэ акорд,
яе пальцы чапляюцца за пакінутую стужку –
яе акрываўленую стужку; яна выбухае плачам
і, затульваючы твар далонямі, падае наперад
на клавішы. Увесь інструмент здрыгануўся
і загучаў жалобнымі енкамі. Чуваць яе рыданні.
Потым, падняўшы галаву, Марыя пачынае
спяваць з нязвыклым унутраным імпэтам,
уся ззяючы*).
«Наш арол, ляці, каб людзям,
Польшчы, свету паслужыць.
Той, хто ацалее, будзе
У вяках свабодным жыць!»
(*Падняўшыся з-за клавікордаў,
яна ідзе да акна, выгукваючы:*)
Славу ўзнось, крылаты птах,
Кроў пралі, ўсім развярэдзь
Дзюбай раны на грудзях,
Па здабычу, у прасцяг
Чараўнік, табе ляцець!
І жаўнеры ўсе са зброяй
Хай мкнуцца за табою
Ўсюды, дзе пабачыць вока.
Наш арол, ляці высока,
Славу каб навек займець!

*Стоячы каля адчыненага акна, яна дрыжыць, пачынае калаціцца і працягвае рукі ўслед войску, што рушыць на бітву. Прыбягае Ганна.*

Ганна (*зачыніўшы палавінкі левага акна*).
Акно ўжо зачыні: скалела ўся... Халодна!

Марыя, не ў сабе ты...

Марыя (*з працягнутымі ўслед тым, хто ад’язджае, рукамі*).

А там крывёй народнай
Палі й лугі ўсе набрыняюць.
Якія ж сілы вас усё штурхаюць
На той крывавы бой? –
Загінуць каб, як *мой*?
Іх да магіл вядзе дарога,
Крыжоў там будзе надта многа...
Кустоўе будзе там зімой
Стаяць аголенае...

Ганна (*з жахам адхіснуўшыся ад яе*).

О, Марыя!!! Божа!
Пра што ты?! Рушаць за айчыну біцца
Яны. А ты пра жудасныя рэчы,
Гаворыш, страшна так...

Марыя (*нібы ў непрытомнасці*).

За імі хто там? Хто пачаў кружыцца
Над імі? Сонца свеціць, й неба сыпле снегам...
Яны ж памчаліся да межаў спехам,
Не спыніць іх бязлітасная сеча...
Не бачыш ты арлоў? У зграі
Не менш за сто іх; кроў на іх грудзях,
На шэрых пёрах ззяе...

Ганна. Сястра!..

Марыя. Пракляцце! Жах!
Мой розум анямеў,
Боль, боль... не, ўсё дарма...
Ці чуеш, чуеш спеў? –
Арліная гурма
У воблаках лунае, спяваючы бясконца,
Нібыта ў забыцці,
Пад снег, у промнях сонца!..
Ляці, арол, ляці!!!

Хор (*войска, што праязджае пад вокнамі*).
«Наш арол, ляці, каб людзям,
Польшчы, свету паслужыць...»
Марыя. Ах, сэрца маё нямее –
Сястра, абудзі, абудзі!..
Яго я не адчуваю...
Руку дай... яно, паглядзі,
Памерла. Гукай жа, прашу!
Вярні да жыцця душу...
Ад холаду я канаю,
І розум мой ледзянее...

– – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – –

Што бачу? Чаго я жадала?
Ішла я ў спаборніцтва з Ёю –
Праклятую не затрымала:
Сагнула мяне ледзяною рукою
Яна – й, як сцябло, паламала.
Хор (*войска, што праязджае пад вокнамі*).
«Наш арол, ляці, каб людзям,
Польшчы, свету паслужыць...»

– – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – – –

*1893–1901*

# Вяселле

## Асобы

Гаспадар
Гаспадыня
Жаніх
Нявеста
Марыся
Войтак
Бацька
Дзед
Ясік
Каспар
Паэт
Журналіст
Нос
Ксёндз
Марына
Зося
Жонка раднага
Ганначка
Чэпец
Жонка Чэпца
Кліміна
Кася

Стасік
Куба
Габрэй
Рахіль
Музыка
Іся

## Асобы драмы

Чахол
Здань
Станьчык
Гетман
Рыцар Чорны
Вупыр
Вярнігара

## Дэкарацыі сцэны

*Лістападаўская ноч. Святліца ў хаце. Пабеленыя сцены шэрага ці нават блакітнага колеру. Гэтая шэра-блакітная павалока ахінае і мэблю, і людзей, што перасоўваюцца наўскрозь яе. Праз дзверы, адчыненыя з боку сенцаў, чуваць гучную вясельную забаву: бухканне басоў, папісканне скрыпак; чутны кларнет-свавольнік, воклічы мужыкоў ды кабет і адзін меладычны гук, які крыху заглушае кожную ноту, і тупаценне танцораў, што круцяцца ў тлуме ў такт нейкага спеву, які губляецца сярод агульнага гармідару.*

*І ўся ўвага тых, хто праходзіць праз хату-сцэну, скіраваная туды, увесь час туды; яны заслухаліся, яны моцна ўцягнутыя ў тую забаву, на польскі лад… У цьмяным святле кухоннай лямпы круціцца вір карагода; гэта танец колераў,*

*стракатых стужак, паўлінавых пёраў, кракаўскіх керэзій*, рознакаляровых каптаноў і камізэлек – наша сучасная вясковая Польшча.*

*А ў аддаленай сцяне – дзверы ў прыбудову, дзе ложкі гаспадароў ды калыска, а на ложках дрэмлюць дзеці; уверсе ж развешаныя ў шэраг святыя абразы. На другой бочнай сцяне хаты відаць акенца, занавешанае белай муслінавай фіранкаю; над акном дажынкавы вянок з каласоў; за акном цемра, змрок, за акном сад, а пад даждэком і непагаддзю куст, на якім саламяны каўпак-чахол, што звыкла надзяецца на зіму.*

*У сярэдзіне хаты круглы стол, шчодры, засланы абрусам, на якім пры зырkіх свечках, устаўленых у габрэйскія мядзяныя падсвечнікі, шмат усяго-ўсялякага; талеркі выглядаюць гэтак, нібы толькі што ад іх адышла ўся вясельная дружына, у беспарадку; калі нікому не ў галаве нешта прыбіраць. Каля стала простыя драўляныя кухонныя лавы з белага дрэва; у хаце таксама пісьмовы стол з мноствам папер; над гэтым сталом фатаграфія карціны Матэйкі «Вярнігара» і літаграфія матэйкаўскіх «Рацлавіц»**. Удалечыні каля сцяны стаіць пацёртая канапа; над ёю – скрыжаваныя шаблі, стрэльбы, падарожныя паясы, скураная торба. У іншым куце стаіць беленая печ, у тых самых колерах, што й сама хата; каля печы ампіраўскі столік, з рэшткамі бронзавых аздобаў; на ім стары гадзіннік, алябастравыя стрэлкі якога аббягаюць залочанае кола лічбаў; над гадзіннікам партрэт гожай пані ў строях 1840-х гадоў: лёгкая муслінавая накідка, тварык, абрамлены завіткамі, цёмная сукенка.*

*Збоку ад вясельных дзвярэй вялікі вясковы пасажны куфар, аздоблены рознакаляровымі і стракатымі кветкамі ды малюнкамі, ужо ладна пацертымі й пабляклымі.*

*Пад акном стары хломазд: фатэль з высокімі падлакотнікамі.*

*Над вясельнымі дзвярамі вялізны абраз Божай Маці Вастрабрамскай з яе срэбнымі шатамі і залатым німбам*

*промняў на цёмна-сінім тле; над дзвярамі ў прыбудову – такі самы абраз Божай Маці Чанстахоўскай, у тканым узорыстым уборы, з каралямі і ў кароне польскай Каралевы з дзіцяткам, якое ўзняло руку дзеля дабраслаўлення.*

*Столь драўляная: доўгія простыя бэлькі, на якіх напісаныя Словы Божае і год пабудовы.*

*ДЗЕЯННЕ АДБЫВАЕЦЦА*
*Ў ТЫСЯЧА ДЗЕВЯЦІСОТЫМ ГОДЗЕ.*

# ДЗЕЯ I

## СЦЭНА 1

Чэпец, Журналіст

ЧЭПЕЦ. Мой пане, што ў палітыцы чуваць?
Кітайцы… а ці ж цвёрда там стаяць?
ЖУРНАЛІСТ. Гаспадару мілы, не даймай:
Кожны мне штодня пра тых кітайцаў бае.
ЧЭПЕЦ. Пан палітык!..
ЖУРНАЛІСТ. Ах, палітыкаў хапае:
Вушы мне пра гэта прадудзелі…
ЧЭПЕЦ. А як інцірэсна ў самым дзеле?
ЖУРНАЛІСТ. Як цікавасць маеш, дык чытай…
Ты хоць ведаеш, дзе той Кітай?
ЧЭПЕЦ. Ну, яно далекавата недзе там…
Ды ніяк не ўцяміць вам, панам:
Мы, сяляне, розум маем –
Хай яно й далёка, пошта
Нам газеты носіць – мы чытаем
І шавелім мы мазгамі…
ЖУРНАЛІСТ. А навошта?
ЧЭПЕЦ. Ну... мы ж к свету пхнёмся самі.
ЖУРНАЛІСТ. На парафію на вашу

Свет вялікі вам занадта.
Чэпец. І да нас ідуць навіны, вашаць:
Два гады таму заўзята
Біліся ў Японіі…
Журналіст. Дык жа ў вёсцы ў вас спакойна;
Хай паўсюль шугаюць войны –
Польскай вёсцы вельмі важна,
Каб жылося ў ёй спакойна.
Чэпец. Баіцеся вы дзярэўні,
Вам абы смяяцца, пэўне!
Ну а з нас у бойках кажны
Надта спраўны, надта хвацкі.
Быў з такіх, як мы, Главацкі.
Думаю: вы б не знянацку
Многа што маглі займець –
Штоб вам толькі захацець.

## СЦЭНА 2

Ж у р н а л і с т, З о с я

Журналіст. Вы – як казачок: як толькі
Не ў сядле, дык вам маркотна.
Зося. Пан заўжды такі залётны.
Журналіст. То не камплімент, мяркую,
Толькі я й не пратэстую.
Зося. Добра, што ў вас адчуванне
Дзе пачуццяў ёсць хоць колькі,
Дзе ж – салонная забава,
А ў тым выпадку…
Журналіст. Тут справа –
Ў вашай пекнаце: так міла
Пані голаў нахіліла…
Зося. Праўда? Ну, мяне як бы здзівіла,
Што я займела гонар гэты:
Пан рэдактар вялікай газеты

Так прыглядаецца, з нейкаю мэтай…
Быццам бы я абразок маляваны.
Журналіст. Ну, абразок, я скажу, беззаганны…
Колер свежы, натуральны;
Малюнак дарэшты праўдзівы:
Ўсё, да самай рамы, ідэальна.
Зося. Бачу: знаўца асаблівы…
Журналіст. А чаму ў вас столькі гневу?
Зося. Лаэнгрынавыя спевы
Пан пачаў тут нада мною,
Як над птушкай нежывою.
Скуль у спевах столькі спрыту?
Журналіст. Ну, я проста так, адкрыты
І прыязны сам сабою.

## СЦЭНА 3

Жонка раднага, Ганначка, Зося

Ганначка. Цётачка, ах, цётачка!
Жонка раднага. Што, мая яснотачка?
Ганначка. Мы стаім, яны ўсе скачуць…
Хочам мы таксама танчыць!
Жонка раднага. Можа, стане пан у пару?..
Зося. З панам танчыць я не мару!
Жонка раднага. Ну, патанчце самі ў коле.
Зося. Цягне да дружбантаў болей,
Што змятаюць пыл са столі
Спраўна – пёрамі з паўліна…
Жонка раднага. Вас так вабіць штурханіна?
Ганначка. Міла ў тлуме нам, цікава!
Жонка раднага. Там штурхаюцца, таўкуцца:
Ні з сяго, ні з тога б’юцца,
Пэўна ж, гэткая забава
Не для вас зусім.
Зося. Хутка зноў мы прыбяжым.

Жонка раднага. Ну, ўзяла цябе гульба:
Пасмы прыбяры з ілба!
Зося. Крутануся – раз і два!
Ганначка. З цётачкаю нелады:
Нешта зазлавала, ды
Паспрабую даць ёй бусю…
Жонка раднага. Ганка гэткая заўжды:
«Так ці сяк – свайго даб'юся».
Хай наскачацца…

## СЦЭНА 4

Ж о н к а  р а д н а г а,  К л і м і н а

Кліміна. Пан Бог у хату!
Жонка раднага. Заўжды хай з намі будзе…
Кліміна. З тутэйшых я, завуць Кліміна –
По войце я ўдава.
Жонка раднага. Мы – гарадскія людзі;
Я – жонка раднага.
Кліміна. І маеце вы сына.
Жонка раднага. Ён танчыць там.
Кліміна. Хай бавіцца;
Там дзеўкі е – хай не стаяць адно.
Жонка раднага. Штось яму гулянка не ідзе:
Толькі зіркае ён, што і дзе…
Кліміна. Дзеўкі напужалі ўсіх паноў:
Раз затанчыш, а пасля таго
Прынясе яна, глядзіш, каго…
Жонка раднага. Кожны толькі пад сябе грабе:
Вы заўжды сабе, а мы – сабе.
Кліміна. Думала, пагавару я з паняй –
Скора будзе ўнучку калыхаць…
Жонка раднага. Кумка, вы заўзятая ў жаданнях:
Не паспелі й нешта пра сябе сказаць,
А гатовы ад сыноў сватоў паслаць!

Кліміна. Некалі гуляла я даволі,
Хочу і другім таго ж жадаць;
Штоб пасватаць люду як паболей,
Штоб жаніць ды замуж выдаваць!

## СЦЭНА 5

З о с я,  К а с п а р

Зося. Патанцуй, дружбант, са мною.
Каспар. Стала ў панны штось з абцасам…
Зося. Ну, а ў кола…
Каспар. Колам, колам;
Панна з норавам вясёлым
Каська, выстаяўшы, часам
Будзе рада.
Зося. Хто такая
Каська?
Каспар. Ну… ў кутку, унь тая…
Зося. Дружка?
Каспар. Дружка найпярвейшая:
Мне ўсё сватаюць яе.
Зося. Крутануся – раз-два ў кола!
Каспар. Панна ці не зазлуе,
Як яе вазьму пад бокі?
Каська ж трошачку шырэйшая…
Зося. Кася вам запала ў вока?
Каспар. Панна з норавам вясёлым…
Зося. Крутануся – раз-два ў кола!

## СЦЭНА 6

Г а н н а ч к а,  Я с і к

Ганначка. Схоча Ясік танцаваць –
То я з ім бы станцавала…

Ясік. Я магу да пары стаць,
Толькі б панна пажадала.
Ганначка. Ну, хадзем, хадзем у кола –
Будзе рэй у нас вясёлы!
І дружбант найпершы з Яся…
Ясік. Служба добра павялася!

## СЦЭНА 7

Ж о н к а   р а д н а г а,   К л і м і н а

Жонка раднага. Што там, гаспадынька, ў полі –
Ці ж засеяна ралля?
Кліміна. На сяўбу цяпер не час.
Жонка раднага. А ўраджай ці добры ў вас?
Кліміна. Дзякуй Богу, гэты раз.
Жонка раднага. Як папрацавалі ўволю,
Цяжка, як няўрод пасля…
Кліміна. Штось сабраць заўжды ўдаецца.
Жонка раднага. Выглядаеце вы гожа…
Кліміна. Не змарнелі й вы, здаецца.
Жонка раднага. Замуж выйдзеце шчэ, можа?
Кліміна. Што вам да таго, о Божа?!

## СЦЭНА 8

К с ё н д з,   Н я в е с т а,   Ж а н і х

Жаніх. Дабрадзей-ксёндз ласку мае
Не забыць нас і наведаць.
Ксёндз. Нехта мной тут пагарджае,
Бо я тожа сам з сялян.
Нехта крыва паглядае –
Мне ж уцеха тут такая…
Мы ж тут самі, польскі клан:
Я з сялян, і вы з сялян.

ЖАНІХ. Дабрадзей-ксёндз дачакацца
Можа хутка й пелярынку…
КСЁНДЗ. Мо я й заслужыў такой
Годнасці, аднак сёй-той
Тут яшчэ пускае слінку!..
Мо й займею пелярынку.
ЖАНІХ. Ў кансісторыі прыхільна
Паглядзяць – так можа стацца;
Зычу вам таго.
НЯВЕСТА. Жупан
Палучы – і задушыся.
Надаваць бы ўсім па пысе!
ЖАНІХ. Душачка мая, гаворка
Ў нас ідзе пра сан духоўны –
Што займеў бы ксёндз шаноўны…
НЯВЕСТА. Я ж і думала: от дзіва…
КСЁНДЗ. Столькі чысціні й наіву.

## СЦЭНА 9

Ж а н і х, Н я в е с т а

НЯВЕСТА. Ты нагаварыў бы слоў,
*Што* ў нас будзе за любоў.
ЖАНІХ. Зноў цалуешся і зноў…
А ці будзеш ты мяне кахаць?
НЯВЕСТА. Ці ж казала я табе, ці не:
Ўжо цябе ў мяне не адабраць!
ЖАНІХ. Шал кахання ўсё мацнейшы;
Ты ж – мая: уцехі мне
Нечакана так прыспелі…
НЯВЕСТА. Маеш, як хацеў, вяселле.
ЖАНІХ. Я цалую, толькі вочы
Як заплюшчу – і няйначай…
Тварык твой – усё пякнейшы.
НЯВЕСТА. А пры гэтым кроў булькоча.

Жаніх. Ну, цалуй жа, будзь гарачай –
Каб нацешыцца даволі –
Вочы, лоб, вяночак, губы…
Нявеста. Не нацешышся, мой любы…
Жаніх. Не нацешуся ніколі! –
Цалаваў бы як найболей
Я цябе – што маю сілы!
Нявеста. Ну, то цяжкая работа:
Не дзівота, не дзівота…
Нейкі ж бледны ты, мой мілы?
Жаніх. Вы ж мяне й не пахвалілі,
Дый спакою не давалі…
Нявеста. А хацеў ты?
Жаніх. *Вы* жадалі!
Нявеста. Я не цямлю: што за штукі?
Жаніх. Мы ж такія самавукі:
Спосабаў кахання плойму
Знаю, ды трымаць *па-свойму*
Я хачу цябе ў абдоймах!
Нявеста. Ладна ўжэ… давай, як хочаш.
Жаніх. І нікуды ты не збочыш –
Палюбіў я сонца, збожжа…
Нявеста. Ну, то йдзі ўжэ ў скокі, можа!

## СЦЭНА 10

П а э т, М а р ы н а

Паэт. Ах, пачуць бы ад каторай
Ад вясковае дзяўчыны
З сэрцам чулым і прыгожым
Простае: «Хачу цябе я»,
Марына. То пра што тут пан гаворыць –
Мне яшчэ прызнацца, можа?
Быць вы гэткім не павінны.
Паэт. Ў галаве я меў не тое –

Як наогул меў я нешта:
Штось хацеў прамовіць, зрэшты,
Ў сэрцы каб займець надзею –
Штось пачуць, хоць бы адно:
Ці гарачае яно,
Ці яго хоць нешта ўзрушыць.
Марына. Я паскардзіцца вам мушу:
Ў сэрцы я не маю жару;
Хто ўва мне знайшоў бы пару,
Той пяшчоце быў бы рады;
Я паскардзіцца вам мушу:
Холад гэты – апякае!
Паэт. Бог кахання быў бы рады.
Марына. Ён сляпы: глядзіш – і здрада…
Паэт. Дух яго крылаты, порсткі.
Марына. А да крыл пытанняў болей...
Паэт. Так з прэтэнзіямі жорстка!
Марына. Не са шлюбам жа ў касцёле.
Паэт. Быў бы той Амур у клетцы.
Марына. Ў пастцы ліс…
Паэт. Матыль у сетцы.
Марына. Служка каралевы быццам.
Паэт. Шлюб па сплачанай пазыцы.
Вабіць *рознае* каханне…
Марына. Ну, то з намі ўсё.
Паэт. Чаканняў
Не было і спадзяванняў…
Пані скрыўджаная?
Марына. Госцю
Тут яшчэ патрэбна штосьці?
Паэт. Што навука не дарэмна…
Марына. Хто ж вучыўся?
Паэт. Ды… ўзаемна:
Я – ад вас, вы – ад мяне.
Марына. Гэта як? Што за дзівацтвы?

Паэт. Ну, *мастацтва для мастацтва*.
Марына. Хай забаваю такою
Пан займаецца. Спакою
Дайце мне!
Паэт. Размовы з паннай
Моладзь так вядзе звычайна –
У такім *крылатым стылі*;
Так гавораць панне ўпартай
Пра Амура, пра каханне,
Што ці сям, ці там адкрылі
У сабе; яшчэ шаптанні
Ў вушка прыгажуні-панне
Паўсур’ёзна і паўжартам…
Вывучаць такое варта.
Марына. Пан праз жарцікі свае
Гжэчнага з сябе ўдае.
Паэт. Што вы, панначка, ну што вы…
Марына. Пан паэт, лірызм суровы
Зазвінеў у вас струною –
Я за вас у непакоі,
Што страла неспадзявана
Трапіць акурат у пана.
Паэт. Ад мяне вы чулі розных
Жартаў, слоўцаў паўсур’ёзных –
Новы стыль такі ўзнікае:
Вам ніхто не хоча ўбіцца
У душу й не папікае –
Вабіць стужкаю ружовай
І ў касцёл не заклікае…
А жанчына – таямніца.
Марына. Чую цэлую прамову!
Паэт. Словы, словы, словы, словы…
Марына. Што вы, пане мой, ну што вы!
Паэт. Паварот у думках новы?
Марына. Пан паэт, што за размова…

## СЦЭНА 11

К с ё н д з, Ж а н і х, Н я в е с т а

Ксёндз. З жаніхом п’ючы, нявесце
    Раскажу я сёе-тое…
Нявеста. Што такое, што такое?
Ксёндз. Пройдзе час, а па прашэсці…
    Знаю: людзі – гэта людзі;
    Прыкладаў нямала ў свеце…
    Знаю: людзі – гэта людзі;
    Толькі час усё рассудзіць.
Нявеста. Малако ў час кіснуць будзе…
Ксёндз. Гэткія вы маладыя;
    Хоць часы даўно не тыя,
    Прыйдзе час, што вас астудзіць.
Жаніх. Дзякуй вам за клопат, ойча,
    Ды не варта турбавацца:
    Што Бог вырашыў аднойчы,
    Дык таму і адбывацца…
    Зранку мы былі ў касцёле,
    Шлюб ля алтара ўзялі.
Ксёндз. Ну, ўжо ж выпадкі былі
    Розныя; і ўсё іх болей.
    Нагадаць не лішне, ўрэшце…
Жаніх. Ці не скажаш: «Дзякуй, ойча»?
Нявеста. Як што – выдзеру ей вочы!
Жаніх. Раз раўнуе – значыць, хоча!
Ксёндз. Столькі барваў у нявесце!

## СЦЭНА 12

Ж а н і х, Н я в е с т а

Жаніх. Ці ж мяне кахаеш?
Нявеста.                    Божа…

Ты ўсё пра адно і тое.
Жаніх. Сэрца палкае такое,
Кроў б’е молатам у скронях…
Ядзя, ты, скажы, мая?!
Нявеста. Ну, канешне, я твая…
Што цябе ўзяло сягоння? –
Ўсё пра тое ды пра тое…
Жаніх. Маеш сэрца залатое.
Ды не трапіцца, няйначай –
Сэрца палкае такое,
Як цябе ў вяночку бачу,
У вяночку зіхатлівым,
У гарсэціку расшытым,
Нібы ляльку, што набыта
Ў Сукенніцах, у кіёску;
Паясок, гарсэт, спадніца,
Стужка зграбненькая ў косках…
І цяпер *мая* адно ты,
Тварык твой, што так ільсніцца…
Нявеста. От, мне трошку ціснуць боты.
Жаніх. Мілая, здымі іх, можа.
Нявеста. Так зрабіў шавец, о божа…
Жаніх. Басанож танцуй.
Нявеста. Нявесце –
Босаю?! Не, так няможна!
Жаніх. І нашто ж усе турботы?
Нявеста. Ходзяць на вяселлі *ў ботах*.

## СЦЭНА 13

Ксёндз, Жаніх

Жаніх. Хто ж каму што забароніць?
Ксёндз. Ну, каго куды загоніць…
Жаніх. Так пільнуеце чужое?
Ксёндз. Не ва ўсіх адно і тое

Е на свеце: штось асобна
Мае кажны. З рэчаў дробных,
Непаглядных узнікае
Рэч вялікая заўсёды.
Жаніх. Можа, ксёндз не будзе згодны, –
Ў кожнага пад носам шчасце,
А раз так – бяры свабодна!
Слухай толькі голас сэрца,
Не давай сябе абкрасці.
Ксёндз. Ды не кожнаму, мой пане,
Лёс адзін і той даецца.
Як ухопіць хтось,
а – не дастане?

## СЦЭНА 14

Жонка раднага, Марына

Жонка раднага. Панны, скачуць так шыкоўна –
Аж без памяці…
Марына. Цудоўна!
Чэпец як за талію мяне ўхапіў,
Закруціў у танцы, вёў у кола потым –
Зоркі мне ўваччу замільгацелі,
Нібы ў небе коннікі ляцелі
Ды выпісвалі кругі на здзіў…
Жонка раднага. Ты дарэшты залілася потам:
Можаш і прастуду падхапіць.
Марына. І я думаю сабе: адно –
Гэта золата, другое – медзь.
Жонка раднага. Ну, табе ўжо варта пасядзець…
Марына. Думка так мая ляціць, ляціць…

## СЦЭНА 15

М а р ы н а, П а э т

Паэт. Электрычны бляск – не вочы!..
Марына. Разагрэлася я ў скоках.
Паэт. Пані так кахання хоча…
Сэрца пані – так далёка.
Марына. Можа, гэта сэрца пана…
Паэт. Пані лупіць беззаганна…
Марына. Гэта як і што такое?
Паэт. У паветра, а – шырока.
Марына. Сэрца пана так далёка –
Толькі ўмее пнуць нагою…
Паэт. Як жа гэта?
Марына. Не так строга:
У паветра, ды – высока.
Паэт. А навошта?
Марына. Ні для чога.
Паэт. Кепскага няма…
Марына. Нічога!
Паэт. То – загадка?
Марына. Сфінкс.
Паэт. Гаргона.
Марына. Коцяць так гарбуз, мой пане,
Па-сучаснаму натхнёна…
Бо я марнасць слоў дазвання
Ўбачыла, якім забава –
Быць у арэоле славы.
Паэт. І Пан Бог, і Дзэўс, вядома,
У сябе ў нябёсах – дома.
Песціць лепш за ўсё Псіхея…
Тое, дзе хто спіць высока,
Пані слаба разумее:
Гэтага не бачыць вока.
Марына. Што ж, я слаба разумею,

І маё не бачыць вока;
Не стаю я на катурнах:
Так там тлумна, шумна, хмурна.
Стыль вялікі вычварэнстваў –
Колькі іх было з маленства…
Шмат высокага й малога,
Ўсё выключным выглядае,
Навізной сваёй здзіўляе –
Толькі ж новага нічога…
Паэт. Чую: вось яна, прамова!
Марына. Гэта словы, словы, словы…
Паэт. Так пачуцці спеюць, спеюць –
Ды шкада, калі змарнеюць…
Марына. Што вы, што вы? Пан заўзята
Думае, што я занята?
Паэт. Бачу: пані – Бог за сведку –
Надта хоча этыкетку
Прыляпіць мне неўзаметку.
Марына. Шкода, як пачуцці спеюць,
А пасля зусім змарнеюць:
Пан паэт, ах, Бог за сведку!
Паэт. Вось жа, ма́ю этыкетку.

## СЦЭНА 16

З о с я,   Г а н н а ч к а

Зося. Хацела б я кахаць, каб надта
Глыбока, моцна і заўзята…
Ганначка. Да скокаў музыка штурхае,
І сэрцайка, відаць, так скача –
Наплачацца яшчэ, няйначай,
Пакуль мілосць яго стрымае;
Хай сэрцу ўцеха будзе мілай:
Яшчэ цябе шмат слёз, магілаў
Ад той мілосці аддзяляе.

Зося. Чаму не ў згодзе шчасце з лёсам?
Прыходзіць шчасце не ахвоча,
А праблескі згасаюць проста,
Перш чым заззяюць ясна вочы?
Ганначка. Спазнаеш скрухі шмат, бяды,
Пакутаў мусіш нацярпецца,
А шчаснай зробішся тады,
Як напакутуецца сэрца.
Зося. Каб Доляй кіраваць людскою
Ды стаць Фартунаю жаданай –
Руно б я скрала залатое,
Каб людзі мелі ўсё затанна;
Каб шмат пакут не спазнавалі,
Не йшлі бясконцаю раллёю –
Як вязні за сваёй сахою –
Ды каб напоўніцу кахалі
І каб заўжды, наколькі можна,
Меў нітку залатую кожны.
Ганначка. А Паркі тут, нажніцы ўзяўшы,
Ўраз перарэжуць ніткі вашы…
Зося. І людзям што за пакаранне –
Такое нешчаслівае каханне?
Хто вінаваты, што пераразаць
Так любяць Паркі ніткі вашы?
Ах, як хацела б я кахаць!
Ганначка. Мусіш наплакацца ты ўволю,
Здзекаў сардэчных стрываць, катаванняў,
Перш чым ты возьмеш шлюб у касцёле
Ды атрымаеш дазвол на каханне.
Зося. Я б не згадзілася з доляй такою –
Гэта іначай сабе я ўяўляю:
Каб нехта побач са мною з’явіўся,
Жарсцю вялікаю ўраз запаліўся
І здагадаўся, і не памыліўся,
Што я яго ўжо таксама кахаю

Ўсёю душою, ўсёю душою.
Ганначка. Я б не згадзілася з доляй такою:
Як абысціся без перажыванняў?
Трэба нямала мець выпрабаванняў,
Каб навучыцца ўшаноўваць каханне,
Зося. Ну, тут пайду я дарогай *сваёю*…

## СЦЭНА 17

Ж а н і х,   Г а б р э й

Жанік. Бачу на вяселлі Моўшу!
Габрэй. Збоку тут стаю, прыйшоўшы…
Жанік. Ну, ты ж сябра наш харошы.
Габрэй. Сябра я табе, якіх
Тут не надта каб і любяць..
Жанік. Ёсць і тыя, што вас чубяць
І што крывяцца – таксама.
Габрэй. Хай і крывяцца, ды іх
Маю шмат, бо ім патрэбны грошы.
Жанік. Пад заклад.
Габрэй. Бо правіла такое…
Сёння вы – ў стракатых строях.
Заўтра ж пан яго больш не надзене?
Жанік. То ж сялянскі польскі строй.
Габрэй. Вы – ў нацыянальным… завіхрэнні.
Што ж, вам можна. Надта ладны крой.
Гэта ўсё было.
Жанік. Час гэта верне.
Габрэй. Каб далей за нос вам бачыць свой,
Можа, штосьці прынясе нам іншы раз…
Жанік. Акурат мы гэткі й маем час.
Габрэй. Скрыпку я люблю, вы ж – кантрабас.
Жанік. На вяселлі Моўшу падыграць гатовы.
Габрэй. Ад дачкі я ведаю: жанік
Адчувае гранне адмыслова.

Жанiх. Панну Рахiль мы б тут бачыць хацелi.
Габрэй. Мелася сама прыйсцi –
Ну не ўвесь жа час сапцi! –
Бачыць публiку й вяселле:
Выкшталцоная…
Жанiх. Дам веры.
Габрэй. Любiць музыку без меры,
Замуж дзяўчына не пнецца штосьцi.
Можа ўладкую яе дзе на пошце.
Звышсучаснай, сказаць можна,
Вырасла дачка, урэшце,
Нiбы зорка…
Жанiх. Спадарожнiк?
Габрэй. Прачытала кнiжак горы,
Добра знаецца й на цесце.
Оперу ўжо чула ў Вене,
Мые споднае сама. У захапленнi
Ад таго, што Пшыбышэўскi творыць;
Заплятае косы ў кола,
Як на iтальянскiх абразах анёлы –
Так, як…
Жанiх. *A la* Батычэлi.
Габрэй. Можа б, пане, захацелi
З ёй пагаварыць?..
Жанiх. Хацеў я раз, хацеў,
Толькi панну не заспеў.
Габрэй. Любiць так яна паэтаў,
Нават i сялян от гэтых –
Iм заўжды дае ў пазыку,
Аж бы закрычаў я крыкам!
I душа балiць мне надта,
Я лiчу, лiчу заўзята:
Дзе пачуццi ёсць, дзе – страты.
Вам навошта браць сялянку?
Шмат ёсць выкшталцоных паннаў…

Жаніх. Не хачу зямлі, напханай
Паннамі ад Батычэлі.
Хоць апошніх і люблю я –
З імі ж толькі час марную.

## СЦЭНА 18

Жаніх, Габрэй, Рахіль

Рахіль. Ах, bonsoir.
Габрэй. Дачка мая прыйшла.
Рахіль. Хмурынка адна мяне вяла,
Вільгаць, туманы́ начныя…
Хата са святлом у вокнах,
Як каўчэг над морам поўным,
Гразь наўкол, сялянаў п’яных
Мноства, крыкаў несціханых…
Хата са святлом у вокнах,
Грае музыка ўначы,
Сэрцу ўцеху несучы,
Як каўчэг – чароўным чоўнам…
Тут я… татэ мне дазволіць?
Габрэй. Хай дачушка пасваволіць.
Я – жыдок, нялюбы пану,
А яна шануе тату –
Да *яе* хачу пашаны.
Жаніх. Танчыць хочацца вам надта,
Цягнуць да сябе вас Паркі –
Ўтульна будзе тут вам ноччу:
Скокі *там*, спеў – хто што хоча;
А заклад *тут*, гаспадарскі…

## СЦЭНА 19

Ж а н і х,   Р а х і л ь

Рахіль. Ensemble – нібы ў казцы, хата
Распетая спевамі, быццам
Звіняць, не сціхаюць салоўкі…
І строі з малюнкам вясёлкі.
Жаніх. Ну так, матылькам абы збіцца
Навокал запаленых свечак
І крылцамі лопаць, дарэчы…
Рахіль. Вера шчырая такая,
Матылькоў сюды збірае:
У святле не бачаць яркім,
Што тых свечачак агаркі
Крылы могуць ім абпекчы.
Жаніх. Зляцелі да нас вы на крылах?..
Рахіль. На іх мая думка застыла…
Йшла я па калені ў брудзе
Ад карчмы да хаты спеўнай,
Дзе так весяляцца людзі;
Пэўна ж, грамадзе тутэйшай
Хутка ўзняцца лёгка будзе
Да паэзіі вышэйшай –
Як штрыхоў дадаць ёй пэўных.
Жаніх. Я душой аддаўся ўсёю
Гэтай цішы ды спакою,
Стрэхам, паплавам, садам,
Траўням, дням жніва, лугам.
Столькі дзён пражыў панылых
Я сярод муроў зацвілых,
Шэра ўсё было наўкола,
А цяпер я маладою
Цешуся, такой жывою
Некранутаю красою.
І гляджу, гляджу вясёла,

Ажна мне займае мову,
На народ такі здаровы,
Хоць і рэзкі, і суровы,
Што было – паблякла, знікла,
Я ж душой аддаўся ўсёю…
Напішу яшчэ пра тое,
А цяпер я так нязвыкла
Ўзнёслы на вяселлі гэтым
І лячу… лячу без мэты.
Басанож, сяк-так адзеты
Я хаджу ўжо дзён са трыццаць –
Лепшаму ж і не прысніцца!
Я, здароўя й сілаў поўны,
Пачуваюся цудоўна!

## СЦЭНА 20

Ж а н і х, Р а х і л ь, П а э т

Паэт. Да цябе нявеста слова
Мае.
Жаніх. Мушу пакланіцца
І да пані да сваёй вярнуцца.
Рахіль. Так глядзіць яна… Наткнуцца
Можаце, напэўна, на вымову.
Жаніх. Ай, ну гэта ўсё – драбніцы.

## СЦЭНА 21

Р а х і л ь, П а э т

Рахіль. Вы цяпер са мною раптам…
Паэт. Я да вас цікаўнасць маю.
Рахіль. Я ж гляджу і разважаю.
Паэт. Позірк першы самы важны?
Рахіль. Ён, па-вашаму, няўважны?

Паэт. Гром грыміць.
Рахіль. Не трапіць можна.
Паэт. Панне я скажу вяльможнай,
Што Амур цаляе трапна.
Рахіль. Ах, Амур… яго страла…
З крыкам кідаецца ён
Вослеп:
«Знішчу і спалю датла!»
Паэт. Мчыць наўслеп Белерафонт;
Вершамі *вы* набрынялі,
З Музай вашай пракрычалі
Нешта – і маланка б'е!
Рахіль. Значыць, мне варожаць чары
Стаць Амуравай ахвярай?
Паэт. Вы такая ўся з сябе –
Галатэя!
Рахіль. Німфа? Гэтак
Кажа ўсё юрыст адзін,
Практыкант і неафіт.
Паэт. Чалавек, які працуе,
Вам нялюбы?
Рахіль. Без імпэту
І ўяўлення ён зусім:
Здатны, каб за абы-кім
Паўтараць, што ў прозе, ў вершах
Прачытаў – прытым не першы.
Ён зусім не індывід…
Паэт. Вы б хацелі мець адразу?..
Рахіль. Як ад яблыняў, ад кветак,
Хмарак, сонца, жабак, гадаў,
Ад квітнеючага саду –
Ў тым паэзіі прынада,
Каб яна, нібы навала,
Як віхор, усё змятала…
Фасфарызавала – гэтак

Блізкая я вам, паэтам.
Вось жа…
Паэт. Да чаго ж вас цягне?
Рахіль. Слодычы душа так прагне,
Шчаснага кахання, жарсці.
Паэт. А ў каханні каб – свабоды?
Рахіль. Тым я трызніла заўсёды!
Паэт. Каб жа літасць паказала
Над яе нядоляй шчасце?
Рахіль. Я ж бы й марыць перастала.

## СЦЭНА 22

Жонка раднага, Жаніх

Жаніх. Як жаніцца, дык жаніцца!
Жонка раднага. Поўдзень хто пражыў жыцця,
Надта мець хацеў бы ўцеху.
Жаніх. Шлюб – як быццам ты напіцца
Захацеў каля крыніцы:
Соладка – да забыцця.
Жонка раднага. Ў студню ўскочыш з галавою…
Жаніх. Што ўжо станецца са мною?!
Жонка раднага. Ажаніцца – бы ўтапіцца!
Жаніх. Хай больш весялосці, смеху
Будзе, радасці вялікай
На вяселлі! Хай музыкі
Усё гучней і гожай граюць,
Напяваюць і гукаюць,
І да скокаў падбіваюць!
Хай іх музыка ліецца,
Басам, флейтаю віецца,
Плача тонкаю струною,
Не дае зусім спакою!
Хай цвыркоча і грукоча

Ўдзень і месяцовай ноччу,
Грукатам млыновых крылаў –
Так натхнёна, гэтак міла!
Хай жа не сціхаюць гукі,
Пералівы, грукі-стукі,
Аж пакуль ад гэткіх скокаў
Не паваляцца ўсе ўпокат,
Не паснуць ураз глыбока…
Чарамі наш свет багаты –
Кожны зробіцца мне братам,
Кожны зробіцца мне сватам.
Што за госці – Бог зайздросціць!
Столькі радасці й мілосці…
Сон на ўцеху й гранне тое,
Бо жыццё было цяжкое:
Ад яго ўцякайма ў сны,
Ў казкі, ў спевы, ў рэй начны…
Спацьмем, бо жыццё цяжкое;
Трэба сілу мець на тое
Велізарную, аднак жа,
Каб на свеце тым заважыць
Між хлусні, мітрэнгі, фальшы.
Я заснуў бы, ўцёк у сны,
Ў казкі, ў спевы, ў рэй начны –
Там, дзе сэрцу так утульна…
Жонка раднага. Шмат занадта слоў агульных.

## СЦЭНА 23

Ж а н і х,   П а э т

Жаніх. Як табе тут на вяселлі?
Паэт. Мне здаецца, гэта я – жаніх…
Жаніх. Мабыць, сведка, як заўсёды, я
Не майго чагось – чужога,
Прыгажосці й шчасця не маіх.

Паэт. А… дарэмная трывога:
Шчасце – хто яго падзеліць,
Разбярэ якое ліха?
Жаніх. Толькі ціха, толькі ціха…
Каб дайшоў да шчасця тога,
Дык намацаў бы мелодыю.
Паэт. Што – на верш?
Жаніх. Ды на ўражанні найперш
Шчырыя, на запяванні
З найінтымнейшай кантычкі
І на першыя спатканні
Ў полі, у садку ля дзічкі,
На размовы ля аборы,
Ў сенях, склепе, у каморы,
Шлюбны каб чакаў вянец
Пад канец.
Паэт. Мне дзіўна: тое,
Што нам проза ўсё тлумачыць,
Гукі, рыфмы перайначаць
І па ўсім пісьменстве дым
Здолее пайсці.
Жаніх. Тое самае зусім
У прыродзе: пах губляюць
Ружы, а яго ўдыхаюць
Тыя, хто маркотны дужа…
Паэт. А каб выстраіцца ў ружы
І на вогнішча ўзысці,
Каб пачулі людзі,
Як спяваць ім будзе
Той, хто, у вянку ружовым,
Паміраe.
Жаніх. Гамерава лютня чакае!
Паэт. А Лёс, а Агонь, што палае,
А тое, што ззяе высока,
А шэрая пасма аблокаў,

Што з полымя ўвысь узышла?
Жаніх. Смерць?
Паэт. З таго пэўна б Сіла была!

## СЦЭНА 24

Паэт, Гаспадар

Паэт. Гэткую ўяўляю драму,
Поўную слёз, скрыгатання –
Нібы паланэз; тут лямант,
Енк і ветру падвыванне.
Пра вялікае каханне
Мару я пад віхру гранне…
Высечан з граніту глыбы
Ўзброены ваяр-герой,
Рыцар, селянін, qui amat;
І забаўная ж таксама
П'еса, у якой шмат смутку…
Гаспадар. І мы адчуваем нібы:
Весела глядзіцца драма,
А прыносіць столькі смутку.
Паэт. Вымысел падай нам, ну-тка…
У палоне нас трымае
Постаць даўняя такая,
Што ўсё бліжай падступае –
Старадаўні, збройны рыцар,
Што нічога не баіцца –
Акрамя сваіх злачынстваў;
Ад пакуты церпіць сэрца:
Ён стаіць, нібы закляты,
Ля калодзежа-крыніцы
І ў ваду глядзіць заўзята,
А рукой як дакранецца
Да яе – каб хоць адчуць
Прахалоды, нахіліцца

І паспрабаваць напіцца,
Мусіць чэрпаць каламуць
Ён з калодзежнай вады –
Польскі вось такі святы…
Гаспадар. Драматычна і прыгожа –
Ўсё ідзе ў нас драматычна,
Так маштабна, небатычна;
Як застогне гэткі волат,
Польшча ўся застогне з ім –
У гарах, палях чуцён
Будзе енк, па краі ўсім…
А хто ўцяміць, што за ён?
Паэт. Сумны рыцар заблукалы,
Ён і пан, якіх ёсць мала,
Сам на замку ў засмучэнні,
А навокал – спусташэнне…
Тут вось люд наш, гэткі просты
Ўнізе замка, пры двары,
Пан напышлівы – ўгары…
Люд наш просты і адважны,
Рыцарскі гарт, захапленне,
Боскі гнеў нястрымны, страшны…
Гаспадар. І ўнутры ў нас, проста ў кожным,
Бура ціха выспявае,
Потым лупіць перунамі,
Ўзносіць прывіды над намі
Даўнім ладам, даўняй згодай,
З сэрцам са сваім заўсёды…
З намі прошлае ў змаганні;
Памяць нешта прыгасае –
Штосьці ў кожным узнікае…
Паэт. Кожнага дух уздымае –
Часам ажна дых займае.
Каб душа трыумфавала,
Сіла нейкая нас пхала

Да здзяйсненняў пекных крочыць,
Ды – штодзённасць нам прарочыць
Убаку быць; лезе ў вочы…
Кожнага дух уздымае –
Каб жа выйсці з пасткі гэтай
Ды крывёй заліць паўсвету,
Проста ўстаць, не пнуцца бокам
Ды вялізныя ўзняць крылы,
Ўдаль памкнуцца што ёсць сілы!
Ды штодзённасць дабівае,
Лезе ў рот, у вуха, ў вока,
Блізкае ўсё аддаляе,
Сэрца пхае ўніз, глыбока,
У падземныя пласты,
І яго не чуеш ты...
Гаспадар. Глебу так аруць у згодзе
З пакалення ў пакаленне;
То душа сябе раскрые,
А то велічы жывыя
Угару ўзнясуцца цені;
То герой мільгне адважны
У прасторы ледзь дасяжнай;
З пакалення ў пакаленне
Блякне цень яго штораз,
Быццам яму знікнуць час…
Кожны свой агонь разводзіць,
Маючы святых сваіх.
Паэт. Нас нібы праклялі ўсіх,
Мы ў палоне мрой жывых;
Прывіды ў нас і ўяўленні
Абуджаюць захапленне;
Не зрабіўшы чынаў самі,
Марамі жывём і снамі;
Ўбачанае ў наваколлі
Пазбаўляе сілы, волі:

Ў мужыках мы бачым часта
Ледзьве што не веліч Пястаў.
Гаспадар. Бо ў іх нешта ж ёсць ад Пястаў-
Каралёў – нямала, можа!
Я між іх гадоў з дзясятак,
Ёсць з суседзямі парадак;
Як арэ ён, сее збожжа –
Выглядае гэтак гожа
І шануе свой занятак,
Годнасці не ўбачыш болей.
Як ён моліцца ў касцёле
Пранікнёна і заўзята…
Шмат што мае ён ад Пястаў:
Сіла наш мужык, і баста!

## СЦЭНА 25

П а э т, Г а с п а д а р, Ч э п е ц, Б а ц ь к а

Чэпец. Бог у помач!
Бацька. Я вам рады!
Гаспадар. Куме, бацька, шчасця, ладу!
З Кракава ж гасцей нямала!
Бацька. Што для нас прывычкай стала,
Ім жа навасць аж такая;
Бытта вера ў іх другая,
Кажнага ўсё ў нас здзіўляе.
Гаспадар. Дык ад млявасці, дарэчы,
Новае іх добра лечыць.
Чэпец. Вас дзярэўня прычакала:
Як яна вам, пан шаноўны?
Паэт. Вельмі ўтульненькі куточак.
Чэпец. Ну, дзе менш, дзе болей ладу;
Горад збэсціўся, паночак, –
А ў дзярэўні, у цішы,
Трошку е яшчэ душы.

Гаспадар. Каб жа вам…
Чэпец. Нашто тут словы?
Мы, калі што дзе-якое,
Дзела етае жывое…
Да ўсялякага гатовы:
Ў кажнага вісіць каса…
Бацька. Сіла – языком часаць.
Чэпец. Толькі дзе гукне нас хтосьці,
Кулакі е: каму нада,
Пашчытаю добра косці!
Гаспадар. Як жыдку таму?
Чэпец. Жыдка
Добра я тады натоўк:
Уваліў яму па пысе –
Ажна ён крывёй заліўся,
Ды не ўпаў, бо ж там натоўп.
Выбары былі тады
Між сакольскай грамады –
І чаго яго папёрла
Ўперадзе ўсіх дзерці горла?
Добра я яго натоўк,
Уваліў жыдку па пысе –
Ажна ён крывёй заліўся,
Ды не ўпаў, бо ж там натоўп.
Гаспадар. Вы там Птаха выбіралі?
Чэпец. Хай ляціць, калі ён птах.
Паэт. Крыллем птахі ў вас махаюць?
Чэпец. Птахі розныя бываюць,
Дый той чалавек – адно,
А другі – саўсім другое
Не дзяўбе арол гаўно;
Рознюся і я ад вас.
А калі прыспее час,
Пане, мы напагатове,
Нас не падвядзе здароўе.

Паэт. Біце хоць каму паклоны,
Караля шукайце Пяста.
Чэпец. Не патрэбныя ўгаворы:
Я зямлю ару – і баста!
Знаю я, дзе хрушч, дзе воран,
Бо зямлю ару – і баста!
Гаспадар. Брат заўсёды ў падарожжах.
Чэпец. Воддыху няма ў вас, Божа!
Эх, сюды б вам: ажаніцца
Ды паняць, дзе тут пшаніца,
А дзе жыта – на зямліцы
Е на собскай як прыжыцца!
Паэт. А мяне так вабіць свет…
Чэпец. Дык жа ж зноў…
Бацька. А ты як след
Зразумей: яму не ў нораў...
Паэт. Вольны я, нібы той жораў:
Прыйдзе лета – прылятаю,
З руж гняздо раблю; салому
З вашых стрэхаў нацягаю,
Сяду ўверсе, назіраю,
Каб якога ўбачыць руху,
Дачакацца буры, грому;
У мяне ідзе ўсё ў рост,
Нібы нейкі тут пагост:
Пышных траў абшар бясконцы,
Спапяляны лютым сонцам,
І скала паміж руінаў
З Рэйсдалевай той карціны…
А калі мяне параняць,
З вастрыём стралы ў баку
Буду жыць – і ні адхлання,
Ні ратунку я не ўбачу.
Чалавеку на вяку
Боль цярпець наканавана:

Уцякае ён за мора,
А ў душы ў яго сумненні.
Сэрца ж хоча мець збавенне
Ў хвалях шуме, на прасторы,
У вірах, глыбінях водных;
Тая, што ўва мне, страла
Сілу болю мне дала.

Чэпец. З бабаю жанісь вясковай –
Хапнеш радасці дзяшовай!

Гаспадар. Ну, каб шлюб не зладзіць новы,
Стараста наш не забудзе!

Чэпец. Хочу, штоб жаніліся людзі,
Штоб была між імі згода,
Разам штоб былі заўсёды –
І каго баяцца будзе?

Гаспадар. Вас ніхто тут не асудзіць.

Бацька. Вы жаніць хацелі пана
Проста з мосту й не марудзіць.
А ён – жораў… Хто не спетрыў?

Паэт. Я вандроўны птах…

Чэпец. Змей у паветры.

## СЦЭНА 26

Б а ц ь к а, Д з е д

Дзед. Гляньце, куме, от такая
Вам аказія прыспела.

Бацька. Бог дае, Бог забірае;
Я й не сніў такое дзела…

Дзед. Ну, шумлівыя паны!
Ладныя паны! Ды стану
Бытта не таго яны.

Бацька. Ды нашто шукаць тут стану:
Спадабалася вось пану…
Людзі ўсе – адны і тыя;

Нудзяцца паночкі самі –
Ну й забавы маюць з намі.
Дзед. Спраўныя цяпер забавы,
А даўней усёй аравай
Ураджай разнёй знімалі,
На сярмягах – след крывавы...
Бацька. Ну, паганцы лютавалі…
Я тут, праўда, ні пры чым.
Пэўна, тое ўсё ўчынялі
Д'ябал ды агонь пры ім.
Ты ў спакусу нас не ўводзь,
Божа, Пане наш найсвентшы…
А вы ж ведалі…
Дзед. Ты меншы
Быў тады. А я, бывала,
На свае ўсё бачыў вочы:
Ад крыві зямля адтала…
З чорнай хустай Прывід крочыў,
Ёй махаў, і кругаверць
Рассявала Смерць…
Бацька. Страх божы…
Дзед. Люду, як сляпнёў тых, можа,
Сотні, тысячы скасіла –
На зямлі, пад плотам целы…
Бацька. Дай спакою ім шматкроць.
Дзед. Ты жагнаешся дарма!
Бо на чолах – знакі там:
Чорных шмат, чырвоных плям.
Кары Боскай час, разні
Быў у запусныя дні.
Бацька. Дзед, гляджу на вас, і крук
Бытта над вяселлем кружыць.
Дзед. Гэй, але ж, мой даўні дружа,
Стане панам твой унук!

## СЦЭНА 27

Д з е д, Г а б р э й

Дзед. Тут во танчаць, там гуляюць…
Габрэй. У карчме падмесці трэба,
  Вам жа – гулі на вяселлі…
Дзед. Ім спраўней скакаць у брудзе,
  Тут зусім не падмятаюць –
  Аднаму жыдку турбота…
Габрэй. Балбачыце, з вас не ўбудзе,
  Дома дасць дачка работу.
  Што́ круціцца тут, прыйшоўшы?
Дзед. Не дружбант таксама й Моўша.
Габрэй. Ну, я тут інтэрас маю.
Дзед. Штоб пайсці ў карчму хацелі…
Габрэй. Ах, вяселле! Гвалт да неба –
  Ні канца няма, ні краю.
Дзед. З места ён, яна – сялянка;
  Шмат гасцей тут гарадскіх:
  У сяле віталі ўсіх,
  Як належыць.
Габрэй.                    Пагулянка
  Дармавая: тут паскачуць –
  Потым дзе іх хто пабачыць?
  Хтось валок, а хтось уцёк.

## СЦЭНА 28

Г а б р э й,   К с ё н д з

Ксёндз. Значыць, пане арандару,
  Заўтра!
Габрэй.     Ведаю свой тэрмін.
Ксёндз. Моўша надта акуратны,
  Мой апраўдвае давер ён.

Габрэй. Можа ў чым жыдок і непрыдатны,
Ды калі гамонка йдзе пра грошы,
Ён заўжды дзялок харошы.
Ксёндз. З мужыкамі ж – проста кара:
Ў іх заўжды парожні кошык!
Габрэй. Я бяру й плачу.
Ксёндз. Я даў і ўзяў.
Габрэй. Вось маё, вось – ваша.
Ксёндз. Ты смяешся?
З мужыка не надта разжывешся.
Габрэй. Дабрадзею, гляньце: за сталамі
Мужыкі ўжо б'юцца кулакамі!
Мацьку Чэпец уваліў па лбе.
Ксёндз. Мацек нібы й не адчуў ані.
Габрэй. Можа шкоды й шмат не прычыніў
Чэпец гэтай мазгаўні.
Ксёндз. Ліха з імі, з тымі мужыкамі
Моўша, вы ж частуеце іх самі:
Даўняя гісторыя між намі…
Габрэй. Ну, бо краму маю ж у сябе:
Заўтра Чэпцу час плаціць –
От і ўзяўся ўсіх мясіць!
Ксёндз. На сялянах зарабляеш,
Зыск падвойны з іх здымаеш.
Габрэй. Хочаш клопату якраз? –
Забірай карчму.
Ксёндз. Не час.
Габрэй. Час на грошы.
Ксёндз. Рэч святая –
Доўг.
Габрэй. Жыдок не забывае.
Ксёндз. Чэпцу ўжо скажы…
Габрэй. Балюе Чэпец
З хамамі – хто ж бестыю зачэпіць?

## СЦЭНА 29

Габрэй, Ксёндз, Чэпец

Чэпец. Што ў вас можа да мяне быць?
Ксёндз. Зноўку вы там завяліся!
Чэпец. Трошку ён дастаў па пысе,
Ды нічога: ўжэ абмыўся.
Ксёндз. А вам так і не сядзіцца –
Штоб пабіцца, пасварыцца.
Чэпец. А чаго той чмут сабачы
Упіраўся? Я ж гарачы…
Габрэй. Пане Чэпец, вы павінны
Заплаціць за канюшыну
Мне да заўтра…
Чэпец. Ах ты, гіцаль!
Лжэш! Вам абы пажывіцца,
Кроў смактаць, качаць у брудзе,
За грашы людзям паскудзіць.
Ксёндз. Пане, трэба расплаціцца!
Чэпец. З тры капы тэй канюшыны
Д’ябал мне, відаць, падкінуў –
Не сплачу!
Ксёндз (*да Габрэя*). Падайце ў суд.
Чэпец. Вы ж напрыдумлялі тут,
Дабрадзею мой харошы,
Што карчма цяпер – у Моўшы.
Ксёндз. Вы ж не хочаце плаціць.
Чэпец. Абдзіраеце занадта!
Габрэй. Завысокая аплата –
Пагаджуся! Ксёндз хай скіне…
Чэпец (*да Ксяндза*). Шкуру штоб з яго злупіць!
Ксёндз. З таксай тут не размінуцца.
Габрэй (*паказваючы на Чэпца*).
Я ксяндзу, пакуль *ён* вінен,
Не сплачу.

Ксёндз (*да Чэпца*). Плаціце!
Чэпец. Людцы,
Хто – жыдок дзярэ хужэй,
Ці наш ойча-дабрадзей?!
Ксёндз. Самагон…
Габрэй. Бяры дзе хочаш!
Чэпец. Штоб на вас кадук! Ах, ойча,
Мне прабачце: я на груцу
Стоўк бы, паламаў бы косці
Брату роднаму ад злосці.

## СЦЭНА 30

Жаніх, Гаспадар

Жаніх. Вось дык сварка! Вось дык лямант!
Гаспадар. Ну, такі ў іх тэмперамент!
Б’юць эмоцыі праз край:
Толькі зброю ў рукі дай –
Шугане пажар такі;
Блісне нож – забудуць Бога,
Пойдуць нішчыць, рэзаць проста,
Як тады, у сорак шостым;
Гэта ж нашы мужыкі.
Жаніх. Гэта ж трэба… жах які!
Гаспадар. Хваляць запускі да сёння…
Жаніх. Я размовы чуў пра тое –
Лепш не ўзгадваць пра ліхое:
Вёска польская, іначай,
Здасца пеклам: зброд сабачы
Навакол атруціў гоні –
На сярмягах кроў, на скронях.
Пра сялян вяду памоўку...
Гаспадар. Можа ўсё вярнуцца зноўку.
Жаніх. Мы пра тое ўсё забылі:
Дзеда як пілой пілілі…
Мы пра тое ўсё забылі.

Гаспадар. Бацьку і майго злавілі:
Хтось матыкай біў і тыкаў;
Акрываўленага гналі
І на лёдзе дабівалі.
Мы пра тое ўсё забылі.
Жаніх. Як жа памяняўся люд,
Як жа лёс усё сплятае!
Мы пра тое ўсё забылі –
Пра пакуты, беднасць, бруд;
Наш убор – з паўліна пер’е.
Гаспадар. Праз прыроду люд нявер’я,
Спадзяюся, не набудзе;
І з таго хоць нешта будзе.
А прырода з кожным годам
Нас глядзець, шукаць змушае,
Ці з таго хоць нешта будзе?
Так, змяняе нас прырода:
Над палямі подых ветру,
Дрыгатанне дзесьці ў нетрах.
Па́раю зямля ўздыхае,
Што развейваецца ў нівах;
Шмат тут глебаў неўрадлівых,
Шмат было багоў і будзе –
Саступаць не варта: ў людзе
Вера ўсё ж яшчэ жывая.
Жаніх. Лёс усё сплятае – дзіва!
Гаспадар. Дзіва: лёс усё сплятае.

## СЦЭНА 31

Гаспадар, Ксёндз

Гаспадар. Ойча, хочаце ад’ехаць,
Коней зараз пададуць…
Ксёндз. Слаўна час праходзіць тут;
Свой куточак, свой жа люд.
Маладыя ж – проста цуд!

Гаспадар. Шмат цікавага, уцехаў.
Страмянную!
Ксёндз. Страмянную!
Гаспадар. «Курдаш» запяём!
Ксёндз. Старую
Песню да застолля.
Гаспадар. «Курдаш» хай гучыць пад столлю!!!

## СЦЭНА 32

Г а н н а ч к а, Я с і к

Ганначка. Ясік, дзякуй!
Ясік. Добра скачам?
Ганначка. Добра, потым зноў патанчым.
Ясік. Абразком святым няйначай,
Я паненкай захапляўся.
Ганначка. Танчыць зноў пайду да Яся.

## СЦЭНА 33

К а с п а р, Я с і к

Каспар. Слухай, Ясічак, дружбанце,
Што табе скажу я, браце…
Адгадай, пра што я.
Ясік. Ну, а што ж такое?
Каспар. Панны ўпадабалі нас.
Ясік. ...Можа й так яно якраз.
Каспар, слухай жа, дружбанце:
Раскажу табе я, браце…
Адгадай, пра што я.
Каспар. Ну, кажы пра тое.
Ясік. Можа, з нас і кпяць дзяўчушкі...
Каспар. Ну, глядзяць хай добра дружкі:
Мы ж тут – не абы-якія.
Ясік і Каспар. Ну, ці от, як е, такія.

## СЦЭНА 34

Ясік.

**I.** Пёры я з паўліна ўзяў,
Пер'я я сабе накраў –
Маю ўбор панадны.
Ну ж маёнтак ладны,
Ясік, ты сабе пастаў!

**II.** Буду панскі мець дамок,
Ладны з золатам мяшок,
Пёраў я з паўліна
Накуплю і кіну
Проста так людзям пад бок!

## СЦЭНА 35

Ж а н і х,   Ж о н к а   р а д н а г а

Жаніх. Хай балбоча хто што хоча:
Ці то дзіва, што вяршкоў –
Не вадзіцы – прагнуць вочы,
Што я траціць не ахвочы
На залёты шмат гадоў
Ды чакаць яшчэ аддана
Ласкі найяснейшай панны...
Жонка раднага. Не змяню я меркавання.
Жаніх. Меркаванне, разважанне…
Могуць тут вось аб камоду
Ўраз пачуцці ўсе разбіцца
Знаў такіх я, што, як быццам,
Заручыліся, і згода
Іх на пяць гадоў злучыла,
Ды камода… ўсё разбіла.
Жонка раднага. Не змяню я меркавання.

## СЦЭНА 36

П а э т,  Р а х і л ь

Паэт. Як бы пані пакахала
Селяніна…
Рахіль. Хлопцаў гожых
Я люблю, і мне, быць можа.
Пэўны б падышоў тыпаж,
Каб вярнуцца да прыроды…
Паэт. Ну, а гэта не бяда ж:
Нехта знойдзецца заўсёды.
Скардзіўся вось бацька ваш
На літаратурны тон...
Рахіль. Мне ён шмат што дазваляе
І паводзіны ўхваляе.
Ці ж яно было б цікава –
Гандаль, грошы… я і ён?
Паэт. Маеце вы ўзнёслых слоў
Шмат да бацькі й мужыкоў…
Рахіль. Я надта часта вершы чытаю.
Паэт. А самі пісалі?
Рахіль. Ды не, не жадаю…
Густ занадта добры маю,
Каб не пісаць: вельмі ж форму шаную.
Ды затое заўсёды ўспрыму я
Паэзію вечную тую,
Святую.
Мне ўсцешна, калі я адчую
Паэзіі святасць жывую!
Паэт. Вы са святымі гаворыце смела,
Запанібрата з воблачкам белым,
З ружай у садзе блізкія надта…
Пэўна, што панна цяпер бы хацела
Быць і з паэтамі запанібрата.
Рахіль. Ах, з мяне вы толькі кпіце,

А прыроды сэнс, між тым,
Стаў уцямны мне зусім.
Паэт. Вока хоць выкалі, ноч у двары;
Сэрца ў вас, панначка, жарсцю гарыць –
Хочацца быць не адной да зары
І не заснуць…
Рахіль. На хвілінку я прыбегла
Ў хату, дзе спяваюць, танчаць…
Матыльком сюды зляцела
На агонь, такі гарачы…
Ды пакорліва сыйду
Я дадому,
У мроях вачэй не звяду…
Калі ж закахаюся,
Дык, вядома,
Дашлю я вам ключ і цыдулку.
Паэт. Сцяліся, шукай прытулку,
Паэзія, тут і там –
У садзе, дзе дрэвы спяць,
Дзе мноства ружаў;
Як схочацца ў акенца
Зірнуць і выйсці паненцы,
Яна куст зачэпіць шалем,
І ейнай журботай ды жалем
Салома прасякнецца тут жа,
І скруха, і цень з куста ружаў
Пачнуць незнарок захапляць
Паненку…
Рахіль. Так-так…
Паэт. Тады дружбант нейкі зможа
Вам сэрца разварушыць,
І схочацца вам саграшыць.
Рахіль. Так-так, я пайду цераз сад,
Пачну азірацца назад,
А пан у акне хай варожыць…

ПАЭТ. Буду вас бачыць рад:
Як пойдзеце вы праз сад,
Блукаючы ў паўзмроку –
Напалову панна, напалову анёл –
І саламяны вас стрэне Чахол:
Такое штось, як у Бёрн-Джонса…
А мне будзе цёпла стаяць.
РАХІЛЬ. Не варта мяне шкадаваць:
Няма гэткіх сцюж,
Каб пах знішчыць руж,
Акрытых саломай
Як след. На вясну ж
Чахлы паздымаюць, вядома.
ПАЭТ. Узвышана гэта гучыць…
Ды пані… надзьмулася трохі?
РАХІЛЬ. Глядзіце: куст ружаў стаіць
Цяпер пад чахлом саламяным:
І перад ім я ціхмяна
З сваёй паэзіяй зверуся,
Якой я начулася ерасі,
Як грызлі й кусалі мяне,
Што я прыйшла закаханай:
Няхай жа Чахол зазірне
У хату ды стане ў куце –
Тады, можа, веры дасце,
Што вам не схлусіла, не,
Рахіль перад тым.
ПАЭТ. Ну, вас завуць Рахіллю…
РАХІЛЬ. Вы штосьці гэтым адкрылі?
ПАЭТ. Ах, чырвань вам – нібы аздоба,
Мне ваша імя даспадобы.
Няхай вам пацвердзяць госці:
Гучыць яно паэтычна…
РАХІЛЬ. Фантастычна…
Я вас прашу Мілосці

Паслухаць,
Паэзіі прагну для вас –
Яе каб раздзьмухаць;
Сюды, на вяселле ўраз
Збяруцца гром, кветкі, дрэвы,
Кусты, бліскавіцы, спевы…
Паэт. А з імі – Чахол!
Рахіль. Што, ужо верыце вы?!
У вас не ідзе з галавы
Салома, ноч, ружа прывялая
Ды Сіла, над светам паўсталая…
Паэт. Вяселлю можа здзівіцца свет:
Яно скалане зямлю!
Рахіль. За гэта я вас пахвалю;
Скажу я: adieu, даволі…
Вы мне цікавы, вы зноў паэт.
Паэт. Вы зноўку накінулі шаль.
А значыць, adieu?
Рахіль. Я толькі баўлюся, на жаль,
Pour passer le temps
І нічога болей.

## СЦЭНА 37

П а э т, Н я в е с т а

Паэт. Ах, нявеста, будзе так,
Як ты б толькі пажадала:
Ў позірку мілосць тваім.
Нявеста. Як? Я ж не магу саўсім…
Бытта я так прыказала?
Паэт. Як загад, твае жаданні:
Сёння ж ты, нявеста-кветка, –
Проста ягадка, Бог сведка!
Нявеста. Скуль так многа спадзяванняў
Маеце вы праз мяне няўзнак?

Паэт. Ты шчаслівая ў нас сёння,
Ты – нявеста. З ахвотай
Запрасі сюды істоты,
Што пякельныя напасці
Церпяць і чый дух няшчасці,
Страх адольвае – збавення
Прагнучы ды вызвалення.
Нявеста. Што вы – пра чарцей, пра духаў?
Паэт. Прыйдуць хай сюды паслухаць
Му́зыкі на тым вяселлі…
Нявеста. Як даць рады ў етым дзеле –
Памясціць гасцей усіх?
Паэт. Музыка пацешыць іх,
А пасля, як вы б хацелі,
Духі знікнуць, нібы дым.
Нявеста. Вы казалі многа дужа –
Хто б тут разабраўся ў тым?
От, і віджу зараз мужа.

## СЦЭНА 38

П а э т, Н я в е с т а, Ж а н і х

Паэт. Ах! Жаніх наш, ты ж – паэт,
І сваё сягоння свята
Ты спраўляеш, мілы браце!
Жаніх. Цешуся, і ў гэтай хаце
Я сабраў бы цэлы свет:
Радасці ў душы так шмат!
Паэт. Паглядзі ў акно: там сад,
Стуль Чахла цяпер паклікай.
Жаніх. Ха-ха-ха, прыйдзі да нас
На вяселле ты, Чахол!
Будзь вясёл:
Я, жаніх, цябе, як брата,
Запрашаю ў хату;
Ну, прыходзь, сядай за стол!

Нявеста. Е што выпіць, закусіць,
З намі весела пабыць!
Жаніх. Усяго тут так багата –
То прыходзь, Чахол,
За вясельны стол!
Нявеста. Прыхадзі, як е ахвота!
Паэт. Ха-ха-ха…
Нявеста. Ха-ха-ха!
Скора поўнач будзе – час,
Штоб ты ў хату йшоў да нас.
Жаніх. Ха-ха-ха!
Паэт. Ха-ха-ха…
Нявеста. Ці ён можа нас паслухаць?
Ён маўчыць, псяюха, глуха…
Жаніх. Хочаш некага – прыводзь;
Цешся з намі святам
І сталом багатым!
Нявеста. Цешся, цешся!
Жаніх. Ха-ха-ха,
Ці ён можа нас паслухаць?

# ДЗЕЯ II

## СЦЭНА 1

Г а с п а д ы н я,  І с я

*Свечкі патушаныя, на стале гарыць невялікая кухонная лямпа.*

Гаспадыня. Дзетак нада класці спаць:
  Поўнач, надта позні час.
Іся. Я не хочу спаць –
  Колькі будуць граць;
  Тыя, што паспелі легчы,
  Хай сабе сапуць на печы.
Гаспадыня. Ну, хадзі: няможна болей!..
Іся. Дай, матуля, паскакаць у коле;
  З печы глянуць хоць бы раз…
Гаспадыня. Заўтра будзе не падняць –
  З ложка нада выганяць:
  Потым не загоніш спаць.
Іся. Ах, матуля, не! Нявесце
  Будуць косы расплятаць,
  Потым намітку ўздзяваць;
  Я не буду больш ніколі
  Так цябе прасіць, матуля!
Гаспадыня. Проста тут заснеш ты ўрэшце:
  Сон прымружыў вочы.
  Іся. Стаць вялікаю так хочу,
  Штоб і мне так коску ўтнулі
  Дружкі на вяселлі!
Гаспадыня. Лямпу прынясі хаця,
  Я тут трошку пасвячу…
  Ды пакалыхай дзіця,
  Мо і ў кола адпушчу.

## СЦЭНА 2

Г а с п а д ы н я, І с я, К л і м і н а

КЛІМІНА (*з другой хаты*). Будзем намітку ўздзяваць,
Ну, хадзем туды гурмою,
Бабы ўсе, хто е, са мною!

*Абедзве жанчыны запальваюць маленькія свечкі з лою і з імі ў руках ідуць туды, дзе гуляюць Вяселле, дзе нявесце надзяваюць чапец і павязваюць намітку. Пасля таго, як яны выходзяць, Ісся забаўляецца падкручваннем і адкручваннем кнота на лямпе і глядзіць на яе святло. У хаце гадзіннік б'е поўнач.*

## СЦЭНА 3

І с я, Ч а х о л

ЧАХОЛ.
**I.** Хто мяне й нашто
Гукнуў?
Я, што ма́ю,
Апрануў:
Буду на Вяселлі, знача,
Многа тут гасцей убачу –
Толькі каб жа вецер дзьмуў.
**II.** Што ў душу ўвайшло каму,
Што прыснілася яму –
Ці то грэх,
Ці то смех:
Пан, бядак – як найскарэй
Прыйдуць на Вяселле ў рэй.
ІСЯ. А-я-яй! Што за жмут
Смецця бачу тут?!
ЧАХОЛ. Татусю скажы свайму,
Што я тут гасцей спаткаў,
Як хацеў ён, як жадаў.

ІСЯ. Прападзі з вачэй хутчэй,
Смецця жмут, Чахоле!
Прэч адсюль, на поле!
ЧАХОЛ. Татусю скажы свайму…
ІСЯ. Прэч адсюль, на поле,
Жмут дурны, Чахоле!
ЧАХОЛ. То шапні матулі…
ІСЯ. На цябе каб скулле!
ЧАХОЛ. Хто мяне й нашто гукнуў?..
ІСЯ. Пудзіла з саломы,
Прэч ідзі, дадому!
ЧАХОЛ. Я прыйшоў у тым, што меў:
Татусь твой мяне адзеў:
Вусцішна было яму,
Як асенні вецер дзьмуў:
Звяне куст ружовы ўраз.
Так, так, так – вось мой адказ;
Скуль я гэткае вазьму?..
ІСЯ. Прэч ідзі, на поле:
Гэй-гэй, там гуляй, Чахоле!
ЧАХОЛ. Хто мяне й нашто гукнуў?..

## СЦЭНА 4

Марыся, Войтак

МАРЫСЯ. Войтак, аддыхні, прысядзь:
Так натанчылася я.
ВОЙТАК. Жоначка, душа мая,
Можаш тут і не стаяць,
А пайсці, дзе граюць, смела,
Ў кола…
МАРЫСЯ. Я ж бы й не хацела,
Штоб ты тут адзін марнеў,
Без мяне.
ВОЙТАК. Знянацку падалося мне,

Бытта на вяселлі ты сваім…
(*напявае:*)
«…ды, Марыся, не, ты не са мной
Шлюб бярэш…»
Марыся. Ах, да дзяцей схадзі ў пакой,
Там паспі – й сябе адчуеш лепш.
Войтак. Бытта ў нейкім я замарачэнні,
Значыцца, іду к музыкам тым:
Бачу… нават і не разбярэш:
Нейкія навокал адны цені.
Марыся. Чорная фігура па сцяне,
Гойсае... Ты відзіш? Не?
Бытта ўсе за ею – у пагоні…
Войтак. «Дапільнуй, мужыча, коней:
Скрадуць бо нявесту сёння
І памчаць галопам, рыссю…»
Марыся. Ты чаго ў журбе?
Войтак. Марыся!

*Калі яны абое збіраюцца выйсці ў бакавы пакойчык, Марыся бярэ лямпу са стала. У хаце робіцца цёмна: святло віднеецца адно ў бакавым пакойчыку, ды яшчэ вузенькая палоска святла прабіваецца з дзвярэй, за якімі гуляе Вяселле.*

## СЦЭНА 5

Марыся, Здань

Здань. Некалі была павінна
Стаць маёй нявестай ты.
Марыся. Мне ты кляўся быць адзіным
Нарачоным назаўжды.
Здань. Сонцам ты свяціла мне,
А цяпер прамерзла хата.
Марыся. Холадам нясцерпным тхне
Штось ад вашых шатаў…

Здань. Кроў кіпіць твая, палае
Любы твар агнём…
Марыся. Так, нявестаю была я,
Быў ты жаніхом.
Здань. Сон, Марыся, мой трывае,
Ўвесь мой выстыг дом.
Марыся. Дзе жывеш цяпер? Куды
Ты на доўгія гады
З'ехаў ад мяне далёка?
Я не дачакалася.
Дзе ўсё ж пасяліўся ты,
Што з табою сталася?
Здань. Гойсалася абібоку...
Ветрагон, лятун такі,
Я забраны быў зямлёй –
Косці точаць чарвякі.
Марыся. Ах ты, Божа, Божа мой!
Косці точаць чарвякі…
Здань. Рэха з Татраў я пачуў,
Вось і прыляцеў сюды:
Хат святло было ўваччу,
Ўспомніў даўнія гады.
І сабе падумаў так:
Хоць мой дом нібы труна,
Мне не трэба шмат цяпер;
Нехта скажа: я – мярцвяк,
Ды, Марыся, ты не вер.
Ад відна і да відна
Дух жыве; сюды хачу.
Галасы я тут пачуў,
Хат святло ў мяне ўваччу.
Марыся. Дзе ж магілка, дзе яна?
Ах, відаць, далёка недзе…
Хто там дойдзе, хто даедзе?

*(Яна затуліла вочы рукою,*
*а ён паспешліва спрабуе адсунуць яе руку ад твару.)*

Здань. Слёзы апякаюць вочы,
Ліха з ёй, маёй труной:
Я ж вось тут, я ўвесь – твой!
Ці ты памятаеш дзень,
Сад, ігруш лагодны цень?..
Ты са мною там стаяла
І руку ў руцэ трымала;
Дзённае плыло святло…
Марыся. Столька зім і лет прайшло.
Здань. Голаў да мяне схілі…
Марыся. Разам мы з табой былі –
Выслаць ты хацеў сватоў.
Здань. Столькі ўжо сплыло гадоў!
Марыся. На вяселлі б я гуляла
На такім, што еты раз…
Здань. Станчым разам, бо пара
Мне назад ляцець, дамоў.
Марыся. Тут сяброў тваіх нямала –
Пачакай, ну!
Здань. Мне пара…
Станчу ды пайду дамоў.
Мушу я пакінуць кола.
Марыся. Зноў вяселле, скокі, йгра..
Етым разам свята ў нас!
Здань. Штось глядзіш ты невясёла…
Марыся. Холад ад цябе ідзе…
Здань. Да сваіх мяне грудзей
Прытулі ды абдымі.
Марыся. Рукі ад мяне прымі:
Ты мярцвечынай смярдзіш…
Здань. Любая!..
Марыся. Прэч адыдзі!!!
Здань. Не знішчай маіх надзей…
Марыся. Вее з вопраткі тваей
Холадам… Не, ты не мой!

Здань. Я памчу, зрабіўшы кола,
Прэч.
Марыся. Ах, пачакай, пастой!

## СЦЭНА 6

Марыся, Войтак

Войтак. Твар, Марыся, твой збляднеў…
Марыся. Бо такой святло мяне
Робіць…
Войтак. Ты трасешся дужа.
Марыся. Дзверы адчыніла, й сцюжа
Уварвалася… Нічога.
Войтак. Ну, здаецца, дзякуй Богу,
Шчокі ружавеюць зноўку…
Марыся. Я ж
У абдоймах хочу быць тваіх:
Лепшы ты за ўсіх, за ўсіх.
Войтак (*напявае*).
«У няволю йдзі, Марыся,
На загон мой бедны ўзбіся».

## СЦЭНА 7

Станьчык, Журналіст

Станьчык (*ідучы*). Нехта йдзе за мной, не наш…
Станьчык (*ужо сеўшы*). Хатка родная, малая.
Польшча: ўсё сваё – пагрозы,
Бруд, ману, злачынствы, слёзы,
Подласць, сны – я даўнавата
Добра ведаю занадта.
Журналіст. Хто ж ты?
Станьчык. Блазан.
Журналіст (*пазнаючы яго*). Муж вялікі!

Станьчык. Ну, вялікі, бо я ў шаце
Блазенскай у гэтай хаце…
Блазнаў ёсць між вас даволі:
З кожным годам болей, болей;
Salve, браце!
Журналіст. Salve, ойча!
Рэдкі добрых блазнаў шэраг;
Ходзім мы ва ўборах шэрых.
Бачыць нацыю не хочам –
Вось яна й згасае сёння,
Як гайдуцкая паходня,
Што агнём пячэ далоні.
Свечак нацыі шматлікіх
Больш няма: яны расталі,
Толькі вось, да рук прысталі.
Гайдукі, у тым запале,
З болю ўласнага смяюцца.
Толькі думкі застаюцца:
Не абыцца без узводу
Блазнаў, каб служыць народу;
Бо няма каму збудзіць
Паняволеных тых сэрцаў,
Што збыдлелі ў паняверцы.
Толькі смех ды кпіны зноў
Здольныя нарэшце ўліць
Дзёрзкую адвагу ў кроў.
Станьчык. Спаць вам лепш…
Журналіст. Яно ж відно!
Я прыспаў душу-нябогу
І свайго прыспаў я брата –
Ўсё адно, усё адно!
Гэтулькі ўсяго ліхога,
Жахаў розных аж занадта.
Глянеш на ходу падзей –
Прахам шмат пайшло надзей.

Не відаць ужо нічога
З нашай велічы прадаўняй:
Ўсё сышло кудысь далёка;
Беззваротна зніклі ў змроку
Ка́зачкі аб Трэцім Траўня!
У магіле ўсе глыбокай –
Маці, сёстры, сваякі…
Пасвянціў святар іх труны,
Грабары сваё зрабілі,
Каб гуляць маглі бяздумна
Эпігоны на магіле.
Апаноўваў іх такі
Шал вясёлы на памінках,
Душы ў п’янстве загубілі…
Толькі сэрца без супынку
Лямантуе ля касцёла,
Толькі кроў сплывае долу…
Так пакутуе яно:
Пра сваю віну адно
Ў роспачы няўцешнай мовіць.
Станьчык. Вашаць пачалі тут споведзь,
Каянне ў чужых грахах,
Вашаць стаіце ў слязах –
Так адчай вам сэрца кроіць…
Ды, пачуўшы вашы словы,
Бачыш: вы больш-менш здаровы,
Заўтра вернецца настрой…
А цяпер вы ўжо гатовы
Плакаць над віной чужой
І не абмінаць таксама
Нейчых там грахоў ды плямаў,
Гэтым шчыра пераймацца
І за іншых спавядацца…
Не, напраўду, проста смешна:
Можа й адпушчэнне грэшным

Гэткім у ксяндза прасіць?
Журналіст. То ж на сыне ён ляжыць,
Бацькаў грэх: злачын адных
Станецца праклёнам роду;
Памятаюць тут заўсёды,
Скуль ярмо й чаму праклён
На справунках рук сваіх…
Цела і душа ў разладзе:
Непераадольны ён,
І слабы ў ім не стрывае;
Мы ж – слабыя. Прыгнятае
Веліч нас; у тым праклёне
След злачынстваў, на хрыбце –
Акрываўлены хітон
Дэянірын; Веліч, Доля
Злая душыць нас, гняце.
Дзе ж цяпер ты, наша Воля?
Чарадзеевай далоні
Цень на нашым полі…
Станьчык. Болю
Мора! Так шкада чужога!?
У зямлі так шмат нябогаў –
А табе ад неспакою
Мёртвых што? Яны, па-твойму,
Асвяжацца ў новых строях?
І ты, з трупамі пад ру́ку,
Пойдзеш на бяседу-му́ку,
Як звычайныя харчы,
Ўсю атруту жуючы,
Што з мярцвячага гнілля
Засталася там пасля –
Гэта будзе кроў твая?
Журналіст. Кроў мая, кроў мая…
Чаіц крык… ці знаю я?..
Над прасторай скалаў шэрых –

Чаіц крык журботны,
Страшны ды маркотны,
Бо ўжо аддаліўся бераг…
Сціхла мора, неба ў змроку,
Ды ўраган і шторм далёка,
І глухая пустэча навокал.
Крылы ўвысь у палёце імкнуцца
І не прагнуць, не прагнуць вярнуцца,
Хоць і ведаюць птахі: ў замглёнай
Далячыні дзе сесці не будзе,
І ніхто, гнаны ўласным праклёнам,
Там прыстанку сабе не здабудзе,
Аж знямогшыся потым зусім,
Не зальецца крывёй і, нікім
Не аплаканы, зваліцца ён…
І палёгкаю станецца скон.
Станьчык. Чую груганові тон;
Ці ж табе адно чуцён
Пахавальных енкаў звон?..
А ці чуў ты, як спявае,
Як гучыць на вежы Ён?
Журналіст. Жыгімонт, ах, Жыгімонт…
Станьчык. …Каралеўскі звон ягоны.
Я ў яго ў нагах сядзеў,
Тут жа – каралеўскі двор,
Сын, сям’я ды Італійка
Песняспевы, што вялікі
Заспяваў касцельны хор…
Звон імкнуўся ў неба –
Ўсе глядзелі ўвысь;
Звон імкнуўся ў неба
І ўгары павіс;
І яго пачуўся спеў,
Што пад воблака ўзляцеў.
Тлумы ўнізе і зямля…

Я зірнуў на караля,
А кароль пачырванеў.
Ну, а звон звінеў…
Журналіст. Ён да сёння звоніць глуха,
Мы шукаем, хто нам блізкі.
Нас ён кліча йсці паслухаць
Спеў касцельны, як належыць.
У малітвах нас бянтэжыць,
Думкі нам збівае ён,
Пан наш, Каралеўскі Звон.
Сэрца ж у яго разбіта, знаем,
Голас не сціхае нізкі –
Голас *наш*. Над прорвай я стаю
І сцяжыну не магу знайсці сваю.
Станьчык. Сэрца поўніцца адчаем –
Хоць разрэж яго й дастань…
Сорам там, які пячэ:
Фатум нейкі нас даўно
Проста ў бездань валачэ.
Журналіст. Здань!
Станьчык. Сорам я, не здань!!!
Горшае я пекла знаю,
Як у Дантэ.
Журналіст. Я ж у ім трываю…
Станьчык. Ў бездань – разам!
Журналіст. Што ж, грамадства!
Катаванні наймацнейшыя –
Блазнаванне, смех, вар’яцтва…
То мы – духі найбяднейшыя!
«Разам» – гэта маляванка,
Пыха пана ды падпанка,
«Разам» – хамства, што адвеку;
«Разам» – кідкая каханка,
Грэблівасць звышчалавека,
Інфантыльнасць, аж ад здзеку;

Сэрца, што, аднак, крывёй сплывае…
Станьчык. Развважае
Вашаць, нібы ён – з гаваруноў.
Хоць і мáе карані,
Што ў маé ўзнікалі дні.
Журналіст. Лепш было б, каб сто разоў
Палічыў мне хтосьці дні…
Бо цяпер – ляці, гані
Ў прорву гэтую, ў бяздонне!
Хай спыніўся б той палёт!
У душы змаганне сёння
Йдзе: на скалы я валюся,
Ды не чую, як малюся –
Хай спыніўся б той палёт!
Хай пойдзе ўсё прахам і стогны
Ды енкі не будуць пачуты,
Хай зробяцца друзам калоны,
Хай змусяць нас выпіць атруты
На трызне; хай пойдзе ўсё прахам:
І польскія душаў пасты,
Звароты да польскіх святых,
Вясёлкавых хмараў масты,
Што леглі над прорваю дахам;
Выявы святынь з Чанстаховы
Лубочныя… Клічу сурова
О Вера! няшчасце на нас.
Станьчык. Сыч, той птах…
Журналіст. І можа б няшчасце нарэшце
Ў нас крык абудзіла ў грудзях,
Той крык, што мог бы стаць крыкам
Цяперашняга пакалення…
Ах, Сумленне, Сумленне!
Было ўжо тых праўдаў без ліку
Для нас – ці праўдаў, ці жартаў…
Мы нават ля польскіх межаў

Не цэнім сябе як належыць,
Нічога наш талент не варты.
Станьчык. Сыч, той птах!
А ты прагуляў усё ў карты,
З кабетамі ў ложку юрам
Душы заглушыў памкненні,
Цяпер вось імчыш панура
Туды вось, дзе прах і гібенне.
А дзьмухне віхор – і ў імгненне
Той прах разляціцца, адхлані
Самкнуцца, пачуюцца стогны
І крыкі, і енкі; і стане
Маленне душы блазнаваннем,
Якое не стлуміць нікога –
Сябе зжарэ, й гнілізною
З вантробаў яго будзе тхнуць…
Я ведаю, як сэрца крояць,
Што значыць, калі распнуць,
Цвікамі да дошак прыб'юць,
І будуць сябе катаваць,
Прытым на злачынствы – пляваць,
Ліхую падтрымліваць волю;
Святых жа сваіх не чапаць –
Не справіць болю.
Журналіст. Tragediante…
Станьчык. Commediante,
Трымай вось блазенскі кій.
Журналіст. Ты да яго прывязаны такі,
Стары. І толькі status quo ante;
Так блазенства ў цябе ўвайшло.
Станьчык. Вось, вазьмі й трымай вясло:
Маеш Польскае Жазло –
Ім і каламуць ваду.
Журналіст. Фатум ёсць, нам на бяду;
І на ростанях – злы Дух.

Далеч ростані відна,
Ты – мой дэман, сатана:
Лучыць прыкрасць нас адна –
Блазенства; а я душою
Быў пабратаны з табою,
Перш чым сталася яна
Трупам, і смярдзіць.
СТАНЬЧЫК. Уладцам будзь:
Маеш Польскае Жазло –
Ім ваду і каламуць.
ЖУРНАЛІСТ. Ды выпрабаванняў ўсё ж было
Мне зашмат. А з сэрца ты майго
Вырваў жар юначы й атруціў яго,
І не бачу больш ніякіх я дарог,
І ўваччу прыцьміўся Бог…
СТАНЬЧЫК. Фатум папіхае, гоніць –
Веліч, Тло…
Ўпустую звоніць
Сэрцу звон:
Поўнае яно атруты,
Ды табою быў пачуты
Блазнаў тон.
Што ж, падманвай сэрца ўпотай,
Гойсай, лётай!
Ну, і ўладцам будзь:
Маеш Польскае Жазло –
Каламуць ім вадаграй.
На Вяселле, на Вяселле паспяшай!
Польскую ўсю каламуць,
Не шкадуючы, атруць!
На Вяселле, на Вяселле –
На чале ягоным будзь!

## СЦЭНА 8

Журналіст, Паэт

Журналіст. Можа здабудзем з імглы чалавека,
Голаду болей не будзе й пакут,
От, я калека, от, я калека,
Як я штодня надрываюся тут…
Ты, Маладосць, мяне вырві з бяссілля:
Колькі навокал макрэчы ды цвілі!
О, Маладосць, як цяпер ты далёка,
А так нядаўна, мала не ўчора…
Паэт. Чым ты засмучаны гэтак глыбока?
Што за дзівосы цябе так змянілі?
Журналіст. Штосьці тут побач са мной праплыло:
Волатаў цень, поўны горычы й гора –
Блазнава мне ён пакінуў жазло.
Паэт. Роздум глыбокі нас вучыць, бясспрэчна;
Толькі навошта сабе кроіць сэрца?
Журналіст. Ах, я ў жахлівай цяпер паняверцы,
Ўвесь у душэўных пакутах адвечных,
Свецкіх умоўнасцяў душыць цяжар:
Шлях да кар’еры і здзейсненых мар –
Не, ён мне брыдкі, я ім пагарджаю
Проста плююся ад шчырага сэрца,
Ды ланцуга я ніяк не зламаю –
Ўсё больш пагарды ў сабе адчуваю
І раздражнення з выказванняў нечых.
Столькі наўкола заган чалавечых:
Дзе ні паткніся, сяброўства – падман,
Дружба фальшывая, як і мілосць,
Літасць няшчырая.
Тут жа, як ёсць,
Музыка польская мкнецца з душы,
Ўсюды на сценах вісяць палашы,
Сцэны з жыцця нашых простых сялян…

Думка датклівая цвеліць да болю:
Ці мы ўсё ж маем права на нешта;
Проста жыцця… ці мы вартыя, зрэшты?
Мы матылькі, нас загналі ў няволю,
Пухнуць пачнём неўзабаве, тлусцець,
Тую атруту прыняўшы за лекі,
Бачачы долю ліхую калекі
І пачынаючы гніць, парахнець.
Паэт. Пэўна, што музыка ўздзеянне ма́е,
Кола відзежаў тваіх замыкае
Цісне на нервы…
Журналіст. Ты кажаш, на нервы?!
Праўда: яны мне душу аплялі,
Музыкай тою ў палон узялі,
Граючы гэтак, зусім без пярэрвы.
Мне падалося: душа адляцела
Прэч ад мяне і лунае ля цела…
Паэт. Вось: падалося! Ты, праўды заместа,
Маеш ілюзію йшчэ дадаткова.
Журналіст. Ты, о паэзія! – толькі сіеста:
Прагнеш мяне абясчуліць, зняволіць,
Каб не сказаў я вастрэйшага слова.
І не ўдавай ты з сябе, калі ласка,
Што ты спакойны, як ты – у агні.
Гэты спакой твой – адно толькі маска…
Музыка зумкае болей і болей,
Быццам у вулеі пчолы. Зірні:
Мы ж – нібы шэршні. Няспынна плыве
Люду вясёласць нястрымнай ракою,
Проста за горла хапае рукою
І адбіваецца мне ў галаве
Га́ласам, граннем, гамонкай людскою
Нават і боль мне агідным падаўся.
Паэт. Дай жа руку мне.
Журналіст. Ах, дай мне спакою!

Каб хоць віхор на парог уварваўся –
Прагну паветра…
Паэт. Руку мне падай.
Журналіст. Не, не чапай.
Дай, я прашу, мне спакою!

## СЦЭНА 9

П а э т, Р ы ц а р

Паэт. Вір шуміць, вадаграй!
Голас Памерлая падаé.
Шуму і галасу шмат:
Вось да нас назад,
вымкнуўшы дзесьці з магілы,
Пнецца Гвалтоўная сіла,
Чую, заве:
Рыцар. Руку дай!
Паэт. Пусці!
Рыцар. Ты мой!
Паэт. Пусці!
Рыцар. Ты мой!
Паэт. На твары жалезныя краты,
А рукі скавала браня.
Рыцар. Збірайся ж, о птах крылаты!
Няшчасны, давай на каня!
І боль, і праклён знікне той…
Паэт. Што кажаш ты, прывід жахлівы,
Дзе, як на каня мне? Ах,
Рукой пад жалезны звон
Ты гоніш мяне ў палон.
Рыцар. Ану, на каня, маладзён!
Ляцець ты павінен, як птах.
Накіну сіло…
Паэт. На мяне – сіло!
Рыцар. Хто я, нарэшце, дайшло?

Ты вязень мой – мне служы.
Бо сіла ў мяне; і перада мной,
І ззаду – да самай далёкай мяжы –
І попел, і агонь.
Куды б ні занёс мяне конь,
Як свечкі дрэвы згараюць
І бліскавіцы шугаюць.
Я – Дух,
а ты слых напружвай свой!
Паэт. Пусці! У ночы знікні той!
Рукі, рукі адмаўляюць…
Рыцар. Ты мой!
Паэт. Прэч!
Рыцар. Пачуй гром…
Паэт. Ужо трасецца ўвесь дом…
Рыцар. Ці знаеш ты, *кім* мусіш быць,
*Што* будзеш ты жадаць ды сніць?
Паэт. Сон, летуценні, мроі, здані.
Рыцар. Дзень – заўтра, перад ім – світанне!
Ці ведаеш, *кім* мог ты быць?
Паэт. Быць Словам, Здань!
Рыцар. …Тым, хто звястуе!
Паэт. Мне голас мроі ўзгадуе;
Рыцар, Прывід, летуценні,
Быццам у жывым адзенні…
Рыцар. Жніва быць крывавым мусіць!
Ноччу шчаснай я вярнуся;
Ў ноч вятрысак неспакойных
Я прыйду з данінай збройнай.
Паэт. З даляў і са сноў, дадому…
Рыцар. З даляў, з іншасвету, з тла.
Я прайшоў агонь, вядома,
Лёхаў змрок; мяне вяла
Ў бойкі і вядзе няспынна
Прага рыцарскай даніны.

Паэт. Ў ноч вятроў ты з дамавіны
Устаеш, страсаеш прах…
Рыцар. Голас мой наводзіць страх
На цябе: кароль Ягайла,
Грунвальд, бітва, што шугала,
Горы трупаў, шал вятроў,
Як ракой сплывала кроў…
Там, на тых палёх крывавых –
Справа волатаў і слава
Вітаўта, Ягайлы, вояў…
Там яно, на полі бою:
Панцыры, мячы, прылбіцы,
Сотні дзідаў паламаных,
Трупаў, целаў шкуматаных,
Горы целаў – не прабіцца,
Сотні вогнішчаў ахвярных…
Часу не губляй ты марна,
А хутчэй бяжы туды!
Там збяры ўсю тую зброю:
Дзіды, тарчы ды мячы –
Стань на полі тым, ждучы,
Аж як ранішняй парою
Будзе зноў паўсюды чутны
Спокліч гучны ды магутны –
Ажывуць і ўстануць целы,
Схопяцца за зброю смела!
Йдзі да іх, пара прыспела!
Час і мне – зламаць труну;
Я да целаў тых памкну…
Паэт. Слёзы льюцца – хто іх злічыць?
Што я там рабіць пачну?
Рыцар. Збройную нясу здабычу…
Паэт. Ад цябе магілай тхне.
Рыцар. Паглядзі ж у вочы мне,
Мне сваю душу ўручы…

ПАЭТ. Анічога за прылбі́цай:
Там пустыя дзве вачніцы,
За прылбіцай – змрок начы,
Бразгае старая зброя.
РЫЦАР. Меч з нязломнасцю сваёю…
Паглядзі й не стой наўзбоч:
Ты знаёмы ўсё ж са мною..
ПАЭТ. Хто ты?
РЫЦАР. Моц.
ПАЭТ. Шалом здымі!
РЫЦАР. Дай руку.
ПАЭТ. Душу вазьмі.
РЫЦАР. Паглядзі!!!
ПАЭТ. Смерць… ноч!

## СЦЭНА 10

П а э т, Ж а н і х

ПАЭТ. Сіла, адвечная Сіла,
Моц неадольная!!!
ЖАНІХ. Пра што ты?
ПАЭТ. Маніла
Пустая мітрэнга: замгліла
Мне прагаю зрок неспатольнаю…
І вось ужо спераду, збоку
Проста ў імгненні вока
Пячэ мне ў грудзях, і я чую навокал,
Як падаюць скалы
Ды ў бездань валяцца валам.
ЖАНІХ. Ці санет напішаш, ці актаву?
ПАЭТ. Не. Іншую я прадбачу забаву;
На шыі адчуў я сіло.
Край наш – вялікая рэч:
Подласць адкінуць прэч,
Узняць святую справу

На шчыт, і там каб было
Ўсё наша – герб і арлiныя крылы;
Надзець гусарскi строй,
І з’явiцца поўны велiчы й сілы
Нейкi польскi герой.
Жанiх. Цікава.
Паэт. Твая гэта тэма.
Жанiх. Ты большае, чым паэму
Задумваў?
Паэт. Мяне захапiла,
Можа, занадта яно. А яшчэ
Ў грудзях яно моцна пячэ;
А заўтра разваліцца гмах…
Хацеў бы я трапiць у пекла тое,
Ах!
Жанiх. Ты ўсхваляваны.
Паэт. Пекла жывое:
Праклятым двор гарыць, і палае
Хацiна тая!
Жанiх. І што з таго вынiкае?

## СЦЭНА 11

Ж а н і х, Г е т м а н, Х о р

Хор. Бранецкi, васпан, на пачостку
Дай грошыка нам і па-боску
Ты нас абдымi, пацалуй,
Дуката нам не пашкадуй
Ды нам памажы па-сяброўску!
Гетман. Га, чэрцi вы, штаб маскоўскi,
Ад пана бярыце дукаты,
Іх мне не шкада: я багаты.
Я тут, у пякельнай гасподзе,
Гульну ўжо! А з вамi я ў згодзе.
Хор. Дык гульнi ўжо, з намi ў згодзе,

То патанчым у гасподзе.
Заплаці нам па-сяброўску,
Зарабіў ты, пан, маскоўскіх
Грошай шмат, ды не па-боску!
Гетман. Вось, бярыце ўсе дукаты.
Хор. Так пячэ дукат маскоўскі?
Гетман. Пекла гэта – не гаспода!
Д’яблы смокчуць кроў маю,
І сабакі ашалела
Уцінаюцца мне ў цела,
Да вантробаў дастаюць…
Жаніх. Ваявода! Ваявода!
Гетман. Ці ж я літасці даб’юся?
Жаніх. Божа, Госпадзе Ісусе!

## СЦЭНА 12

Ж а н і х, Г е т м а н

Гетман. Ха, прапалі д’яблы недзе,
Нехта мне аблегчыў долю;
Хоць пакутую ад болю,
Жаль душу мне не вярэдзіць,
Бо я пан, пякельны пан,
З розных кплю «сардэчных ран».
Я ад самай той пары
Мчу праз пушчы, праз бары,
Праз лугі, палеткі, долы –
Сэрца стукае, як молат,
Кроў гарачая б’е ў скронь,
А ўнутры пячэ агонь…
Хай музыкі граюць спраўна,
Я гатовы ў Пекла зда́ўна.
Пан я, маю чвэрць краіны;
Хтось «Ісус» прашэпча ціха,
Мне ўздыхнуць дасць на хвіліну.

Хапянуў паветра… Ліха!
Золата я ўсё аддам –
На, бяры, усё дазвання!
Захацелася чарцям,
Каб насіў я цэбры тыя –
І штоночы падсыпаюць…
А штабныя мніхі злыя
Ўсё пад’юджваюць, гукаюць:
Не шкадуй, Бранецкі, пане!..
Жаніх. Гетманам ты быў і кумам
Караля – і розных спраў
Нарабіў і напрыдумаў.
Вось жа ты й накіраваў,
Што ў няволі мы сабачай,
Лахманы й руіны скрозь,
Душы ледзяніць мароз.
Полымя цябе дратуе,
Ды нішто нас не ўратуе –
Ні кароль, ні боль, няйначай,
Ні рыданні й нараканні,
Ах, наш гетман, гэткі лёс…
Сёння ж – *дзень майго кахання*!
Гетман. Дзеўку ты бярэш у хама?
Польшча ўся – халопаў край,
Толькі золата ім дай…
І да байструкоў царыцы
Ім найлепей прытуліцца:
Цнотай я жыву той самай.
Польшчы не шкадуй, васпане,
Шляхціча ты маеш званне –
Вольны ты!
Жаніх. Цішэй, ах, д’ябле!
Гетман. Балбачы, бо ты ж без шаблі…

## СЦЭНА 13

Ж а н і х, Г е т м а н, Х о р

Гетман. Брэшуць, цела рвуць сабакі.
Хор. Ты, праклятьı, даўся ў знакі!
Гетман. *Sursum corda*, навылёт
Цела мне праесці хочуць.
Хор. Запрадаў свой край ты, цмоча!
Золатам заткнулі рот…
Пан вясельны, багацей,
Ну, давай да нас у рэй!
Гетман. Золата пякельны жар –
*Sursum corda*, vivat Цар!
Хор. Залівайце ў горла вар,
Лезьце кіпцямі ў нутро!
Гетман. П’юць з мяне ды смокчуць кроў,
Цела на кавалкі рвуць!
Хор. Пан вясельны, багацей,
Ну, давай да нас у рэй:
На Вяселлі ў скоках Смерць,
Золата быў збан. За чвэрць
Ты Чарцям прадаў свой Край.
Гетман. Чэрці-маскалі п’юць кроў,
Слаўся, Цар мой, будзь здароў!
Хор. Гойда, гойда, гойда, гай –
Ну, давай да нас, у рэй,
Пан вясельны, багацей!

## СЦЭНА 14

Ж а н і х, Д з е д

Жаніх. Тут з пякельным смехам шмат
Праляцела розных зданяў…
Дзед. Ці, сказаўшы неўпапад,
Уракла вас ваша пані?

Жаніх. …З Пекла валаклі, з адхлання
Чалавека хапатліва –
Ах, мне заняло дыханне!..
Дзед. Дык куды, куды вы?

## СЦЭНА 15

Д з е д, В у п ы р

Дзед (*імкнучыся наўслед за Жаніхом*).
Штось хацеў сказаць я, ды…
Хай Пан Бог спрыяе шлюбу.
Вупыр. Сябра дарагі і любы…
Дзед. Хто ў крыві тут?! Прэч, пякельны!!!
Вупыр. Я вясельны, я вясельны,
Браце, дай жа мне вады –
Твар і рукі каб абмыць…
Так карціць мне на Вяселлі
Баляваць, гуляць і піць!
Дзед. Прэч, пракляты, прэч, пракляты!
Вупыр. Браце, дай жа мне вады –
Твар і рукі каб абмыць…
Дзед. Світа, валасы крывёю
Набрынялі…
Вупыр. Не пацвельвай!
У нябёсах знаюць тое.
(*Пачынае напяваць.*)
«Ў Масленку ўсё пачалося…»
Дзед. Прэч, пракляты, прэч, пракляты!
Вупыр. З кленічамі супакойся –
Я ж – твой брат. Дрыжы, я – Шэля.
І прыйшоў я на Вяселле:
Для бацькоў быў я катам,
А вось тут зрабіўся сватам!
Твар памыўшы, апрануся –
Браце, дай жа мне вады,

Каб памыцца, добра змыць
Плямы ўсе, каб не рудзелі…
Так карціць мне на Вяселлі
Баляваць, гуляць і піць –
Толькі пляма вось, на лбе.
Дзед. Каб халера на цябе!
Вупыр. І магілы знак…
Дзед. Прэч адсюль, мярцвяк!
Вупыр. Бачыш: медалі на мне…
Дзед. Ў плямах ад слядоў падлога…
Вупыр. Вымыю ўсё ад парога –
Браце, дай жа мне вады
Цэбар – рукі, твар памыць,
Плямы пасціраць дашчэнту.
Дзед. Прэч! Малюся Панне Свентай!
Вупыр. Гавары сабе, стары…
Вось за працу я вазьмуся,
Сам адмыюся, збяруся
На Вяселле, на Вяселле,
Ў скокі йдзі, з табою – Шэля!

## СЦЭНА 16

К а с п а р,  К а с я,  Я с і к

Ясік. Кася!
Каспар. Кася!
Кася. Што там, Ясік?
Ясік. Кася, як сказаць… хіне
Да цябе мяне мусова.
Каспар. Касечка, хадзі ка мне –
Я шапну табе паўслова.
Кася. Ой, вы што?
Каспар. Ну, як, красуня?
Кася. Мокра ў садзе ад расы.
Каспар. Каб адны мы быць маглі…

Ясік. Каспар, то ідзі ж у пуню.
Кася. *Ты* ідзі.
Каспар. Не *я* прасіў…
Там саломкі падсцялі.
Кася. Скора й мы.
Ясік. А ты к яму
Ўжо хінешся?
Каспар. То жаніся.
Ясік. Мне жаніцца ні к чаму –
Схваціць так, што хоць забіся!
Каспар. Е за што схваціцца ў Касі.
Ясік. Я б за вамі ўжэ не гнаўся –
Цягне к ей, хоць ты памры.
Кася. Га́ры прынясі.
Каспар. Бяры
Грошы.
Ясік. Добра, злётаю!

## СЦЭНА 17

К а с п а р, К а с я

Кася. Абы ляпнуць, я сказала…
Каспар. Каська, штоб нам выйсці недзе
Ды паабнімацца гожа.
Кася. Ды раса ў саду апала…
Цалавацца й тут мы можам.
Каспар. То я з большай бы ахвотаю,
Каська, штоб з табою ў пуню…
Кася. Ў пуню? Ты пра што, Каспруня?
Тут во…
Каспар. Ну?
Кася. Кажу, што…
Каспар. Га?
Кася. Развязалася ў мяне…
Каспар. Стужка на гарсэце?

Кася. Не,
Тая, што дзяржыць спадніцу.
Каспар. Штоб нам дзе павесяліцца –
Жар я віджу тваіх шчочак…
(*Напявае.*)
«Прыхадзі сягоння ноччу –
Заўтра йдзі, куды захочаш…»

## СЦЭНА 18

Каспар, Кася, Нос

Нос (*з пляшкай і кілішкам*).
Ну, давай.
Каспар. Даю. Трымайся!
Нос. Ці дасі палашчыць Касю?
Каспар. Ну, давай!
Кася. Не задавайся!
Нос. Пацалуй цяпер сама.
Кася. Эй, куды?..
Нос. Бяды няма.
Каська, ўпёртасць скуль твая?
Маладзёны ж ён і я.
Хочаш, з ім ідзі на шашні:
Твой вянок – дзень учарашні…
Кася. Гляньце, чуць сюды прыскочыў,
Так і лезці ўжэ ахвочы.
Нос. Не дык не: не быў я страшны…
Кася. Пляшку, от жа гад, прыкончыў.

## СЦЭНА 19

Нявеста, Жаніх

Нявеста. Ух, я й наскакалася, мілы,
Што болей саўсім нету сілы!

А заўтра пакажацца: мала
Ў сябе на вяселлі скакала…
І доктара зваць мне ня нада,
Шчэ буду скакаць я да упаду,
Бо танцы…
Жаніх. Як пацеркі ў ружанца:
Адзін танец, іншы – заўсёды
Падобныя.
Так доўга вядуць карагоды,
Да раніцы, потым да ночы
Нявеста. Аж е пірагоў сколька хочаш,
Гуляць можна і танцаваць…
Жаніх. Цалуй, каб не пашкадаваць.
Нявеста. Так бярэ за душу гранне…
Жаніх. Будзе шчасце нам, каханне…
Нявеста. Мой ты Божа!..
Жаніх. Бог падможа,
Ўсё займеем: добры дом
І бярозку пад вакном.
Нявеста. …Стане скоранька кашлатай
І заценіць сцены хаты.
Жаніх. Ў траўні сядзем мы, як людзі,
Да яе, якраз пад шаты,
У расцвілым садзе…
Нявеста. …Пры парадзе.
Жаніх (*напявае*).
«А як будзе сонца і пагода,
сонца і пагода…»
Нявеста (*напявае*).
«Пойдзем мы да саду-агароду,
Рваць фіялачкі мы будзем…»

## СЦЭНА 20

Ж у р н а л і с т, З о с я

Зося. Ах!
Журналіст. А-а!
Зося. Цямрэча.
Журналіст. Змрок, пані…
Зося. Стамілася я ад тых скокаў.
Журналіст. А вам не абрыдлі сяляне?
Зося. Ды не, калі гляну я, дык людзі
Ёсць розныя ўсё-ткі, здаецца.
Журналіст. І сэрцайка гэтак абудзяць…
Зося. Сваё ж усыпляю я сэрца
Узвышаным, мілым, прыгожым…
А што з таго? Пэўна ж не можна
Прабіць тоўсты мур ілбом,
І бачачы, у паняверцы,
Пагарду і кпіны суздром,
Цярплю я свой боль.
Журналіст. Ды праходзяць болі.
Зося. Вы ж любіце, пэўна, сваё крамзоліць,
Каб боляў не стала?
Журналіст. Спраўлюся з імі я.
Зося. Не верыце вы ані ў выпадковасць?
Айчына ж – гэта такая… хімія:
Як толькі запаліцца сэрца,
Яно дынамітам стаецца.
Журналіст. Ну вось, адзін яшчэ танец –
І скончана ўсё выхаванне.
Зося. Сялянскаю жонкай мусова
Не стану я, дайце мне веры;
Ды, пан журналіст, я мяркую,
Што тое, што я *тут* танцую,
Дзе простых газовак святло –
Хоць нешта ды ўсё-такі значыць.

Журналіст. Вы ж лічыце гэтак, не йначай…
Зося. А *вас* што сюды прывяло?
Журналіст. З уцехай гляджу і не веру…
Ў вас веру затое.
Зося. Чаму?
Журналіст. Дарэшты
Прывабілі позірк ды жэсты…
Зося. Я вам падабаюся?
Журналіст. Ў гэтым ёсць нешта.

## СЦЭНА 21

П а э т, Р а х і л ь

Паэт. О, гэта вы? Заходзьце!
Рахіль. Як цень, блукаю я ў самоце,
Іду за вамі… можа, вам і смешна,
Ды падалося мне, нібыта нешта
Рабіцца пачынае тут…
Паэт. Мажліва,
Ды вы, калі вас бачыў на дварэ,
Мне падаліся прывідам ці зданню
У шатах з вогненным адлівам.
Рахіль. Мой шаль… маё такое ўбранне
Вы проста ўбачылі ў святле дзвярэй.
Паэт. Змяняюцца відзежы нашы ўночы…
Рахіль. А я цяпер, нібыта поўная трывогі,
Бо мусіла вярнуцца з паўдарогі:
Асоба нейкая наўпрост з узбочча
Мне сцежку перайшла…
Паэт. То забабоны
Народу простага – нічога болей.
Рахіль. Узняўся і шуміць віхор шалёны,
Ўсчалася бура… бачыце, васпане?..
Што дрэвы аж з карэннем вырывае
І гойсае паўсюды з дзікім свістам…

Паэт. І ў шыбы лупіць гэтак наравіста.
Зірніце: сад пустэчай выглядае.
Рахіль. Цямрэча скрозь.
Паэт. Хтось вырваў там куст ружаў.
Рахіль. Ці ж той, хто ў саламяным быў убранні?
Паэт. Чахол той…
Рахіль. Зламаны куст… не дужа
Я цямлю, што было ў нас за жаданне:
Што з ім рабіць?
Паэт. А мы ж на стужкі
Ліпучыя паэзіі ляцелі, і цяпер я
Ўжо бачу: ад паэзіі трасецца двор,
Навыдзіралі столькі многа пер'я
З гусей, паўлінаў, рознай іншай птушкі;
І ўжо адзін адному насупор,
Як на грунвальдскім ратным полі,
Ідуць шыхты: здаецца, што вось-вось
Гусараў, караля мы ўбачым тут, як ёсць…
Рахіль. Паветра ў атмасферы стала болей:
Палякамі сяляне захацелі
Зрабіцца – ў роднай сваёй хаце;
Нібы кавалак ільняной кудзелі
Падпалены...
Паэт. Такога адчуваць я,
Прысніць не мог, як ноч мяне здзівіла...
Рахіль. І найдзіўнейшая ў прыродзе Сіла,
Віхор і бойкі найдаўнейшых
Магутаў…
Паэт. Згадак шмат ранейшых
Прыходзіць з Татраў. І я прагну крылаў,
Каб угару ўзляцець!
Рахіль. Да тых вяршыняў!
Паэт. Валькірыя!
Рахіль. Вы ведайце, што сілу
Чароўную займеюць тыя сны,

Раскрыюць вочы, бо яны
Убачыць нам дазволяць штосьці
Такое, што ніколі не загіне…
ПАЭТ. Хадзем пабачыць!

## СЦЭНА 22

Г а с п а д а р,  К у б а

КУБА. Нейкі пан, нейкі пан
На дварэ з каня саскочыў;
Конь – вялізазны!
ГАСПАДАР. Са Стасем
Сіўку ў стайню адвядзіце,
І аўсу яму – дасхочу...
КУБА. Важны пан, вы паглядзіце:
Носіць красны ён жупан,
Ліра звонкая на пáсе.
Бытта кальварыйскі дзед,
З барадой сівою, з лірай –
Нада б прывітаць як след…
ГАСПАДАР. Балявалі многа й шчыра –
Слоік з газаю пабіўся.
Хто ж, цікаўны, тут з'явіўся?
Запалі лучынку!
КУБА. Змалку
Я такіх палякаў, пане,
Не відаў.
ГАСПАДАР. Пражыў ты мала:
Іх раней у нас ставала –
Гэткіх спраўных.
КУБА. Ну, я ганіць
Не магу… Відней нам стане –
Толькі падпалю запалку.

## СЦЭНА 23

Г а с п а д а р, Г а с п а д ы н я, К у б а

ГАСПАДАР. Чуеш, гаспадыня? Хтосьці
Важны там – да нас у госці.
ГАСПАДЫНЯ. Дзверы зачыні ўжэ ў хату!
Гавары з ім тут. Занадта
Мне тых танцаў... Гаспадару,
Нешта ж ты ніякі з твару?
ГАСПАДАР. Не сварыся дужа, маці,
Бо ж Вяселле ў нас у хаце.
Госць там не абы-які…
ГАСПАДЫНЯ. Дзверы зачыні ўжо ў хату…
ГАСПАДАР. Хто такі ён, хто такі?..

## СЦЭНА 24

Г а с п а д а р, В я р н і г а р а

ВЯРНІГАРА. Уладзімеж, пане! Ўчора
Выбраўся да вас я ў госці.
ГАСПАДАР. Адпачніце, вашамосцю:
Жонка строіцца ў каморы…
ВЯРНІГАРА. Мы ў тым часе й пагаворым.
ГАСПАДАР. Жонка строіцца ў каморы…
Госця, й праўда, не чакала –
Модлы нанач прамаўляла,
Бо дзяцей спаць укладала…
ВЯРНІГАРА. Хай спадарыня ў каморы…
ГАСПАДАР. …Бо дзяцей спаць укладала,
А ім хочацца гуляць:
Раз Вяселле ў нас віруе,
Як жа іх утаймаваць?
Жонка ўсё яшчэ ў каморы.
ВЯРНІГАРА. Робіць хай сваё ў каморы…

Хай вяселле там бушуе –
Пане Уладзімеж, новай
Думкай з вамі падзялюся;
Пагаворым аб хаўрусе.
Гаспадар. То сядайма, вас прашу я.
Вярнігара. Вы таксама.
Гаспадар. Госць шаноўны,
Вось, прашу без лішніх словаў,
І я ўвагі поўны.
Вярнігара. Ехаў я з далёкіх крэсаў,
Конь у пене.
Гаспадар. Подлы час.
Столькі наляцела бесаў,
Ну, а вы тут першы раз;
Што ж вас гнала ў гэткі час?
Столькі наляцела бесаў –
І тут раптам вы, уночы…
Дык чаму ж вы захацелі,
Пане, быць тут на Вяселлі?
Вярнігара. Я здалёк, нідзе не збочыў,
Выбраў гэтае Вяселле,
Бо вас разам тут багата.
Я наведаў вашу хату,
Бачачы тут просты люд.
Гаспадар. Вашамосць, праз вас нам тут
Гонару замнога будзе:
Мы ж маленькія ўсе людзі…
Вярнігара. Я здалёк, нідзе не збочыў:
Толькі вас назваў, ахвоча
Мне дарогу паказалі
Жвавыя падлеткі з вёскі.
Гаспадар. Ну, імпэт у іх такоўскі:
Прыляцелі і сказалі
Шмат чаго – што пан стары
Скача з ліраю сюдою:

Барада ў яго сівая –
Дзед з сівою барадою…
Вярнігара. Праўда, што ні гавары:
Люд ваш бед даўно не знае.
Жывяце вы без шкадобы,
Ёсць чым пакарміць худобу…
Гаспадар. Хата, залатое збожжа,
Скошаныя добра нівы;
Ўмеем асушыць балота.
І сады цвітуць прыгожа,
І палетак урадлівы –
Ўсё сваё, мы не галота…
Што тут лётаць наўздагонку,
Як усё пад бокам ёсць?
Пакажу васпану жонку.
Вярнігара. Нівы, сэрца залатое…
Сэрца ваша маладое.
Жывяце так, пакрысе,
Крыўд не ведаеце ўсе…
Ваша жонка мае працу?
Гаспадар. Жонка строіцца ў каморы –
Вам не трэба пераймацца.
Хоча выглядаць не горай…
Можа, вам прынесці піва?
Вярнігара. Уладзімеж, пане, ў хвілі
Я прыехаў асаблівай…
Гаспадар. Ну, пры куфлі людзі трохі
Лепш заўсёды гаварылі!
Гразь наўкол, а вы ж з дарогі…
Вярнігара. Слаўны пане, мы тут з часам
Асаблівым справу маем.
Можа, неяк мы сам-насам
Зараз дзе паразмаўляем?
Гаспадар. Слухаць я гатовы, раз
Час такі. Ці можна ў вас

Прозвішча спытаць?
Вярнігара. Хто ж я?
Гаспадар. Знаёмы
Хтосьці, важны і вядомы,
Паважаны, шанаваны,
Што пражыць змог доўгі век.
Вярнігара. Даўняй веры чалавек.
Гаспадар. Нехта знаны й нечаканы…
Вярнігара. Ты прыгадваеш званы,
Кроў ракою, перуны
І злавеснасць зараніцаў?..
Гаспадар. Сон якісьці, надта цьмяны,
Тыя ўсё звіняць званы.
Люд спявае, весяліцца:
Гранне, даўнія быліцы…
Вярнігара. Увушшу ў мяне яны,
Казкі, спевы ды званы,
Ды яны ўсе не заглушаць
Енкаў, стогнаў, што я чуў;
Па-ранейшаму ўваччу
Трупы: я ля іх стаю,
І не верацць вочы, вушы,
Што святы народ сваю
Долю так згубіў – праклёнам
На чале лягла ягоным…
І клянуць бацькоў сыны.
Сонмішча рыданняў, стогнаў,
Слёз крывавых, слёз сардэчных
Чуў я ў галасах тых вечных,
Як званы гулі шалёна –
Ўсё ўвушшу ў мяне яны…
Гаспадар. Час далёкі, надта цьмяна
Выглядаюць тыя сны.
Люд спявае, весяліцца:
Гранне, даўнія быліцы…

Вярнігара. Пад крывавай заранiцай
Мой тады стаяў румак…
Я чакаў на боскi знак.
А грамы грымелi ў хмарах,
Пачалi маланкi блiскаць.
Гаспадар. Так далёка ўсе i – блiзка…
Нехта знаны й нечаканы,
Той, хто быў у мроях-марах,
З лiраю стары, ў жупане.
Вярнігара. Я – Вярнiгара, васпане.
Гаспадар. Вы – Вярнiгара, дзед з лiрай!
Вы – знаёмы i чаканы,
Той, хто мрояй быў, кумiрам,
Прыбыў з весткаю жаданай,
Як той валадар даўнейшы,
Ў дом, яму найпрыязне́йшы,
З чымсьцi на сiвым канi.
Вярнігара. Са Словам!
Гаспадар. Вы са Словам – Вы са Словам!
Вярнігара. Я з Загадам.
Гаспадар. То Загад i Слова!..
Сэрца ўжо даўно гатова
Жыць загадам перуновым.
Вярнігара. Слова – то Загад, Загад – то Слова;
Я даю загад суровы.
Уладзiмеж, я iмкнуся
З вамi ў хвiлi асаблiвай
Весцi справу аб хаўрусе.
Гаспадар. Гэта ж i напраўду дзiва,
Ў гэткай хвiлi асаблiвай!
А загад?..
Вярнігара. Тры даручэннi.
Гаспадар. Я зраблю ўсё ў асаблiвай
Хвiлi гэткай з узрушэннем.
Вярнігара. Вiцы ўраннi разашлiце –

Ўсіх саслоўяў сход збярыце.
Гаспадар. Сон ці ява ўзніклі жыва…
У мяне на тым вяселлі
Сабраліся ўсе амаль.
Вярнігара. Што было схавана, явай
Стане зараз, як хацелі:
Сёння ў вас Вяселле, баль –
Разам тут усе амаль.
Перш чым сонца ўзыдзе, віцы
На бакі ўсе разашліце.
Гаспадар. То памчаць ганцы на конях
Віцы рассылаць сягоння;
Са сваім сялянскім складам
Жонка мне падможа радай…
Вярнігара. Хай ляцяць хутчэй па сёлах
І склікаюць, ледзьве золак,
Люд увесь каля касцёла –
Ўсіх, хто ёсць жывы-здаровы,
Каб у іх абавязкова
Ў сэрцы годнасць зноў паўстала.
Іх перажагнаеш крыжам
І даможашся, каб ціша
Навакол запанавала.
Як укленчаць разам людзі,
Хай напружаць слых, ці будзе
Тупат коней ім чуцён
З боку Кракава, з гасцінца…
Гаспадар. Свой напружваю я слых.
Вярнігара. Ведаю пра вас як зуха.
Ды вам трэба пільна слухаць,
Ці не еду я гасцінцам
Разам з арханёлам конна.
Гаспадар. Свой напружваю я слых.
Слухаю я так натхнёна…
Гэта значыць, *што* пачнецца?..

Вярнігара. Трэба толькі верыць, слухаць.
Ведаю васпана-зуха…
Гаспадар. Значыць, да касцёла мне? –
Быццам ява ўзнікла ў сне!
Нехта гонарам, здаецца,
Надзяліў цяпер мяне –
Ўдзячны я яму бясконца.
Вярнігара. Будзь гатоў да ўсходу Сонца!
Гаспадар. Заблішчаць на сонцы косы…
Я гатовы буду.
Вярнігара. Слова дай.
Гаспадар. Даў я ўжо.
Вярнігара. Складзі прысягу.
Гаспадар. Паспрабуй тут адгадай:
Ці Вы прывід, сейбіт Страху,
Здань, што ўзнікла над магілай,
З неадольных чараў сілай;
Ці ганец, пасланы лёсам,
Што адкрыў мне таямніцу?
Прамаўляеш так праўдзіва,
Гэтак выглядаеш жыва…
Вярнігара. Прамаўляю я праўдзіва
Ў хвілі гэткай асаблівай:
Я Вяселле выбраў сёння –
Той рыдван, твой сад, твой двор…
Чуеш, як завыў віхор!
Чуеш моцны шум залевы,
Чуеш трэск кустоўя, дрэваў! –
То маёй дружыны спевы,
То мае грукочуць коні
Мноствам залатых падковаў!
Гаспадар. Езус, злітуйся над намі!
Вярнігара. На Варшаву хто гатовы
Вырушыць, павесці войска,
На харугвах з Маткай Боскай?

Хто дамовіцца з панамі,
Скліча сойм, які нам стане
Ад няволі ўратаваннем?
Гаспадар. Вашамосць, Вы гэтак жыва
Кажаце такія дзівы,
Што гучаць аж так праўдзіва…
Вярнігара. Ўсё святое, ўсё жывое –
Явай стануцца ўсе мроі:
Я абраў твой дом, твой двор
І Вяселле выбраў тое,
Рог каб гэты залаты
Ўзяў рукой на ўдачу ты.
Гаспадар. Залаты, глядзіце, рог!
Вярнігара. Каб сабраць народ ты змог.
Гаспадар. Каб сабраць братоў.
Вярнігара. Пан Бог
Дух твой умацуе, ў рукі
Даўшы гэты ладны рог.
Гаспадар. Дзякуй Богу.
Вярнігара. Без прынукі
Хай збярэцца ля капліцы
Люд усякі заўтра ўранні.
Гаспадар. Заўтра? А пра што ж у стане
Заўтра ён дагаварыцца?
Вярнігара. Ўсё трымайма ў таямніцы.
Заўтра – толькі пакрысе
Разам хай збяруцца ўсе,
Весткі прагнучы чаканай.
Ты ж, устаўшы рана-рана,
Слых напружвай: Бог паможа
Ўвагаю не абмінуць –
Тупат на гасцінцы ўчуць
Гаспадар. Заўтра?!
Вярнігара. Заўтра!!!
Гаспадар. Мілы Божа!!!

## СЦЭНА 25

Г а с п а д а р, Г а с п а д ы н я

Гаспадар. Жонка, жоначка, Гануся!
Слухай во.
Гаспадыня. А што такое?
Гаспадар. Слухай во, бо я з табою
Нечым новым падзялюся.
Гаспадыня. Добрае яно? Ліхое?
Гаспадар. Што тут да чаго, хто знае?
Галаву як ні дуры –
Хто тут нешта разгадае?
Гаспадыня. Занямог ты? Што такое?
Што быў гэта за стары?
Гаспадар. То Вярнігара быў сам –
Ты не гавары нікому:
Прыязджаў ён пакрыёма
І казаў усё таемна.
Гаспадыня. Дзе ж цяперака ён?
Гаспадар. З’ехаў.
Наказаў збірацца нам
Перад тым.
Гаспадыня. А ты прычым?
Гаспадар. Нада ўсё сабраць няспехам:
Стрэльбы, торбы, пісталеты
І абедзве шаблі, пэўна!..
Гаспадыня. Божа! Ноччу… і куды ж?
Ваяваць ты хочаш дзе-та?
Гаспадар. Быць гатовы мушу.
Гаспадыня. Ліха!
Ты ж бальны́ – во, чуць стаіш!
Гаспадар. Неяк выеду паціху.
Гаспадыня. Звалішся ў якую яму…
Гаспадар. Я ж прысягу даў паехаць
Тут жа.

Гаспадыня. Нехта на пацеху
Чары на цябе наслаў.
Гаспадар. Ад самай
Етай хвілі й жысь пачнецца!
Гаспадыня. Хай Пан Бог не раззлуецца…
Гаспадар. Явай стануцца ўсе мроі:
Быў Вярнігара-ганец:
Ведае, што-дзе-якое,
Што ўжэ ўзнікла недзе Згода,
Пачалася недзе Справа.
Быў загад яго – й канец!
Я ж прысягу даў, бо сіла
Захваціла, паланіла –
Дух народу!
Гаспадыня. Здань ці з’ява
З пекла – нешта ў галаве…
Піў ты многа.
Гаспадар. Дух заве!

## СЦЭНА 26

Г а с п а д а р, Я с і к

Гаспадар. Ясік!
Ясік. Га, паночак?
Гаспадар. Ты адзін?
Ясік. Ну!
Гаспадар. Сядлай скарэй каня –
Склікаць штоб сялян да дня!
Ясік. Ехаць? Тут жа?
Гаспадар. І мусова!
Ясік. Заблуджуся ж… цёмна ноччу…
Дый гразюка… хто ж захоча?
Гаспадар. Гразь ляціць хай з-пад падковаў!
Ясік. Дык прывязаныя коні…
Гаспадар. Пасылаю ў справе, з толкам!

Ясік. Нашай?
Гаспадар. Абляці наўскач
Вёскі ўсе! У вокны грукай,
Месца збору ім назнач:
Да капліцы хай на золку
Прыйдуць, косы ўзяўшы ў рукі.
Ясік. Косы? Гэта наша дзела!
Гаспадар. Будзе і пра шаблі мова.
Ясік. Добра: пан наш гэткі смелы!
Гаспадар. Наша справа!
Ясік. Я гатовы!
Гаспадар. Таямніца…
Ясік. Касінеры!
Як віхор я… дайце веры!
Гаспадар. Рана ўранні, ля капліцы.
Ясік. Будуць!!!
Гаспадар. Рады нічыёй не слухай,
Сам рабі.
Ясік. Е трошкі нюху…
Гаспадар. Перш чым кропелькі расы
Ападуць на верасы,
Птах спяе…
Ясік. Лячу!
Гаспадар. Ну, з Богам!
Ясік. Гэй!
Гаспадар (*аддае ў рукі Ясіку залаты рог, атрыманы ад Вярнігары*).
Каштуе ён так многа!
Ясік. Праўда, залаты?
Гаспадар. Чароўны!
Шнур на шыі ты дзяржы
І пільнуй чароўны рог.
Гэта скарб цяпер галоўны
Для цябе. І, каб не змог
Скрасці чорт які яго,

Не спыняйся!
Ясік. Да мяжы!
Гаспадар. Ты яшчэ да трэціх пеўняў
З падарожжа са свайго
Вернешся і ў гэты рог
Так затрубіш, далібог,
Што абудзіцца народ
Так, як не было сто год –
Узбуяе дух, напэўна ж!
Толькі ж не забаўся з рогам…
Ясік. Хай бы ў пекле мне гарэць!
Гаспадар. Бо ж, узняўшыся ледзь-ледзь,
Сыдзе на нішто ўвесь рух.
Ясік. Абвяжуся шнурам.
Гаспадар. З Богам!
Ясік. Гэй жа!
Гаспадар. Ўдачы табе, зух!
Ясік (*які ўжо быў выбег, вяртаецца, каб падняць кінутую раней на падлогу шапку*).
Пёрка ў шапцы – як вясёлка!
Гаспадар. Вернешся сюды да золку.

## СЦЭНА 27

Гаспадар, Стасік

Стасік. Пане, чулі: што за дзела –
Бытта бура наляцела,
Як стары ад’ехаў пан!
Гаспадар. Ты ж таго праводзіў пана
Ў дэліі, ды твар румяны…
Стасік. Відзеў я, то не абман:
Іскры на вусах блішчэлі,
Ўсё на той сіяла дэліі,
Зверху ўніз бяжаў агонь.
Ну, а конь… чорт, а не конь!

Гаспадар. Конь быў чапраком акрыты
Тканым чапраком расшытым.
Стасік. Пры сядле два пісталеты.
Гаспадар. Ліра тут жа, ля сядла.
Стасік. Як бы відзелі вы ета…
Гаспадар. Ява нейкая была…
Стасік. Ля каня быў я так блізка:
Як махне хвастом каніска,
Як уваліць Кубе ў пыску! –
І адкуда столька сілы?
Гаспадар. Ну, а Куба што?
Стасік. Халера,
Цяжка етаму даць веры:
З Кубам прыдзяржаць яго мы
Чуць змаглі там на двары –
Аж быў у сядле стары…
Гаспадар. Сеў, паехаў…
Стасік. Невядома,
Што за чары еты дзед
Напусціў: шугнуў агонь,
Чэраз плот узвіўся конь,
Пыскі абпаліў нам з Кубам.
Гаспадар. Божы Дух сысці ахвочы…
Так бывае папаўночы.
Стасік. Ды яму прыпала згуба…
Гаспадар. Згуба? Як?
Стасік (*падае яму залатую падкову*).
Глядзіце, пане.
Гаспадар. Чыста з золата падкова.
Стасік. Віджу: у гразі блішчыць…
Гаспадар. Ета знак – не проста слова;
І інакш не можа быць!
Госць у нас быў на спатканні
Надта важны: ля сядла
Ліра звонкая была,
Косы, шаблі, знак Арла…

## СЦЭНА 28

Г а с п а д а р, Г а с п а д ы н я, С т а с і к

Гаспадар. Глянь, Ганука!
Гаспадыня. Шчасце бытта!
Гаспадар. Я знайшоў яго, глядзі во!
Гаспадыня. Дзе?
Гаспадар. Ну там, дзе прыбудова –
Шчасце во…
Гаспадыня. Ну проста дзіва:
Залатая ўся падкова!
Хто згубіў? Схаваць жа трэба…
Гаспадар. Люд склікаць! Што ўпала з неба –
Сходу паказаць адкрыта.

## СЦЭНА 29

Г а с п а д а р, Г а с п а д ы н я

Гаспадыня. То нашто? Ў руках жа шчасце!
З рук яго не выпускаюць
І далей куды хаваюць.
Шчасце дзержыць пры сабе
Той, яго хто прыграбе!
Гаспадар. Залатая!
Гаспадыня. Ну!
Гаспадар. Пакласці
Ў скрыню трэба! Хай ляжыць.
Шчасцем варта даражыць:
З пекла ўзнікла – з неба ўпала...
Ты ўсё правільна казала.
Гаспадыня. Кажаш так… мне страшнавата.
Гаспадар. Ты яшчэ не ўразумела.
Вот цяпер пачнецца дзела…
Гаспадыня. Дзела, кажаш? Што за дзела –
Што паняць я не сумела?

Гаспадар. Косы, шаблі, знак Арла,
Ўсе, ад мужыка да пана,
Свет увесь зачараваны…
Гэта маска ўсё была:
Ўсе, ад мужыка да пана –
Косы, шаблі, гербы, трубы…
Валасы аж сталі дубам.
Гэта маска ўсё была,
Ў зман адно толькі ўвяла:
Свет увесь зачараваны…
Гаспадыня. Мо ў цябе гарачка? Божа…
Гаспадар. Ўзнікла, як гарачка, можа –
Як гарачка… на вулкане,
Бытта гранне на аргане:
Бачу постаці ў кароне,
Шляхты радавітай зборы:
Вілы, замкі ды палацы…
Табунамі мчацца коні,
Пры парадзе там шасцёра
Ззаду. Ах, душа, без зморы
Так гуляй, каб нагуляцца!
Пан не помніць у кароне,
Шляхта ўсё забыла сёння,
Мужыкамі не пачуты
Голас тых, чые пакуты…
Вол у полі, конь ля ганку –
То гуляй, пане каханку!
Гаспадыня. Ляж, прыляж… відаць, ты п’яны.
Гаспадар. Свет наш п’яны, свет наш п’яны.
Ўвесь наш свет зачараваны…
Ну, пусці ўжо, еду, еду:
Прысягнуў душой я, ведай.
Гаспадыня. Божа-збаўца!

## СЦЭНА 30

Гаспадар, Гаспадыня,
Госці з горада

Усе. Што такое?
Сталася што?
Гаспадыня. Ат, шалее!
Гаспадар. Вы ўсе тут, а хто вы, што вы?
Горад выбіў з вас аснову,
І на вёску вас пагнала:
Там вам мала, тут вам мала.
Ну і што з нас засталося? –
Лялькі, маскі, маляванкі,
Пысы, што – як павялося –
Прагныя да шаблі й шклянкі…
Дзесьці зніклі тыя душы,
Што і мёртвага зварушаць
І на бітву ўсіх паклічуць,
Вы́чынам сябе ўзвялічаць…
А цяпер? Усё аблічча,
Дзе напісана параза.
Горш і горш усё штоcaptcha

# ДЗЕЯ III

## СЦЭНА 1

Г а с п а д а р

*Ходзіць туды і сюды, з гучным ляскатам зачыняючы то адны, то другія дзверы, якія нехта ўвесь час спрабуе звонку адчыніць; урэшце, стомлены, ён кладзецца на састаўленыя разам крэслы і неўзабаве пачынае драмаць. У пакоі цёмна. Ад гэтае хвілі ўсё на сцэне прамаўляецца паўшэптам.*

## СЦЭНА 2

Г а с п а д а р, П а э т, Н о с, Ж а н і х,
Г а с п а д ы н я, Н я в е с т а

Паэт. Ён як бэля!
Гаспадар. Ўсё звычайна:
Хлопец з кумпалам паляка –
І да шаблі, і да шклянкі,
Ўжо заснуў ён, небарака.
Нос. І да шклянкі, й да каханкі…
Хоць не так яно… здаецца…
Ўсё мне бачыцца іначай:
Сэрца на кавалкі рвецца,
Ўцяміць сілюся адчайна…
Ні гарэлка, ні віно –
Не, не тое ўсё яно:
*Меч* патрэбны.
Гаспадар. Вось, вось – меч!
Паэт. Дзіўная надзвычай рэч;
Спаць яго кладзіце…
Жаніх. Як жа!
Нос. Мроіцца, што я – у лесе:
Дрэвы… уцякаюць прэч.
Жаніх. На ваніты цягне?

Нос. Цягне –
Ад таго ўсяго, што бачу;
Ў сэрцы вусцішна, аднак жа:
Адляцець Анёл мой меўся;
Бачу лес, нібы я ў багне…
Шамаціць лес, шуміць,
І гуляе ўсё, і скача…
Нявеста. Ён як бэля!
Паэт. Так цікава…
Гаспадар. Гэткая заўсёды справа
Нас цікавіць.
Жаніх. Крык душы
Музыкі гук прыглушыў,
Ён жа – вырвацца так прагне…
Паэт. Ціха! Штось ён мармытнуў…
Нос. Кропельку віна, адну…
Паэт. Вось.
Нос (*да Паэта*). А ўжо ж: *evviva l'arte*,
Лёс наш шэлега няварты:
Бахуса культ і Астарты…
А прымаць свой трэба лёс,
Хоць бы йшло жыццё наўскос.
Што пра веліч мроіць, сніць? –
Трэба жыць папросту, жыць.
Банапарт – вось хто меў нос!
Гаспадар (*са свайго месца*).
Дзе ж, браток, ты так набраўся?
Толькі дзень другі вяселля,
А ты п'яны ўжо, як бэля!
Нос. У натоўпе я б схаваўся,
Каб у гэты свет здаровы
Занурыцца з галавою
І сябе зраўняць з усімі,
І з асобай дзесь падзецца –
Простым, свойскім стаць мусова.

Што ж рабіць з натурай тою
І са звычкамі сваімі –
Як душа спяваць імкнецца
І адно наперад пнецца…
Чуеце – *душа*, псякрэў!
Паэт. На яго шал наляцеў…
Жаніх. Небяспечна для здароўя:
Гэта ж проста безгалоўе!
Гаспадар (*сабе пад нос*).
Тут пакутніцтва таксама –
У душы жыць з вечнай драмай.
Нос. П'ю, бо мушу. Як сабе
Наліваю, наліваю –
Так мяне яно дзяўбе:
Сэрца зноўку адчуваю,
Польскую бяду ўспрымаю…
Шамаціць лес, шуміць.
Каб Шапэн мог дажыць,
Ён працягваў бы
Піць, піць…
Ша! Паслухай:
Лес шуміць…
Паэт. Трэба выспацца табе,
Каб прадоўжыць зноў гулянку...
Нос. Я адну тут маравянку
Захацеў пашкадаваць,
Выйшаў з ёю танцаваць:
Пан – і з простаю сялянкай.
Як расплюся, хай чакае.
Гаспадар (*у паўзабыцці*).
Сон… сон… хай чакае там…
Доўгі і далёкі шлях,
Едзе там вялікі пан…
Паэт. Нешта мроіш?
Гаспадар. Засынаю…

Гаспадыня (*да мужа*).
Ляж – пасцелены пасцелі.
Гаспадар. Падрамлю лепш у фатэлі.
(*Носу.*) Ну, ужо дабранач, сябар,
А з сапраўднымі ў нас слаба.
Нос (*кладучыся на тапчан; да Жаніха*).
Вось, цалую маравянку,
Пляшку ж у руцэ трымаю.
Тут кульнулася яна –
Трохі выцекла віна.
Так шкада, а ўсё праз тое,
Што сціскаў я даланёю
Пляшку, і – неспадзяванка! –
Ўнутр пайшоў быў корак. Тут
Я падумаў, баламут:
Выцягну яго, ужыўшы
Волас доўгі маравянкі!
А яна пайшла па шклянкі;
Ну і я, пра ўсё забыўшы,
Выпіў пляшачку да дна
Разам з воласам – яна
Ўраз мяне і загубіла:
Дзеўчына ў сябе ўлюбіла!
Я – яе пацалаваць,
Ды не здолеў устаяць,
Паваліўшыся не ў час…
Жаніх. Памятай на іншы раз:
Цалавацца – потым піць.
Паэт. Перш змарнець, а потым жыць.
Гаспадыня. То ўжо йдзіце! Спяць няхай…
Нос. Там-да-ра-да-дам-дам-дай…
Нявеста. Дайце спаць, астаўце іх!
Паэт. Стан цікавы душ такіх.
Жаніх. Знаем мы адно палову
Нас саміх. Хто знае рэшту?..

Паэт. Дзе ёсць чалавек у сне?
Нейкі страх бярэ мяне –
Ў галаву ўсё лезе нешта:
Колькі можа ўсё трываць?
Нос. Павядзем далей размову,
Як я высплюся, бо спаць
Так хачу! Пад гэту тэму
Добра спіцца недарэмна.
Жаніх. Ён увесь заліты потам.
Паэт. Трэба новае адзежы.
Нос. Вечнасць… ах, пра Вечнасць потым…
Да Бясконцасці дайшлі…
Панна, мне віна налі:
Іншых час пасля нас…
Гаспадар. Ну, гармідар той бяз межаў –
Выйдзіце ўжо ўсе з пакоя:
Я хачу крыху спакою!
Нос. Іншых час пасля нас…
Прэч адсюль… гуш-гуш-гуш –
*Après nous le déluge.*

*Нос засынае на тапчане, Гаспадар – у фатэлі, пад нагамі крэслы; і яны так і застаюцца спаць.*

## СЦЭНА 3

Чэпец, Музыка
(*у дзвярах хаты, дзе гуляе вяселле*).

Чэпец. Крахабор плюгавы, гіцаль,
Хочаш грошай больш узяць?!
Музыка. Гаспадар, не балбачыце –
Лучча вам пайсці паспаць.
Пусць другія патанцуюць.
Чэпец. Злыдні, вам абы нажыцца!
Штоб я спаць пайшоў, хаціце.

Я ж вам грошай сыпаў многа…
У каршэнь бы вам напхаць!
Будзеце вы йграць яй-богу?!
Музыка. Гаспадар, не балбачыце –
Лучча вам пайсці паспаць.
Пусць другія патанцуюць.
Чэпец. Не, штоб граць – з мяне збыткуюць.
Музыка. Грошаў шэсць вы нам далі –
Мы сыгралі, як маглі.
Пусць другія патанцуюць.
Чэпец. Не, штоб граць –
з мяне збыткуюць.

## СЦЭНА 4

Ч э п е ц, Ж о н к а Ч э п ц а

Жонка Чэпца. Адчапіся ад музыкаў!
Што табе – хто й як пілікаў?
Заступаеш во дарогу…
Чэпец. Я ім пакажу, яй-богу!
Жонка Чэпца. Йдзі дамоў, бо ўжэ набраўся.
Чэпец. Сціхні, баба! Па-прастому
Гавару: шуруй дадому!
Скрыпалі, я раззлаваўся –
Не пакажацца вам мала…
Жонка Чэпца. Ціха! *Што* цябе забрала?
Чэпец. …Увалю, што дасца ў знакі…
Жонка Чэпца. Адчапіся…
Чэпец. Ну, сабакі,
Вам паслухацца пара,
Бо не будзе вам дабра.

## СЦЭНА 5

Жонка Чэпца, Гаспадыня

Жонка Чэпца. Ваш-та спіць.
Гаспадыня. Мой-та спіць.
Жонка Чэпца. Клопату з вяселлем тым…
Гаспадыня. Ну ўжэ дайце маладым,
Нагуляцца.
Жонка Чэпца. Маладому гулі ў галаве, вядома.
Будзе што жалець старому,
Як усюдых забаліць…
Гаспадыня. Ну, яно канечне, так…
Жонка Чэпца. Гэта свадзьба – добры знак:
Гарадскія ўсе паны
Дзівяцца. Прытом яны,
Хоць саўсім не спалі ноччу,
Разыходзіцца не хочуць…
Панаехала іх многа,
Да ўсім весела, яй-богу.
Гаспадыня. З нашай цешацца галечы.

## СЦЭНА 6

Рахіль, Паэт

Рахіль. Ах, пане, паверце ў гэтай хвілі вачам:
Я ўся адданая вам!
Але ж усё тое мінае…
І вы не наблізіліся да мяне,
І я… ўсё нясмелая такая.
Паэт. А вы б вось там, дзе вецер дзьме,
Так бы й стаялі даўжэй і даўжэй…
Рахіль. Памкненне было, а пасля ўсё цішэй
Чутны галасы. Толькі музыка ўсё бліжэй,

І ў садзе ўсе тыя здані,
Якія бачыла я сама.
Але ж усё тое мінае…
Чакае нас з вамі расстанне,
І да былога вяртання няма:
Мяне вы забудзеце хутка.
Ды ў нейкай пазнейшай хвілі
Ўзгадаецца ўсё Рахілі,
І, можа, яна будзе ў смутку.
Паэт. Усцешна вам будзе надта,
Што думкі ў вас смуткам заняты,
А Смутак – гэта ж Прыгажосць.
Рахіль. Калі ж парвуцца – усе як ёсць –
Мае тыя струны й зайграе жаль?
Паэт. То ў сад вы возьмеце шаль
І ў позе Палімніі годнай
Пра строй разважацьмеце модны,
Які вам падыдзе да балю
Альбо – да канцэртнае залі,
Дзе мы спаткаемся з вамі.
Рахіль. А што ж з майго сэрца жалем? –
Вы так мне й не адказалі.
Паэт. Ў мастацтва такая натура,
А ўрэшце, літаратурай
У нейкай форме ўсё стане,
Накшталт санета таго,
Ці, можа, апавядання.
Рахіль. А музыка сэрца майго –
Мілосці амаль што першай?
Паэт. Сюжэт такога кахання
Надасца добра для вершаў.

## СЦЭНА 7

Г а н н а ч к а, Ж а н і х

ГАННАЧКА. Дзякуй, братка, ў танцы гэткім
Добра мне было й вясёла!
ЖАНІХ. Добра, кветка…
ГАННАЧКА. Як пайшла, пайшла я ў кола
Раз, другі – тут цалавацца
Я з дружбантам захацела.
ЖАНІХ. Ах, дзіця!
ГАННАЧКА. *Вы ж* не як дзеткі –
Так цалуецеся смела…
ЖАНІХ. Цалавацца-абдымацца
Можна гэтак нам, паэтам,
Бо інакш глядзяць на гэта…
ГАННАЧКА. Ну, ад нашых кракавякаў
Проста не знайсці ратунку,
Каб пачуццяў – ані знаку…
ЖАНІХ. Можна ўсё – без пацалункаў.
ГАННАЧКА. Пацалунак… што за страта?
ЖАНІХ. Толькі не цалуй дружбанта.
ГАННАЧКА. Кажаш – каб казаць, Бог сведка.
ЖАНІХ. А ты слухай добра, дзетка.

## СЦЭНА 8

П а э т, М а р ы н а

ПАЭТ. Прыгажэеце вы, панна.
МАРЫНА. Прыгажэю – ад самоты;
Бачу, крылы начапілі
Вы, й вяселле ўсё, штохвілі
Паапісвалі старанна.
ПАЭТ. Госці, нейкія істоты…
Уявіў усё я жыва,
Цэлы рай фантасмагорый.

Марына. Ну дык вы цяпер шчаслівы:
Талент сам за вас гаворыць.
Ну, а мы… мы не паэты.
Вы не бачыце, як хваляй
З нас імкне пяшчота неяк:
Нешта блісне ўраз з-пад веек –
Ці празорцамі мы сталі?
Паэт. Можа быць, што ноччу гэтай,
Дзе ўсе танчылі, пяялі
І ні крышачку не спалі,
З вас зрабіліся анёлы…
Толькі што далей?
Марына. Якраз
Думаю: што з тых анёлаў?
Хутка забразгочуць колы,
Паганяцьме коней лёкай,
Паз’язджаем мы далёка…
Паэт. Пугай лясне ён – і ўсё.
Марына. Хто ж так выцягне высока?
Я стаяла за музыкам,
Слухала, як пра жыццё
І пра Польшчу там без крыкаў
Разважалі мужыкі:
Гэты, той сякі-такі:
Трэба ім набіць бакі;
Толькі нельга жыць бяздумна –
Трэба штось рабіць… Цікава
Разважалі так, разумна.
Паэт. А як дойдзе ўсё ж да справы…
Марына. А калі ж?
Паэт. Нашто тады
Наракаць, чакаць бяды?
Марына. То ж навошта, сапраўды?
Паэт. Сэрца прагне…
Марына. Каму як!

Паэт. Мы й яны, яны й мы – так
Тая гонка пачалася!
Марына. Вы ў аблоках, на Пегасе.
Тут жа нешта ёсць, прыкмета...
Паэт. Там?!
Марына. Там – тут! Прычына ў змене
Польскае натуры.
Паэт. Гэта
Назіранне?
Марына. Уяўленне.
Паэт. Паверце мне, панна, змяніўся і я,
Ды веры сабе не даю.
Хоць шчырая гэта прамова мая,
Але неяк праўду хаваю сваю:
Жыву, як бы йду праз туман:
Навокал падступнасць, падман,
Як злосныя тыя сабакі,
Яны мне ўгрызаюцца ў ногі,
За рукі хапаюць зацята.
А колькі разоў я з дарогі
Вяртаўся ў імглу, змрок пракляты!
Вар'яцтва! Стаіць мне ўвушшу
Паэзія: ўсюды яна.
Імгла мне вярэдзіць душу,
Ўсё ліха ўзнімае са дна.
На крылах маіх цяжарам
Павіслі чужыя слёзы:
Хтось плача,
А слёзы не ўзрушаць
Душу, а і крыл не ўзварушаць,
Бо дух мой – у путах, бядача!
Я чуў: нехта ўверсе, у хмарах
Ці, можа, ў вышэйшых нябёсах
Гаручымі плакаў слязамі.
Марына. Што з вамі, шаноўны, што з вамі?

То выйдзіце лепей хутчэй
На двор – асцюдзіцца.
Паэт. Ды там гарачэй!
І сад той мяне праглыне:
Абступяць там дрэвы мяне,
І з лісця, сцвалоў ды кустоў,
Што ледзь ружавеюць у змроку
Узнікне панурасць няўрокам,
Як здані Славянскіх Багоў.
Марына. А праўда… яна, як алей,
Збіраецца. Думка якая
Душу цвеліць вам наймацней?
Паэт. А вось што: мяне да раллі
Хтось цягне, а хтось ад яе
Адцягвае моцна. Змушае
Адзін узляцець ад зямлі,
А іншы ляцець не дае,
А нехта мне зрок захінае…
Рука мною водзіць святая,
Але ёсць і іншая – злая.
Мне Шчасце – як тая сініца,
А Ліха насустрач прастуе.
Марына. Вы ж помніце ўсё да драбніцы,
Ўсё ўражвае вас і турбуе.

## СЦЭНА 9

Ч э п е ц, К у б а

Чэпец. Гэй, пракуда! Вон адсюда!
Куба. Што пан войт так дачапіўся?
Чэпец. Пад нагамі не круціся:
Тут нямашака прыблудаў.
Куба. А я знаю, пане, што-та
І сказаў бы ды пайшоў…
Чэпец. Што?

Куба. Нада вам пайці от з нім.
(*Паказвае на Гаспадара.*)
Чэпец. ???
Куба. Спіць ён унь…
Чэпец. ???
Куба. На маскалёў!
Чэпец. Я? І з тым, што спіць?! Дурнота!
Куба. Т-с-с, ён відзіць што-та ў сне;
З панам гаварыў ён: плечы
У таго – от як дзве печы!
Чэпец. Слаўны пан, здаецца мне,
Як такія мае плечы.
Куба. Ён, прыехаўшы вярхом,
Гаварыў з Гаспадаром –
З тым, што спіць. Пан клікнуў Яся:
Ясь каня запрог быстрэй,
Выкрыкнуў: «Біць маскалёў!»
Мы стаялі там са Стасем…
Гавару вам: на дварэ
Разгавор іх еты йшоў.
Чэпец. Што ж той пан?
Куба. Госць з Украіны.
І багаты: відаць, што
Старапольскі старычына.
Чэпец. Ён стары?
Куба. Ну, лет так сто…
Гаварылі ўсё пра бойкі,
Што двары аб’ехаць нада;
Пан такі быў спраўны, бойкі –
Разгавор дайшоў да ладу;
Як яго змаглі закончыць,
Ад парога чуць успелі
Ўбок са Стасем мы адскочыць,
Бытта сіўку мы глядзелі…
Чэпец. Конь сівы быў?

Куба. Як смятана,
З залачоным чапраком.
Чэпец. Ці не пахне тут абманам?
Чорт напхае абы-што…
Відзеў хто яшчэ?
Куба. Ніхто.
Чэпец. Стась – няздара, ты – сапляк.
Куба. Пан не верыць? Падкаваны
Конь быў залатой падковай –
Я найшоў яе, от так!
Чэпец. Дзе яна?
Куба. Аддаў я тут жа –
Матка палажыла ў скрыню.
Чэпец. Што – ляжыць падкова ў скрыні,
І ніхто яе не відзеў?
Ну, у добрай гаспадыні
Проста так нішто не сыйдзе.
Гэта ж Шчасце, добра дужа,
Нада нам за ім ісці.
Слухай, Куба, йдзі за мною;
Цёмна, дык ты пасвяці.
Люду мы назначым зборы.
(*У бок Гаспадара.*)
З вамі потым пагаворым!

## СЦЭНА 10

Ч э п е ц, Д з е д

Чэпец (*наляцеўшы ў дзвярах на Дзеда, які ўваходзіў*).
Што за д’ябал!..
Дзед. Пане войце!
Чэпец. На дарозе тут не стойце!
Дзед. Сцеражыцеся, мой пане:
Я дачуўся, што сяляне

Устрывожыліся дужа –
Ўзяцца могуць за аружжа.
Чэпец. Быць чаму – яно настане.
Дзед. Ясік унь па хатах скокнуў:
Грукаўся да ўсіх у вокны.
Чэпец. Ці ж я спаў? Дзе я быў?
Дзед. Наш пан войт гарэлку піў.

## СЦЭНА 11

Чэпец, Гаспадыня

Гаспадыня. Мой-та спіць…
Чэпец. Ваш-та спіць…
Гаспадыня. Тут надзелаў шуму-гаму,
Штось нагаварыў таксама…
Чэпец. А цікавае што, можа?
Гаспадыня. Хто ж там пойме, мілы божа?
Чэпец. А з таго мо нешта выйдзе?
Гаспадыня. Выйдзе-прыйдзе, потым сыйдзе;
Некага ён зазываў
Ды на нешта падбіваў…
Чэпец. Можа, кепска не было б?
Гаспадыня. …І за ім вас панясло б?
Чэпец. І куды б я паскакаў?
Гаспадыня. Ці я знаю?
Чэпец. А яшчэ ён што казаў?
Гаспадыня. Ці я знаю?
Чэпец. Я ж – дапяў!

## СЦЭНА 12

Жонка раднага, Журналіст

Жонка раднага. Вы столькі многа працы мелі,
Ды вас зазабіла Вяселле
Сур’ёзна.

ЖУРНАЛІСТ. А-а, я рады надта
Крыху ад глупстваў адарвацца.
ЖОНКА РАДНАГА. Вы на такую вашу працу
Махаеце ніякавата,
Не цэніце паважнай справы
Як след.
ЖУРНАЛІСТ. То ўсё забавы:
Няма трывалага нічога –
Ні думак, ні перакананняў…
ЖОНКА РАДНАГА. А Праўда?
ЖУРНАЛІСТ. Ды няма нізвання!
ЖОНКА РАДНАГА. Ну й ад чалавека самога
Залежыць. Калі ж вы наўцёкі
З паста леціце́…
ЖУРНАЛІСТ. Ўсё пустое:
Уяўнае – пост, тое, сёе:
Імпэт Данаід ля вады…
ЖОНКА РАДНАГА. Паўсюль вас відаць…
ЖУРНАЛІСТ. Ад нуды
Ў вір зваліцца нехта глыбокі,
І вось, яго ўсюды відаць:
Ён любіць пад’есці, згуляць
У віст сям і там з сябручкамі.
А выявіцца, што з гадамі
Таго і таго ўжо няма…
Ён марыць пра нешта – й дарма;
А часам надзене і фрак.
Вось я на вяселле прыехаў:
Хоць нават тут нешта не так,
Ды я з усяго ма́ю ўцеху.

## СЦЭНА 13

Жонка раднага, Нявеста

Жонка раднага. Ну, скажы, красуня, як жа
Вы збіраецеся жыць?
Нявеста. Нeяк будзем… Не ўдалося
З ім пра то пагаманіць.
Жонка раднага. Ты адолець прыгажосцю
Зможаш шмат чаго, аднак жа
Вельмі цяжка мне ўявіць,
Што ў вас будуць за размовы,
Як надыдуць вечары
Доўгія. Бо ж у яго
Адукацыя, ў цябе ж…
Нявеста. Можа так яно і лепш:
Толку з языка таго
Ды словаў,
Як няма што гаварыць.

## СЦЭНА 14

Нявеста, Марыся

Марыся. Бытта рада я, а й жалка
Як-та мне цябе, сястра.
Нявеста. Жалка – што?
Марыся. Як са двара
Мы кароў ганялі змалку
Ў поле: ты, я ды Ганyся,
Як гулялі каля хаты…
А цяпер я от, баюся:
Без работы нашай труднай
Будзе табе надта нудна
І на сэрцы цяжкавата…
Тое, што цяпер ты станеш

Гэткай выкшталцонай паняй,
Радуе мяне, а звычкі
Дзе ж падзенеш ты, сястрычка?
Нявеста. Ты пра што?
Марыся. Што будзе дужа
Трудна ўсё ж без нас, без таты,
Без гарода й без паркана…
Што, хоць будзе й ладна з мужам,
Прыбягацьмеш ты дахаты:
І пажалішся, й паплачаш.
*Тут* душы тваей прыстанак,
І куды адсюль ні пойдзеш,
Месца ты сабе не знойдзеш…
Ну, а там – усё іначай;
Жаль цябе, сястрыца, ўсё-ткі.
Нявеста. Прыйдзе й сыйдзе жаль кароткі…
Марыся. Ну, цяпер ты весяліся,
Забаўляйся ды хваліся;
Толька дзе душу падзенеш,
Як свае прывычкі зменіш?
Ты без нас у адзіноце,
Гаравацьмеш і ў маркоце;
Жаль мой – млын не перамеле.

## СЦЭНА 15

Марыся, Бацька

Марыся. Тату добра на Вяселлі…
Бацька. Хай сабе скачуць, гуляюць.
Етыя пройдуць два дні –
Кончыцца ўсё; после тога
Хай і не просяць нічога
Больш ні ў бацькоў, ні ў радні.
Хай так жывуць, як жадаюць.
Марыся. А ці ж не падможаце, тата,

Штоб як за зямлю ўнесці плату?..
Бацька. Ты ж знаеш, што я не багаты;
А раз ты ўжо замуж пайшла –
Каго б ты сабе ні ўзяла,
А жызню даводзіць да ладу
Ты мусіш у хаце другой.
Марыся. Відаць, вы былі б дужа рады,
Штоб выйшла за пана я тога,
Што свата ка мне прысылаў…
Бацька. Памёр ён, а Войтак прыждаў:
І от ты за свата былога
І выйшла ў прыгодзе такой.
Марыся. То ж я свата пакахала,
Сёння ж Ядзя паняй стала,
Ну а я сабе ўзгадала
Пра памерлага мужчыну –
Я ж яго тады пазнала
На вяселлі, у Ганусі…
А цяперака журуся
І не знаю, ў чым прычына…
Мне дык нужан толькі мой –
А відаць, нудзьгуе *той*.
Бацька. Дзе ж мужык твой?
Марыся. Лёг і спіць.
Хоць ён замарыўся, а быць
Мне тут прыказаў – я й прыйшла.
Нашто – і сама я не знаю.
А разам са ўсімі гуляю –
От як бы я дзеўкай была,
І, помню, прыслалі сватоў
Ад мужыка і ад пана,
А я была закаханай…
Бацька. То йдзі к ім.
Марыся. А я от гляджу,
Што дружкі, хоць пабляднелі,

Гатовы скакаць да упаду –
I так весяляцца, і рады…
Бацька. Патанч з імі.
Марыся. От я гляджу...
Бацька. Ты плачаш?
Марыся. Ах, вочы замглелі,
Усё пабляднела ўваччу…

## СЦЭНА 16

Паэт, Нявеста

Паэт. Што, нявеста – з царства сноў?..
Нявеста. Ах, сон быў у мяне,
Хоць я й не спала, не;
Сон на мяне найшоў…
Паэт. Слабасць вас узяла ад кахання.
Нявеста. …От бы ў залатым я рыдване
Устрэціла д'яўла ўва сне;
Такая дурнота прыснілася,
А й нешта ўваччу мітусілася…
Паэт. Дык значыць, рыдван залаты,
I д'ябал – ні з пушчы, ні з поля?
Нявеста. Прыснілася мала ці болей –
Яно ж і не дзівіць ніколі,
Бо сколькі ўва сне дураты
Увідзіш: чаго тут смяяцца?
Вам навасцяў абы набрацца,
З нічога падняць каламуць.
Паэт. Ёсць тыя, што грошы даюць
Зусім немалыя за гэта:
Сабе можна справіць карэту
I шмат розных рэчаў забаўных,
А й дурняў пацешыць цікаўных.
Нявеста. Я аслабла так ад скокаў…
Мне снілася, бытта ў карэту

Я села, не відзячы свету…
І от, у карэце, пытаю,
(Бо недзе павезлі далёка,
Мяне праз лясы, гарады):
«Куды везяцё вы, куды,
Да чорта, мяне?!» А яны:
«У Польшчу, да роднага краю…»
А дзе тая Польшча – не знаю.
Паэт. З назовам такім стараны
Не чулі, нявеста, вы змалку.
Нявеста. То можа й шукаць яе жалка.
Паэт. А ўсё-ткі куточак ёсць гэты:
Ядзюня, руку пакладзіце
Пад грудзі…
Нявеста. А, з етым гарсэтам…
Падшылі яго тугавата.
Паэт. Ці ўсё-ткі там стукае штось?..
Нявеста. А-ёй, падзівілі вы надта:
То ж сэрца!..
Паэт. То ж Польшча і ёсць.

## СЦЭНА 17

П а э т, Ж а н і х

Жаніх. Холад гэткі, паглядзіце…
Ноч і гэтае бяссонне
Ўжо ж надоўга я запомню.
Паэт. Ноч вяселля, дружа мілы,
Забірае многа сілы.
Жаніх. Гэта так, але яшчэ
Штось знутры мяне пячэ –
Нейкі страх ці то пагроза;
Раптам страшуся я прозы –
Той, што ў фантастычным свеце;
Боязна, што ўсё жывое

Можа раптам віхрам змесці,
Што дарма мы цягнем рукі
Да відзежаў… не, не тое
Ўсё! З фантазій – ані гуку,
Хоць сабе яны знайшлі
Як бы між відзежаў месца.
Паэт. А мяне зноў пацяглі
Віхры тыя начныя.
Душа, так скажу, нібы пнецца
Увысь па скале – і ўзбярэцца
Наверх: адчуваю штоміг
Я пэўнасць у сілах сваіх!
Жаніх. Ты жартуеш?
Паэт. А д’ябал праз тыя
Абшары ночы ляціць – і канца ім няма.
Жаніх. Чаго мітусіцца дарма,
З рагатак страляць па арлах?
Мне лепей зацішша: у садзе
Ўдыхаць квету яблыняў пах,
На пух дзьмухаўцоў паглядаць
І зрок свежай траўкаю надзіць,
І жоначку ўсё абдымаць:
Куток мець свой з Божае ласкі,
Утульны, як той, што мазкамі
Стварае наш Ян Станіслаўскі –
І з яблынямі, й з бадзякамі
Пад сонца святлом залацістым.
Каб мець мне спакой урачысты…
Ну хіба што мухі-назолы
Парушаць яго
ці рой пчолаў.

## СЦЭНА 18

Т ы я   с а м ы я,  Ч э п е ц

Чэпец (*у кажуху і з вялізнай касою ў руках*).
А, панове тут…
Жаніх. Каса́!
Проста цуд!
Чэпец. Ну, бо ж адбілі.
Жаніх. Бачу: добра навастрылі,
А дзеля чаго, скажыце?
Чэпец. Рукавы ўзяў закасаў –
І ўпярод! А вы маўчыце:
Ўсё вам непанятна надта?
Паэт. Чэпец, вы пра што? Да брата
Справу маеце?
Чэпец. Ну, справу.
Жаніх. Так цікава…
Паэт. Што ж, цікава.
Жаніх. Нешта ўсё ж да нас вы мелі,
Раз так раптам прыляцелі?
Чэпец. Ну, вас проста нешта слепіць;
Я не к вам ішоў…
Паэт. Ах, Чэпец,
Дрэмле брат, будзіць не варта.
Ці штось важнае?
Чэпец. Каса́
Важная…
Паэт. Як яе сам
Для карціны ён захоча –
Ў кут пастаўце…
Чэпец. Пазнавата
Баяць пра карціны ноччу:
Не пра іх я…
Жаніх. Сёння носа
Ў Чэпца не дастанеш шостам.

Чэпец. Пан не панімае проста,
Крывіцца ўсё, далібог,
Як я праўду вам талкую,
Што гамонім мы ўпустую!
Паэт. Так, мы ў боб, а вы ў гарох.

## СЦЭНА 19

Тыя самыя, Гаспадар

Чэпец (*падыходзіць да соннага*
*Гаспадара і тузае яго за плячо*).
Пане, гэй! Досыць спаць –
Нада што-та прадпрымаць
Гаспадар (*разбуджаны, з фатэля*
*і крэслаў, на якіх спаў*).
Што? Хто лямантуе? Ганна?
Гэй, ГанУся, дзе ты?!
Чэпец (*прызачыняючы дзверы ў хату*).
Ціха,
Ей саўсім не нада слухаць,
Што сказаць хачу я пану.
Гаспадар. Кум мне нешта шэпча ў вуха –
І каса тут… што за ліха?
Чэпец. Там, у вёсцы – хваляванне:
Людзі сабраліся; можа,
Йдуць сюды, а вы тут, пане,
Ўвесь заспаны…
Гаспадар. Што? Пра што вы мне, о Божа?!
Чэпец. Я пра то, што я праспаўся
І гатоў ужэ да бою,
І прыказу я заждаўся,
Толькі, пане, не ўдаецца
Вам ачомацца ніяк.
Гаспадар. Што прыснілі вы… з касою?
Чэпец. Уставайце! Гэты знак

Не прысніўся мне. Прыказ
Нехта вам прывёз, здаецца;
У паперах, ці там як…
Гаспадар. Што? Паперы… дзе, чые?!
Чэпец. Мусіць быць прыказ у вас…
Пане, вочы вы свае
Хоць пратрыце, бо няма
Часу тут стаяць дарма:
К мужыкам ісці вам нада,
Бо яны ўжэ ўсе гатовы –
Толькі вашага ждуць слова;
На світанку пры дзядзінцы
Ўсе збіраюцца з гасцінца.
Гаспадар. Нешта не даю я рады…
Чэпец. Ў Кракаве ўжо ўсё гатова.
Гаспадар. Што вы доўгай ноччу знову,
Куме, тут навыдумлялі?
З вамі – *я*?
Чэпец. Ну, дайце веры.
Гаспадар. І вы ўсе там… касінеры?
Чэпец. Косы навастрыўшы, сталі…
Гаспадар. Знак быў нейкі?
Паэт. Ці *быў* знак?
Чэпец. То збірайцеся скарэй
І парадуйце людзей,
І не стойце проста, як
Ці слупы, ці то цьмы.
Хто што мае, ўсё бярыце,
На падворак выхадзіце;
Людзі там ужэ стаяць,
Рвуцца ў бойку ўсе яны:
Мужыкі, уперад, так!
Паэт. Нейкі знак быў…
Гаспадар. Нейкі знак!
Чэпец. Мы не можам доўга ждаць:

Як не выйдзеце, мы ўраз
Пойдзем з косамі *на вас*!
Гаспадар. Вы, а як?..
Паэт. Пра тое, хто мы,
Ці хоць трошкі вам вядома?
Чэпец. О, і ў вас пра нас, відаць,
Надта мала е знацця́.
Жаніх. Прагнеце крыві, хацяКроў зарана праліваць.
Чэпец. Даражэнькі пан жаніх,
Мыслі ў галаве заселі
Ў вас адно што пра вяселле.
Гаспадар. Сорамна ад слоў такіх,
Хоць… і цешаць вашы твары.
Чэпец. То ад іх, з таго от жару
Вы падпальвалі паходні…
Вы забыліся, відаць,
Як любілі нам шаптаць
Ноч у ноч, не адну сотню,
Пра Найсвентшай Панны словы,
Што ў нас – сіла, і мусова
З нас яна заклёны зніме…
Акурат з таго от жару
Вы й падпальвалі паходні.
Жаніх. А вы ўраз – з нажамі тымі.
Чэпец. Ждаць чаго? Ці то я зломак?
Гаспадар. Словы, куме, выбірайце.
Чэпец. А й што думаю я, знайце!
Жаніх. Ў словах кожны зух, вядома.
Чэпец. Дзела вашае пустое:
Кніжкі, вершыкі, рысункі;
Стужкі любіце й карункі,
Тое-сёе, сёе-тое,
А як выйсці ўперад нада,
Даць не можаце з тым рады.

ПАЭТ. Дык не дзеецца ж нічога!
ЧЭПЕЦ. Ці ж вы самі ўсё пра ета
Не цвярдзіце нам, яй-богу –
Пра такое наша дзела?
ГАСПАДАР. Пра якое?!
ЧЭПЕЦ. Развіднела!!!
ПАЭТ. Развіднела… то над светам
Павалока: хмары, ймгла,
Што заслонай ахінаюць
Поле…
ЖАНІХ. Росы аплываюць,
Нібы ў дыяментах чыстых,
Як павой, з лісткоў ільдзістых,
Пад якім відна скала…
Цуд!
ЧЭПЕЦ. Ты, пане, відзіш цьмы,
Росы, свечкі, розных блох…
А не хочаш знаць, хто мы:
Што ў душы ў нас – відзіць Бог –
Развіднела, знікла цемень:
Запяе ўжэ скора певень,
А ў аб'яўленым ждуць месце
З косамі хлапцоў мо з дзвесце.
ПАЭТ. Што ён кажа? Проста дзіва!
Сёння драму я прымроіў,
У якой усё пра тое.
ЖАНІХ. Што ж за тэма?
ПАЭТ. Кроў сялян,
Тое, як злуецца пан…
ГАСПАДАР. Нас чакаюць?.. Вас чакаюць?
Зараз… я прыпомню жыва…
Штосьці чуў я. Мне пра гэта
Хтось казаў… А хто?
ЧЭПЕЦ. Паўсвету
Еты чалавек праехаў:

Ён, здаецца, з Украіны,
Перадаў ён што-та; віцы
Слаць казаў вам; з’ехаў спехам.
Людзі могуць пабажыцца
За парогам: вы заснулі,
А яны згук ліры чулі.
Паэт (*да брата*). Гукі ліры, далібог,
Чуў я, як ты ўстаць не мог,
Апаўночы.
Жаніх. Штось таксама
Чуў я… ў садзе, каля брамы.
Паэт. Ў садзе… Ехаў хтосьці ўпрочкі;
Думаю сабе: званочкі
Нехта начапіў ды звоніць.
Гаспадар. Праўда! Хтось тут быў, а з ім
І другі… не ўспомню сёння,
Штосьці мірсціцца…
Чэпец. Паночкі,
Вы як не ў сабе саўсім!
Гляньце ў двор: там добра так
Кракаўскі відзён бальшак.
Паэт (*выходзячы*). Ну, то выйду – зблізку гляну.

## СЦЭНА 20

Ж а н і х, Ч э п е ц, Г а с п а д а р

Жаніх. І з чаго ў вас столькі гневу?
Трэба ж гэтак запаліцца…
Чэпец. Ў небе, пане, зараніцы,
На паветры слышны спевы.
Жаніх. Чэпец, пэўна, не ў сабе вы:
Летуценні, штосьці звоніць…
Чэпец. Ах, жаніх, там нехта гоніць:
Мужыкоў не злічыш, коней –
Гляньце унь…
Жаніх (*выбягаючы*). А што за хатай?

## СЦЭНА 21

Г а с п а д а р, Ч э п е ц

Гаспадар. Кум, вы п'яны, і я п'яны –
Ці з касой вам зручна надта?
Чэпец. Праўда! Мне стаяць пагана:
Хочуць людзі ў бойку йсці.
Хлопцы, ўперад! Ну, хадзі,
Каспар! Станьце тут на варту!

*Ён, гукаючы, адчыняе дзверы; уваходзяць два парабкі з навостранымі косамі; сярод іх Каспар, убраны як дружбант. Яны ўтвараюць варту: адзін у глыбіні хаты каля самых дзвярэй, другі каля дзвярэй у вясельную святліцу.*

## СЦЭНА 22

Г а с п а д а р, Ч э п е ц, П а р а б к і

Гаспадар (*да Каспара*).
Баб у дзверы не пускайце.
Што вам трэба, хлопцы, што?
Чэпец. Хто-та быў у вас… А хто?
Як е ў пана Бог у сэрцы,
То нам, пане, веры дайце!
Гаспадар. Пачакайце… мне здаецца,
Нехта быў тут – праўда, кум!
Тут у галаве вось… шум…
Думка недзе ў глыбіні:
Не ідзе наверх ані…
Іншых нейкіх думак тлум…
Чэпец. Пан сябе адно руйнуе:
Ўсё ён думае, мяргуе,
Каб не ўср…ся неўнароку!

## СЦЭНА 23

Т ы я   с а м ы я, Ж а н і х

Жаніх (*стоячы ў дзвярах*).
Белых галубоў чародка
Вымкнула перада мной –
Ядзя аж загаласіла,
Воблакі ўзняліся пылу.
Ядзя, ну, хадзі!
Каспар (*у дзвярах святліцы, дзе ідзе вяселле*).
Без Ядзі
Нейк абыдземся. Ты можаш,
Пане, ўсё паслухаць тожа.
Баб не нада – Бога радзі!

## СЦЭНА 24

Т ы я   с а м ы я, Н я в е с т а

Нявеста (*моцна штурхнуўшы дзверы, заходзіць, адпіхваючы Каспара*).
Ты мне, шэльма, тут не стой!
У руку схваціўшы кол,
Ты ўжо думаеш, казёл,
Камандзер такі во! Штоб
Кадку йшчэ ўсцягнуў на лоб!
Жаніх. Што табе?
Каспар. Вы б лучча, пані,
З мужам спаць пайшлі сваім.
Нявеста. Вас дабіла ўсіх няспанне:
Ў мазгаўнях ці чад, ці дым.

## СЦЭНА 25

Т ы я  с а м ы я, П а э т

Паэт (*забягаючы ў хату*).
З поля чорныя вароны
Паўзляталі й над загонам
Паняслліся: як бы клічуць
Карканнем, глыбокім тонам
Тыя чорныя вароны,
Ў кіпцях несучы здабычу.
Гаспадар. Браце, кажаш ты не тое.
Паэт. На аблоках здані, ў строях…
Жаніх (*гледзячы ў акно*).
Ружавее ўжо далёка;
Глянь, прымруж адно хоць вока:
Граюць блікі на світанні!
Паэт. З хмараў трон вось-вось паўстане,
Крылы нейкія навокал…
Чэпец. Зноўку за сваё ты, пане!

## СЦЭНА 26

Т ы я  с а м ы я, Г а с п а д ы н я

Гаспадыня (*імкліва ўваходзячы*).
Паглядзіце, хлопцы, гол-ля!
Войска, ўсё ў агні, стаіць!
І ля Кракава ўсё поле
Ад касішчаў аж блішчыць.
Гаспадар. Го, стаяць ужо!
Паэт. Гарыш
Ты ўся. Ну, давай, хадзі ж!

*Выбягае, цягнучы за сабою Гаспадыню.*

## СЦЭНА 27

Тыя самыя,
апроч Гаспадыні і Паэта

Жаніх. Што ў вас тут?
Нявеста (*цягне яго за сабою*). То паглядзі ж!
Тутка падаюць нам знак!
Жаніх. Божа мой, цікава так:
Што то робіцца на свеце…
(*Абое выбягаюць.*)

## СЦЭНА 28

Тыя самыя,
апроч Жаніха і Нявесты; Паэт

Паэт (*хутка вярнуўшыся*).
Чуў я: нібы нейкі вецер,
Галасоў гучанне, спевы,
Ды халодныя павевы
Ветру дзьмуць у іншы бок;
Тое, што, бывала, звыкла
Ухапіць быў здольны зрок,
Раптам нечакана знікла;
Ціша, небасхіл пусты,
Больш не хіляцца кусты.

## СЦЭНА 29

Тыя самыя, Жаніх

Жаніх (*ляціць назад*). Ўся крывёю заранiца
Набрыняла; вунь пісяг
Па-над Кракавам чырвоны:
Ў Жыгімонтавага звона
Вусы два – нібы ў працяг…

## СЦЭНА 30

Тыя самыя, Нявеста

Нявеста (*ляціць назад*).
Прыляцеў агромны птах,
Чорны крук; на ганку сеў,
Шаснуў крыллем, узляцеў,
Апусціўся зноў, як змог,
Вецце абламаў бяроз
І расу з лісточкаў строс.
После зноўку ўзлёт такі –
Р-раз!

## СЦЭНА 31

Тыя самыя, Гаспадыня

Гаспадыня (*забягаючы ў хату*).
Няхай бароніць Бог!
Што вам нада, мужыкі,
І чаго вы косы бралі?
(*Да Чэпца.*)
Куме, йдзіце ўжэ ў святліцу,
Бо ўсю ночку вы не спалі.
Каспар. Нас пабольшала тут ладна.

## СЦЭНА 32

Тыя самыя, шмат мужыкоў з косамі і іншым узбраеннем; усе яны апранутыя ў дарогу.

Гаспадыня. Гвалт! Ратуйце! Гэта ж нада:
Хто вам косы даў?
Чэпец. За зброю!
Матка, ціха, дай спакою!
Гаспадар. Трэба зброю браць… ага!
Днее, й нейкая смуга

Па-над полем; дзівы, цуды,
Пустазелле нібы ўсюды,
Пустазелле ды куколь…
Мроі нейкія ці сон:
Нехта быў тут. Што за ён?

Паэт (*да Гаспадара*).
Мілы браце, неспакой
У табе гаворыць, боль.

Жаніх (*да Нявесты*).
Ядзя, сыдзе прэч імгла,
Будзе ясна, як заўсёды:
Ўчора бура ў нас была –
Сёння будзе зноў пагода.
Любая, ты ўжо са мной!

Паэт (*да Гаспадара*).
Дух з'явіўся мне ўначы
Ў чорных латах адмысловых;
Наляцеў ён, крычучы
Нейкія такія словы…
Ўвесь я свой напружыў слых.

Гаспадар (*да Паэта; пры гэтым усе прыслухоўваюцца да яго*).
Памарока не аслабла,
Хоць і ветрыку павевы…
Брат мой, ці ты чуў ад іх
Штось пра тое, быццам спевы
Ім з нябёсаў праспяваліся?

Паэт. Можа, то спяваюць д'яблы
Ды крывёй на хмар ланцуг
Пырскаюць?

Жаніх. У небе рух.

Гаспадар (*да Паэта*).
Кажаш, ты напружыў слых?..
Браце, словы мне ўзгадаліся
Гэтыя: «напружваць слых».

## СЦЭНА 33

Тыя самыя, Ганначка, Зося

Ганначка (*да Жаніха*). Братка, ў небе нейкі рух,
Бойкі нейкія ды жахі:
Коннікі праз хмары мкнуць.
Зося. Гэткія ў паветры пахі...
Коннікі ў нябёсы мкнуць;
Рыцары, як веліканы,
Сталі роўна ў два шыхты
І ў галопе нестрыманым
Пасам дрэў імчаць далёка.
Жаніх. Шмат аблуды й дураты:
Кожна нешта ўраз прымроіў
Ды сябе ўжо так настроіў,
Што ва ўсім ён знакі бачыць.
Ганначка (*да Чэпца*). Гэткіх велізарных косаў
Я й не бачыла. Дзівосы!
Секанеш такой – няйначай
Спалавініш і нябёсы.
Чэпец. Крый нас Божа – секчы неба!
Нейкая… не тая мова;
А паявяцца, як трэба,
Моцныя, без шутак, словы.
Панна ўсіх судзіць гатова,
А пра косы – без панятку.
Ганначка. Што ні слова, то загадка…
Ўзяць касу і я б хацела –
Дайце мне!
Чэпец. Ну, ета дзела.
Не паненкі.
Гаспадар (*да Паэта; пры гэтым*
*усе прыслухоўваюцца да яго*).
Справа! Справа!
Дух! – праз Бога – Дух – мяркуе:

Ноч была, дзівосаў ява:
Госць быў – знае хто ці чуе? –
А ў душы лятункі-мроі…
Паэт. Бачыў рыцара я ў зброі,
Кажаш, браце, Дух!
Гаспадар. Мой браце!
Прылятаў Дух гэты, людцы!
Ён стаіць перад вачыма –
Ах, цяпер магу ўзгадаць я:
Валасы сівыя ўюцца;
Ў ім пазнаеш чалавека
З барадой, старога веку;
Быў кажух на ім чырвоны…
Стасік (*праціснуўшыся да Гаспадара праз натоўп мужыкоў і баб, што сабраліся ў святліцы.*)
Праўда – пан той прыязджаў,
Я каня во з ім дзяржаў:
Конь быў белы.
Куба (*падхоплівае Стасікавы словы*).
…Пры сядле
Ліра.
Гаспадар. Ў галаве звон звонам…
Стасік. І яшчэ два пісталеты.
Гаспадар. Вэрхал у мазгах – што гэта:
Думак не збяру.
Чэпец (*да навакольнай грамады*). Але
Мыслі ён збірае.
Гаспадыня. Хворы
Ён, мой Божа!
Гаспадар. Т-с-с, ды не!
Слых напружце: быў (я ўспомніў)
Дух – Вярнігара – ў мяне!
Усе. Вешчы дух? Пра што гаворыш?!
Гаспадар. Ён да першых сонца промняў

Вёскі ўсе, двары аб'ехаў,
Раздаваў усім загады;
Сілы ўнутранай шмат, ладу
Ў ім было; ляцеў ён спехам,
Каб паспець ва ўсе двары
І да гэтай быць пары.

Усе. З зараніцай?

Гаспадар. З зараніцай.

Усе. Што ў загадзе?

Гаспадар. Выслаць віцы.

Паэт (*да касінераў*). Віцы маеце вы?! Божа!

Чэпец. Хлопцы, што былі тут, зноў жа,
Нам пра ета расказалі:
На дварэ яны стаялі,
Коней за аброць дзяржалі.

Стасік. Конь ягоны быў агонь –
Мне дый Кубу еты конь
Чуць не ўрэзаў капытом;
От то пан – з такім канём!

Гаспадар. То Вярнігара, то ён!
Мой прайшоў нарэшце сон;
Зброю браць казаў ён, зброю!

Паэт. І ляцець?

Гаспадар. Ды не – стаяць,
Пеўня голасу чакаць,
Слых напружваць: за гарою,
Ў Кракаве, як пойдзе рух –
Будзе відна ад гасцінца.

Гаспадыня (*з другой святліцы*).
А людзей жа на дзядзінцы!

Нявеста (*стоячы ў дзвярах*). Тут свае ўсе!

Гаспадыня (*з другой святліцы*).
Ёсць і з Тоняў;
Тут, пад Кракавам, сягоння –
Поўна люду, поўна кос!

Паэт. То аблуда.
Гаспадар. Гэта – лёс!
Паэт. Ёсць, вядома, покліч душ,
Бо так доўга – глуш ды глуш…
Жаніх. Пробліск нейкі, нейкі зык…
Паэт. З нейкіх сэрцаў рвецца крык.
Чэпец. Што, пан слухаць не гатоў!
Паэт. Слухаць – што?
Гаспадар. Пачуць павінны
Ўсе мы тупат капытоў.
Паэт. Конскі тупат…
Ганначка. Хто прыедзе?
Гаспадар. На гасцінец хутка недзе
Дзед сівы прыедзе з лірай.
Ганначка. Сам Вярнігара стары?!
Гаспадар. Ён перажагнае з мірам
Ніву – й тут жа, праз хвіліну
Ўжо на конях мы, сябры!
Паэт. І наперад!
Гаспадар. Таямніца.
Ўзыдзе потым заранiца…
Паэт. Хоць яшчэ і ўсё ў паўзмроку,
А й відаць зару здалёку…
Чэпец. Трэці певень прапяе.
Гаспадар. Так!
Паэт. Што значаць здані
Ў хмарах?
Гаспадар. Хмары! Здані!
Жаніх. Ў хмарах выдма паўстае;
Сціхла ўсё, вакол маўчанне.
Паэт. Слухаць!
Чэпец. Слухаць!
Ганначка. Слухаць!..
Гаспадар. Га?
Жаніх (*слухае, стоячы каля акна*).
Чую недзе нейкі рух:

Праляцеў ды загубіўся
Ў садзе грушавым.

Паэт (*у абсалютнай цішыні*).
У-га,
Шум той ад зумклівых мух,
Мальваў шолаху зрабіўся.

Гаспадыня (*паўшэптам*).
На калені сталі людзі –
Паглядзіце там, налева.

Нявеста (*з крыкам захаплення*).
А людзей-та прыбывае!

Ганначка (*стоячы паміж Гаспадаром і Чэпцам, у слязах*).
Ён адзін да нас прыбудзе,
Хтось яго суправаджае?

Гаспадар. Зробім наш яму паклон:
З АРХАНЁЛАМ едзе ён
З боку Кракава. А ў замку
Ўсіх чакае КАРАЛЕВА
З Чанстаховы.

Паэт. Брат наш, Дух!

Гаспадар. Слых напружваць, слухаць рух…

Ганначка. Божа мілы, чую!..

Гаспадыня. Што?

Нявеста. Чую там, далёка…

Жаніх. Дзе?

Паэт (*напаўголаса*).
Лісце з дрэў бесперастанку
Ападае.

Жаніх (*шэптам*). Вецер сціх…

Паэт. З саду там вароны дзве
Узляцелі.

Жаніх. Бачыць хто? –
З агароду!

Нявеста. Ў поле, госці!

Гаспадар. Ціха!
Ганначка. Т-с-с!
Гаспадыня (*сярод агульнага маўчання*).
Мо што слыхаць?
Паэт (*прыклаўшы руку да вуха,*
*схіляе галаву да братавых грудзей*).
Днее!
Гаспадар. Нешта кажа слых!..
Паэт (*трымаючы руку каля вуха*).
Дух вялікі! штось чуваць…
Гаспадар. Ціха!
Жаніх (*наставіўшы вуха да шыбы*).
А там едзе хтосьці.
Ганначка (*гледзячы перад самою*
*і затуліўшы твар*).
Божа! Зося, слухай, ну-тка:
Пошчак!
Зося. Едзе!
Гаспадар. Гоніць!
Паэт. Хутка!
Чэпец. Будзе з сотню, можа, коней…
Гаспадыня. Пошчак…
Каспар. Згукі…
Нявеста. Ўсё магутней!
Гаспадар. Ціха! Ўсходзіць заранiца,
Схілім голаў у паклоне:
То Вярнігара, наяве!
Дух павінен нам з’явіцца,
Здань – напраўду, не ва ўяве.
Паэт. Золак граць пачаў на лютні…
Жаніх. Пошчак…
Нявеста. Ета…
Гаспадыня. Ён…
Чэпец. Імчыцца!

*Усе ўслухоўваюцца, павярнуўшыся да дзвярэй і вокнаў.*

ГАСПАДАР. Людцы, ша! То мусіць быць
Сам Вярнігара, ў сядле:
Пэўна ж, ён да нас ляціць,
Арханёл там на чале…
Гэтай ночы, пакуль мы спраўлялі
Тут Вяселле, пакуль мы скакалі,
Адбылося вельмі шмат:
Кракаў запалаў агнямі;
МАТКА БОСКАЯ ў кароне
Ў замку Вавельскім на троне
Піша маніфест, загад,
Што палямі і лясамі
Праляціць і Край абудзіць…
Слухайце й маліце, людзі:
Хай Вярнігара прыбудзе –
Коні ў табуне наўкол!
ЖАНІХ. Блізка?
ПАЭТ. Ўкленчыць! Так стаяць!!!
ЧЭПЕЦ. Ух ты, змог каня здзяржаць!
ГАСПАДАР. Моцна ўпёршыся, ідаць.
ГАННАЧКА (*у захапленні*).
Ах, каб то быў Арханёл…

*Усе заслухаліся, хто – укленчыўшы, хто – нахіліўшыся, трымаючы ў руках косы; раптам, нібы ачомаўшыся, нехта хапаецца за пісталеты ці шаблі, што вісяць на сценах. Усе слухаюць, быццам заварожаныя, прыставіўшы далоні да вуха. Сапраўды, пошчак коней чуцён усё выразней, раптам чуецца зусім зблізку, а потым імгненна сціхае, і праз нейкую хвілю ў сенях ужо чутны імклівыя і цяжкія крокі; пасля іх ужо чуваць у святліцы, што побач; у глыбіні пакоя з'яўляецца Першы Дружбант.*

## СЦЭНА 34

Ясік. Божа свенты, ах, Марыся!
Конь мой бедны здох…
(*Азіраючыся па баках.*)
Дзе ты, Ядзя? Адзавіся!
Ганка! Дзе вы?! Ох…
………………………………
Бы ў заклёне, стаіцё:
Што вы, што вы тут – спіцё?!
Што ж вы, Ганка, Блажак, матка,
Нарачоны, Чэпец, татка –
Бытта бы на вас заклён,
Ці то ўзяў вас нейкі сон?..
………………………………
А, ну праўда, відзіць Бог:
Мусіў я трубіць у рог…
Дзе ж рог залаты згубіўся?
Дзе-та проста адчапіўся –
Засталася вось пасля
У руках адно пятля.

*След у след за Ясікам з глыбіні другой святліцы, хістаючыся сюды-туды, выходзіць Чахол.*

## СЦЭНА 35

Чахол.
………………………………
Шапка з пёрамі ў цябе
Ўпала – й вось…
Ясік. Я нахіліўся –
То, відаць, ён адчапіўся.
Чахол. З рогам залатым пасля
Ў шапцы з пер’ем ты папёр,
Шапку здзьмуў з ілба віхор.

Ясік. Пёркі от… былі на лбе –
І няма.
Чахол. …Адно пятля.
Ясік. Мо найду дзе пад распяццем…
Чахол. Пад распяццем хтось стаяў.
Ясік. Кажную абла́жу пядзю…
Певень, певень… ці ж пяяў?

*Праціснуўшыся скрозь натоўп нерухома застылых людзей, ён выбягае праз дзверы ў хату, дзе адбываецца вяселле – яго крокі чуваць у сенях, – ён то спыняецца, то бяжыць далей… следам за ім, ківаючыся, ідзе Чахол і шамаціць сваёй саломай, зачапляючы расштурханых людзей.*

*З саду, з поля, у сапфіравым святле, што струменіць сінябатым сяйвом, далятае ранішняе птушынае шчабятанне; тое блакітнаватае святло, нібы чарамі запаўняючы хату, грае колерамі на постацях людзей, што прыхілілі галовы – ці ў паўсне, ці ў захопленым паўзабыцці. Праз далёкія дзверы вяртаецца Ясік: азіраючыся і не верачы сваім вачам, ён ад сполаху ледзьве перастаўляе ногі.*

## СЦЭНА 36

Ясік. То віднее ўжэ, віднее –
Нада корм даваць скаціне,
Сечку намяшаць з бацвіннем…
Аднаму ці ўдасца мне?
Ўсе ж цяпер як у паўсне.
…………………………………
Што-та люд наш камянее,
Услухоўваецца,… сціх,
Заняло як бытта дых,
Кажны нібы ў землю ўрос –
Што пара́дзіць ім наўпрост?
…………………………………
Дзесь на збегу дзвюх дарог
Залаты згубіў я рог.

Шапку з пер’ямі паўліна
Здзьмуў віхор; я ж, бедачына…
Як жа я згубіў той рог? –
У руках – пятлі шнурок.
……………………………….
А ў людзей ад іх журботы
Унь, на лбах адны маршчыны,
Як пасля цяжкой работы…

## СЦЭНА 37

*У дзверы, што ў глыбіні хаты, следам за Ясікам зноў праціснуўся Чахол: ускараскаўшыся на размаляваны куфар, ён звяртаецца да дружбантаў з наступнымі словамі.*

ЧАХОЛ. Іх скавалі Жах і Сполах,
Ім пачуўся голас Духу,
Лёс над імі ўскінуў полаг.
ЯСІК. Іх дагнала злыбядуха,
З бледных твараў льецца пот –
Як жа збавіць іх ад мук?
ЧАХОЛ. Забяры ў іх косы з рук,
Шаблі з пасаў паздымай –
Скінуць груз яны турбот, –
Колцы намалюй на чолах;
А цяпер мне скрыпку дай –
Гранне ім пачну я сам,
Скрыпкі гэтай не аддам.
ЯСІК (*прарабіўшы ўсё гэта*).
Касы ўсе куды?
ЧАХОЛ. У кут.
ЯСІК (*кідаючы іх за печ*).
Іх ніхто не найдзе тут.
ЧАХОЛ. З іхніх стрэльбаў высып порах
І знясі ў падвал, у лёхі;
Адступі нагою трохі,

Круг вялікі крэслі ботам.
Рукі так складзі ім потым,
Выйсці змусь за круг па двое…
Сам для іх пачну я граць
Тое-сёе,  сёе-тое –
Будуць цэлы год скакаць.

Ясік (*прарабіўшы ўсё гэта*).
Больш няма ў іх кос.
Чахол. Накруці ім нос!
Ясік. Больш не маюць жалю…
Чахол. Путы паскідалі.
Ясік. От пайшлі скакаць старанна.
Чахол. Не смыляць ім болей раны.
Ясік. Чары дзе?
Чахол. Не тыя чары!

*І заклятае саламянае пудзіла, схапіўшы сваімі нязграбнымі рукамі дзве тычкі, пададзеныя яму дружбантам, пачынае сабе як бы граць на скрыпцы; і робіцца чутно, што, нібы з блакітнага паветра, плыве вясельная музыка – і ціхая, і прыдатная да скокаў – свая і тая, што бярэ за душу і здольная яе прыспаць; яна лянівая, быццам у здранцвенні; а і, як кроў, бурлівая, пульсоўная няроўнымі тактамі; крывацёчная, нібы свежая рана; гэта меладычныя зыкі польскае зямлі, гукі, узгадаваныя болем і асалодаю.*

Ясік (*цяпер задаволены і моцна здзіўлены*).
От дык па́ры, от дык па́ры!
Чахол. Балаган увесь вунь скача,
Ты за служку тут, няйначай?
Ясік (*падымае руку да лба, як бы хочучы нацягнуць шапку на вушы*).
Шапка з пер’ямі і кантам…
Дзе ж я дзеў яе, бядача?
Як без шапкі быць дружбанту?
Чахол (*рухаецца ў такт і напявае*).
Хаме, шапку меў жа ты
З пёрамі – й рог залаты.

Вецер шапку носіць,
Гучна рог галосіць;
Залаты згубіў ты рог,
У руках – пятлі шнурок.
(*Пяе певень.*)

Ясік (*як бы ўражаны, прыходзячы ў прытомнасць*).
Бог мой! Певень запяяў!!!
Коней, гэй, браты, сядлайце,
Косы, шабелькі хватайце:
Вавель вас даўно чакаў!

Чахол (*рухаецца ў такт і напявае*).
У руках – пятля.
………………………………
А ты,
Хаме, рог меў залаты.

Ясік (*амаль ахрыплы ад крыку*).
Коней, гэй, браты, сядлайце!

*Пад дзівосныя гукі вясельнай музыкі па́ры ідуць адна за адной, павольным, спакойным, светлым, ціхманым рэем – ледзьве шамацяць накрухмаленыя спадніцы, шамацяць доўгія стужкі, пазвоньваюць аздобы на ўборах, глуха тупацяць цяжкія боты; тлум тых, хто танчыць, атачае цесным колам стол, зачапляючы адно аднаго.*

Ясік. Гранне музыкі тае,
Ім саўсім спеў не чуцён:
Ахапіў іх нейкі сон…

*Ад роспачы яму займае дых, ён дранцвее ад сполаху і жаху і нахіляецца да зямлі; яго адціскае кола танцораў, якое ён марна спрабуе разарваць; пары, слухаючыся прыглушаных гукаў, цесным колам, утвараючы вянок-рэй урачысты, павольны, светлы, плывуць і плывуць далей.*

………………………………

*Пяе певень.*

Ясік (*паўпрытомна*). Певень, га, пяе!
Чахол (*пануючы над нязмоўчнай музыкай*).
А ты,
Хаме, рог меў залаты.
………………………………….…

*1901*

# АНТЫРАМАНТЫЧНЫЯ ДРАМЫ СТАНІСЛАВА ВЫСПЯНЬСКАГА

*Замест пасляслоўя*

На долю аднаго з найбольш адметных творцаў у гісторыі польскай нацыі Станіслава Выспяньскага выпала жыць у час, калі не ствараць і *не тварыць* было, здаецца, немагчыма. А ствараць трэба было нешта новае. Пасля крывавых патопаў XVII стагоддзя культура рэнесансавага ўзору страціла свае пазіцыі ў гарадах не толькі Вялікага Княства Літоўскага, а і Польскай Кароны. Галоўнымі асяродкамі, у якіх жывіліся традыцыі старой культуры і літаратуры, зрабіліся маёнткі і фальваркі магнатаў і крыху бяднейшай шляхты. Менавіта з гэтага асяроддзя паходзілі выбітныя дзеячы культуры Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў, стваральнікі *эстэтыкі выжывання пасля перажытага* апакаліпсіса. Да іх належалі, сярод іншых, паэты Мікалай Сэмп-Шажыньскі з-пад Львова і Эльжбета Дружбацка з Вялікапольшчы, Веспазіян Кахоўскі і Стэфан Канарскі (абодва з Сандаміршчыны), Вацлаў Патоцкі і Ігнацы Красіцкі (абодва з-пад Санока), паэт, празаік і драматург Станіслаў Любамірскі і аўтар бліскучых мемуараў Ян Хрызастом Пасэк (абодва з Мазовіі), публіцыст Гуга Калантай і аўтар камедый Францішак Заблоцкі (абодва з Валыні), нашы землякі паэты Юзаф Бака з-пад Мінска, Адам Нарушэвіч з Піншчыны і Юльян Урсын Нямцэвіч з падберасцейскіх Скокаў... Падзелы Рэчы Паспалітай,

драматычныя падзеі паўстанняў канца XVIII – сярэдзіны XIX стагоддзяў узмацнілі трагічна-апакаліптычны элемент у літаратуры, ствараная на польскай мове: найбольш яскрава гэта выявілася ў творах «крэсавых» аўтараў, радавод бацькоў якіх вёўся з таго самага фальваркавага асяроддзя – Адама Міцкевіча і Юльюша Славацкага. Пазітывісты – а найперш народжаны пад Люблінам Баляслаў Прус і Эліза Ажэшка з падгарадзенскай Мількаўшчыны – упершыню паспрабавалі па-мастацку асэнсаваць тое, што гісторыя былой Рэчы Паспалітай выявілася бязлітаснай не толькі да яе «палітычнага народа», шляхты, а і да народа простага – сялянства і беднага мяшчанства.

Аднак напрыканцы дзевятнаццатага стагоддзя палітычная і, перш за ўсё, эстэтычная праграма пазітывістаў шмат каго з інтэлектуалаў перастала задавальняць. Шляхта, асабліва ў расійскім і прускім заборах, адчувала прыгнёт над сабой не ў меншай (а часам і ў большай) ступені, чым звычайныя гаспадары-сяляне, і не бачыла шляхоў аб’яднання высілкаў на карысць адраджэння самастойнай і адзінай Рэчы Паспалітай. Пагатоў высакародныя памкненні пазітывістаў у асяроддзі тых самых сялян былі малазаўважныя. Узгадайма, да прыкладу, што ў сваім знакамітым вершы, звернутым да Элізы Ажэшкі, падзяку за тое, што яна «смела зазірнула ў хату» ад імя сялян выказаў акурат радавіты шляхціц Францішак Багушэвіч.

З вышэйсказаным звязана ў тым ліку і ўзнікненне руху Маладой Польшчы. Па-першае, прадстаўнікі гэтага руху (найчасцей выхаваныя ўжо ў гарадскім асяроддзі) сур’ёзна ставілі пад сумнеў сілу рэалістычнага мастацкага слова. Па-другое, пабудаваны на ўзвелічэнні ахвярнасці і пакутніцтва рамантычны ідэал паляка, які кладзе сваё жыццё за сваю і чужую свабоду, іх не прыцягваў, бо канец XIX стагоддзя быў эпохай папулярнасці філасофіі Шапэнгаўэра і Ніцшэ, дэкадэнцкіх настрояў. Спачуванне польскаму працаўніку-селяніну выраджалася ў з’яву «хлапаманіі», што паляга-

ла ў бескрытычным захапленні «чыстай сялянскай душой» перадусім жыхароў Татраў і Падгалля, з тагачаснага аўстрыйскага забору. Ілюзія яднання з людам праз шлюбы малапольскіх і галіцкіх шляхцічаў з простымі сялянкамі выклікала падсвядомы пратэст у інтэлектуалаў і спрыяла пашырэнню захапленнем ідэяй чыстага мастацтва, «паэзіі дзеля паэзіі». Прызнаны лідар Маладой Польшчы 1890-х гадоў Станіслаў Пшыбышэўскі у эсэ «Confiteor» і трактаце «Да псіхалогіі творчай асобы» выказаўся наконт таго, што паміж выбітным творчым індывідам і «натоўпам» існуе непераадольная прорва і што толькі выбітны мастак у сваёй творчасці і асабістым жыцці можа па-сапраўднаму выказаць боль існавання ўсяго чалавецтва ды весці яго шляхам духоўнай эвалюцыі; пры гэтым творца мусіць заплаціць за гэта астракізмам з боку грамадства і трагедыяй уласнага жыцця. На гэтым фоне, кажучы без перабольшання, у польскае мастацтва і літаратуру ўварваўся Станіслаў Выспяньскі.

Ён быў чыстым гараджанінам: нарадзіўся 15 студзеня 1869 г. у Кракаве. Бацька, Францішак Выспяньскі, займаўся ўжытковай скульптурай і фатаграфіяй, маці, Марыя Выспяньская (з дому Рагоўская) мела неблагую хатнюю музычную адукацыю. З 1875 года Станіслаў Выспяньскі наведваў школу пры настаўніцкай семінарыі, а менш як праз год яго маці памерла ад сухотаў. З 1880 года Станіслаў – на той час ужо вучань прэстыжнай гімназіі імя св. Ганны) – выхоўваўся ў бяздзетных дзядзькі і цёткі Станкевічаў (Казімеж Станкевіч браў чынны ўдзел у паўстанні 1863 г.). Ужо ў гімназіі ён актыўна займаўся жывапісам і спрабаваў пісаць літаратурныя творы. Гэтай акалічнасці паспрыяла яго знаёмства з мэтрам польскага жывапісу Янам Матэйкам, а таксама з будучымі славутымі літаратарамі і мастакамі – Казімежам Тэтмаерам, Юзафам Мэхоферам, Люцыянам Рыдлем, Станіславам Эстрайхерам. У 1887 г. Выспяньскі пачаў вучобу ў Кракаўскай Школе Прыгожых Мастацтваў, запісаўся таксама на філасофскае аддзяленне Ягелонска-

га ўніверсітэта. Ян Матэйка, тагачасны дырэктар Школы Прыгожых Мастацтваў, даручыў яму, як аднаму з найбольш здольных студэнтаў, прыняць удзел у рэстаўрацыі слыннага Марыяцкага касцёла.

У 1890–94 гг. Станіслаў Выспяньскі актыўна падарожнічае па еўрапейскіх краінах (Італія, Швейцарыя, Францыя, Германія), наведвае Прагу. Знаёміцца з шэрагам вядомых жывапісцаў, у т. л. з Полем Гагенам. Асабліва моцнае ўражанне на яго робяць італьянскія помнікі архітэктуры, а таксама тэатры Парыжа і Мюнхена. Якраз у гэты час узнікаюць накіды яго першых драматычных твораў «Легенды», Варшавянкі», «Данеля». У 1894 г. Выспяньскі канчаткова вяртаецца ў Кракаў, дзе займаецца стварэннем вітражоў для касцёла айцоў францішканаў, актыўна публікуецца ў часпісе «Życie», выступае сузаснавальнікам новага часопіса – «Sztuka». У гэты самы час ён пачынае актыўнае супрацоўніцтва з кракаўскім Гарадскім тэатрам на чале з Тадэвушам Паўлікоўскім, дзе неўзабаве адбываюцца прэм’еры яго «Варшавянкі» і «Лялевеля». Працягваючы актыўныя заняткі жывапісам, графікай і літаратурай, Выспяньскі выкладае ў Акадэміі Прыгожых Мастацтваў, а пэўны час нават з’яўляецца радным кракаўскага магістрата. У 1900 г. ён жэніцца з сялянкай Тэафіляй Пытка, у іх сям’і нараджаецца двое сыноў і дачка. У першае пяцігоддзе XX ст. Кракаўскі тэатр ставіць яго наступныя драмы: «Вяселле», «Вызваленне»; у той жа час пастаноўку «Праклёну» забараняе аўстрыйская імператарская цэнзура.

Для сваёй жонкі Станіслаў Выспяньскі купляе дом у сяле Вэнгжцы, дзе ён, урэшце, і праводзіць апошнія гады свайго жыцця. Памёр ён 28 верасня 1907 г.; пахаванне ж Выспяньскагаператварылася ў сапраўдную народную маніфестацыю. Пры жыцці ён так і не дачакаўся пастаноўкі такіх драматычных твораў, як «Мелеагр», «Лістападаўская ноч», «Вяртанне Адысея», «Суддзі» і інш.

Сёння Станіслаў Выспяньскі вядомы як аўтар жывапісных

і графічных прац («Партрэт сясцёр Бабранак», «Скарбы Сезама», «Фетыда выходзіць з мора да сына», «Лучнік Апалон», «Зара», «Дзяўчынка з вазонам кветак», цыкл «Стыхіі»), вітражоў («Бог-Айцец – Паўстань», «Мадонна з дзіцем»), але найперш як адзін са стваральнікаў новай нацыянальнай польскай драмы. Традыцыйнае разуменне такой драмы сфармавалася ў першай палове XIX стагоддзя, пасля з'яўлення такіх шэдэўраў польскай літаратуры, як «Дзяды» Адама Міцкевіча, «Кардыян» і «Бянёўскі» Юльюша Славацкага, «Ірыдыён» і «Нябоская камедыя» Зыгмунта Красінскага. У гэтых творах закраналіся самыя актуальныя праблемы свайго часу, шукаліся і аналізаваліся прычыны паразаў патрыётаў Рэчы Паспалітай у нацыянальна-вызваленчай барацьбе, фармавалася ідэалагічная аснова, вызначаліся кірункі будучага змагання за свабоду і незалежнасць Айчыны. У большасці драматычных твораў Станіслава Выспяньскага мы можам убачыць тыя самыя рысы. Але Выспяньскі прынцыпова і свядома *адыходзіць ад рамантычнай трактоўкі* нацыянальна-гістарычнай праблематыкі, а падае гэтыя праблемы ў рэчышчы эстэтыкі новага, мадэрнісцкага тэатра. Як аўтар п'ес ён фармуецца пад відавочным уплывам творчасці Марыса Мэтэрлінка, яго драматургіі перажыванняў, настрояў і сімвалаў. Аднак пачынаючы ад «Варшавянкі», ён прапануе сваю ўласную эстэтыку драматычнага твора, дзе сімвалы стаяць не ў цэнтры ўвагі, а толькі выступаюць як адзін са сродкаў дасягнення нябачанай датуль у польскай драматургіі тэатральнай вымоўнасці. Прадуманыя да драбніц дэкарацыі, жэстыкуляцыя, інтанацыі актораў, увядзенне элементаў пантамімы – усё гэта робіцца адметнай рысай твораў Станіслава Выспяньскага, напісаных для тэатральнай сцэны: замест нацыянальнай *драмы* ён прапануе гледачу паэтызаванае нацыянальнае *відовішча*. У адрозненне ад рамантычнай драмы, дзе ўся ўвага надаецца постацям галоўных герояў як непаўторным індывідам, драма Выспяньскага вядзе гледача ў свет супярэчных між сабою сіл і з'яў.

Вядомыя са шматлікіх гістарычных крыніц падзеі Лістападаўскага паўстання 1830–31 гг. аўтар драмы «Варшавянка» падае як фон дамінуючых настрояў, а настроі гэтыя адлюстраваныя ў выглядзе ланцуга антытэз. З аднаго боку, мы бачым радасць і запал змагання за нацыянальнае вызваленне: лейтматывам гэтага змагання праз усю п'есу праходзіць патрыятычная песня, «Варшавянка». У гэтую мажорную танальнасць, аднак, увесь час уплятаецца танальнасць мінорная. Злавесныя прадчуванні, знакі роспачы і бяды суправаджаюць кожную сцэну драмы. Спалучаныя ў адно веліч і трагізм гістарычных падзей павінны ўзрушыць гледача, паставіць перад ім пытанні, на якія сам драматург і не спрабуе даць адказ.

Яшчэ больш яскрава і паслядоўна канцэпцыя нацыянальнага відовішча рэалізуецца Выспяньскім у драме «Вяселле». Канва яе сюжэту пабудавана вакол падзеі, сведкам якой быў сам аўтар, – вяселля Люцыяна Рыдэля, паэта і даўняга знаёмца Выспяньскага, з сялянскай дзяўчынай Ядвігай Мікалайчык. Вяселле адбываецца ў прыкракаўскай вёсцы Малыя Бранавіцы, у хаце бацькоў маладой. Гэты нескладаны сюжэт ператвараецца, аднак, у аўтара ў своеасаблівую містэрыю, у якой у свет рэальны ўвесь час уваходзяць фантастычныя з'явы, постаці-духі, якія – падобна, як у другой частцы міцкевічаўскіх «Дзядоў», – дзеляцца сваім досведам з жывымі людзьмі, даюць ім парады і настаўленні. Такая форма твора дазваляе Станіславу Выспяньскаму паставіць глабальныя пытанні, якія хвалююць яго сучаснікаў-палякаў:

*ці магчымае паспяховае нацыянальна-вызвольнае паўстанне;*
*ці магчымы хаўрус сялян і інтэлігенцыі ў такім паўстанні;*
*ці могуць быць пераадоленыя найскладанейшыя праблемы польскай вёскі*.

Сам аўтар зноў-такі не дае і фактычна не спрабуе даць адказ на гэтыя пытанні, а наадварот, паказвае што ўсе пры-

родныя і надпрыродныя сілы ўсяляк перашкаджаюць іх пазітыўнаму вырашэнню. Асноўны ж пафас «Вяселля», здаецца, скіраваны менавіта супраць рамантычных ілюзій, якімі любіць закалыхваць сябе інтэлігенцыя і радавітая шляхта, што ўважае сябе за эліту нацыі.

Супраціўляючыся пранікненню ў свой твор якіх-кольвечы элементаў рамантычнага светапогляду, Станіслаў Выспяньскі не вядзе змагання з «памяркоўным» сімвалізмам, адкідаючы хіба што яго пэўныя радыкальныя разнавіднасці, папулярна званыя «пшыбышэўшчынай».

Відавочна, само Вяселле ёсць адным з яскравых сімвалаў, вядомых яшчэ з фальклору. Гэты сімвал, да прыкладу, з'яўляецца ў шэрагу твораў Янкі Купалы, які быў добра знаёмы з аднайменнай драмай Выспяньскага. Беларускі літаратуразнаўца Пятро Васючэнка ў сваёй манаграфіі «Беларуская літаратура XX стагоддзя і сімвалізм» адзначыў: «*Надзвычай сугучным творчасці Купалы з'явіўся вобраз-сімвал вяселля з аднайменнай паэтычнай драмы С. Выспяньскага. У творы польскага паэта, які працаваў на мяжы стылёвага пераходу ад рамантызму да новага рамантызму, гэты вобраз стаўся канцэптуальным цэнтрам. Вяселле як сімваліцкі артэфакт фігураваў у драме як адменнік вяртання польскай дзяржаўнасці, як трыумф «польскай ідэі», рэальны вынік «нацыянальнага месіянізму»... Вяселле – гістарычны трыумф нацыі, свята Маладой, Нявесты (Польшчы, Беларусі), перспектыва адраджэння... І ў Выспяньскага, і ў Купалы Вяселлю замінае фатум, межы якога вагаюцца ад касмічных да сацыяльных і канкрэтна-гістарычных. Вытокі гэтага разладу Выспяньскі шукае ўнутры самой вясельнай грамады, г. зн., у супярэчнасцях польскага нацыянальнага Адраджэння. Купала часцей дзеліцца адчуваннем сусветнага, глабальнага разладу. Варожасці наваколля...*» (П. В. Васючэнка. Беларуская літаратура XX стагоддзя і сімвалізм. Мінск, 2004. С. 94–95).

Пішучы ў іншай сваёй кнізе пра больш познюю

купалаўскую паэму «Безназоўнае», той жа даследчык адзначае, што «*ў паэме Маладая Беларусь, Беларусь-нявеста нарэшце сядзіць за вясельным сталом, у сваёй хаце, з чаркай мёду ў руцэ. Але дзе жаніх? Госці? Нявесела і за гэтым вясельным сталом...*» (П. Васючэнка. Драматургічная спадчына Янкі Купалы. Мінск, 1994. С. 167).

У драме Выспяньскага вяселле гуляецца да самага завяршэння, і быццам бы ўсім весела, ёсць Жаніх і Нявеста, ёсць шматлікія госці, але пытанні дасягнення згоды ў тагачасным польскім грамадстве – як у сям’і маладых – як ужо казалася, усё адно застаюцца адкрытымі.

Скокі вясельнікаў пад гіпнатычную музыку і спеў Чахла ў фінале «Вяселля», замкнёнае кола карагоду – адна з самых яскравых сцэн драмы, у якой зноў-такі прачытваецца тупіковасць спробы яго сучаснікаў, незалежна ад іх сацыяльнага статусу, глядзець на галоўныя польскія праблемы праз акуляры рамантычных мрояў.

Драма «Вяселле» ператварыла Станіслава Выспяньскага, які перад тым лічыўся ў меру паспяховым драматургам, прыналежным да руху «Маладая Польшча», у нацыянальнага творцу-прарока, значэнне якога для польскай літаратуры можна параўнаць са значэннем Уільяма Батлера Ейтса для ірландскай, Юджына О’Ніла для амерыканскай, Марыса Мэтэрлінка для бельгійскай або Генрыка Ібсена для нарвежскай. Твор з усёй глыбінёю і праўдзівасцю паказаў экзістэнцыяльную трагедыю тагачаснай Польшчы і няздольнасць грамадства істотным чынам памяняць сітуацыю. Але літаратурны і тэатральны поспех «Вяселля», безумоўна, спрычыніўся да перавароту ў розумах палякаў, які, у тым ліку, і прывёў да ўз’яднання краіны і здабыцця ёю незалежнасці ў 1918 годзе.

*Лявон Баршчэўскі*

# КАМЕНТАРЫ

## Варшавянка

П’еса Станіслава Выспяньскага «Варшавянка» ўяўляе сабою мастацкае ўзнаўленне аднаго з эпізодаў паўстання 1830–31 гг. на землях былой першай Рэчы Паспалітай, якое ў польскай традыцыі прынята называць Лістападаўскім. Дзеянне твора адбываецца 25 лютага 1831 г. Менавіта ў гэта дзень пачалася другая Грохаўская бітва (Грохаў у той час быў усходнім варшаўскім прадмесцем). Перад гэтай бітвай коштам велізарных страт войску паўстанцаў у зацятай бітве пад Альшынкай Грахоўскай (першая Грохаўская бітва) удалося прыпыніць наступ расійскай арміі царскага фельдмаршала Івана Дзібіча-Забалканскага. Вышэйзгаданая другая бітва пад Грохавам прымусіла расійскага цара наогул часова адмовіцца ад плана штурму Варшавы. Адзін з галоўных герояў п’есы, генерал Юзаф Хлапіцкі, падчас Грохаўскай бітвы фактычна вярнуўся да складзеных раней паўнамоцтваў галоўнакамандуючага войска Каралеўства Польскага, пераняўшы іх ад князя Міхала Гедэона Радзівіла. Аўтар п’есы, ідучы за інтэрпрэтацыяй падзей у мемуарах Станіслава Бажыкоўскага (гл. заўвагі да «Спісу асобаў і дэкарацый»), падае як прычыну вайсковых няўдач паўстанцаў нерашучасць і слабыя здольнасці Радзівіла, хоць у сапраўднасці Міхал Радзівіл заўсёды слухаўся парадаў Хлапіцкага, які быў у яго нязменным дарадцам.

Станіслаў Выспяньскі лейтматывам свайго твора абраў песню «Варшавянка» («La Varsovienne»), напісаную французскім паэтам Казімірам Франсуа Дэлявінем (1793–1843) пад уплывам падзей пачатку Лістападаўскага паўстання. Польскі пераклад французскага тэксту зрабіў і апублікаваў у сакавіку 1831 г. Караль Сянкевіч (1793–1860), брат дзеда будучага знакамітага пісьменніка Генрыка Сянкевіча. Музыку да верша напісаў Караль Курпіньскі

(1785–1857), які быў дырыжорам падчас першага публічнага выканання твора 5 красавіка 1831 г. у яшчэ вызваленай ад расійскіх войскаў Варшаве. Польскі драматург свядома дапусціў анахранізм, аднёсшы выкананне песні на некалькі месяцаў раней. Спяванне «Варшавянкі», а асабліва словы: *Дзень змагання й славы смелых // Каб жа днём збавення стаў //... Каб спазнаць трыумф ці скон*, у п’есе як бы паглыбляюць настроі нявер’я ў перамогу, якія пануюць у асяроддзі сабраных у грохаўскім будынку генералаў і арыстакратаў кіраўнікоў паўстання, якія ўвесь час разважаюць пра «няўхільнасць лёсу», неспазнавальныя «таемныя сілы», што кіруюць чалавекам і гісторыяй. У сваёй п’есе Станіслаў Выспяньскі стварыў пераважна вобразы, прататыпамі якіх былі рэальныя гістарычныя асобы: толькі маладых паннаў, Марыю і Ганну, ды іх абраннікаў, маладых афіцэраў, можна лічыць плёнам аўтарскага вымыслу.

Сваю п’есу Выспяньскі пачаў пісаць у Парыжы 12 жніўня 1893 г. Яе першая версія была закончаная 12 лістапада 1898 г., а ўжо праз чатырнаццаць дзён пасля гэтага ў Кракаўскім тэатры адбылася тэатральная прэм’ера «Варшавянкі». Пастаноўку ажыццявіў вядомы рэжысёр і таленавіты акцёр Людвік Сольскі (1855–1954), які таксама выконваў ролю Старога ветэрана. Пазней тэкст п’есы быў аўтарам крыху дапрацаваны, і яе новую пастаноўку ажыццявілі Тадэвуш Паўлікоўскі (1861–1915) і той жа Людвік Сольскі на сцэне Львоўскага тэатра ў ліпені 1901 г., прычым ролю Марыі ў гэтым спектаклі выконвала знакамітая актрыса Хэлена Маджэеўска, якая спецыяльна прыехала з Паўночнай Амерыкі. Да 1915 г. «Варшавянку» таксама не раз ставілі і на тэрыторыях расійскай ды прускай частак падзеленай колішняй Рэчы Паспалітай – найперш у Варшаве ды Познані, дзе гэтыя пастаноўкі мелі паўпадпольны характар.

Тэма гістарычнага паўстання 1830–31 гг. знайшла свой працяг і ў дзвюх іншых вядомых драмах Выспяньскага: «Лялевель» (1899) і «Лістападаўская ноч» (1904).

## *Спіс асобаў і дэкарацыі*

*Юзаф Хлапіцкі* (1771–1854) – генерал, барон, удзельнік паўстання пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі, напалеонаўскіх войнаў, паўстання 1830–31 гг. Не адразу падтрымаў паўстанцаў, але ў снежні 1830 г. усё ж такі прыняў на сябе абавязкі дыктатара

паўстання. Не верачы ў канчатковую перамогу, беспаспяхова спрабаваў дамовіцца з царскімі ўладамі. 17 студзеня 1831 г. ён адмовіўся ад сваіх паўнамоцтваў, але працягваў кіраваць войскамі ў шэрагу баёў, у т. л. у абедзвюх Грохаўскіх бітвах у лютым 1831 г. Атрымаў цяжкія раны ў абедзве нагі і праз нейкі час быў вывезены за межы Каралеўства Польскага. Апошнія гады жыцця правёў у Кракаве. Яго імя, сярод іншых, выбіта на Трыумфальнай арцы ў Парыжы.

*Ян Скшынецкі* (1787–1860) – генерал, які пачаў сваю службу ў войску Варшаўскага княства, удзельнічаў у напалеонаўскіх войнах. Адразу ж пасля Грохаўскай бітвы стаў галоўнакамандуючым сіл паўстанцаў. Пацярпеў у бітвах шэраг паразаў, часам крыўдных. У канцы паўстання таемна выехаў з Варшавы. Жыў у Чэхіі, а ў 1838 г. паступіў на службу ў армію Бельгіі. Пасля выхаду ў адстаўку прыехаў з сям'ёй у Кракаў, дзе і памёр.

*Граф Людвік Міхал Пац* (1780–1835) – былы ўдзельнік напалеонаўскіх войнаў. Адзін з першых генералаў, што далучыліся да лістападаўскіх паўстанцаў; у першыя дні быў галоўнакамандуючым, потым удзельнічаў у шэрагу бітваў у якасці палявога камандзіра. У бітае пад Астралэнкай (травень 1831 г.) быў цяжка паранены. Пасля паразы паўстання жыў у эміграцыі. Памёр у Турцыі.

*Ян Непамуцэн Умінскі* (1780–1851) – генерал, служба якога пачалася яшчэ ў польскіх легіёнах у Італіі. Падчас паўстання 1830–31 гг. камандаваў кавалерыйскім корпусам. Вызначыўся асабістай мужнасцю. Пасля паразы паўстання быў блізкім супрацоўнікам князя Адама Ежы Чартарыйскага ў Парыжы. Памёр у нямецкім Вісбадэне.

*Пётр Высоцкі* (1799–1875) стаяў на чале маладых афіцэраў, якія ў ноч з 29 на 30 лістапада 1830 г. пачалі паўстанне ў Варшаве (на гэты момант ён быў падпаручнікам, служыў у варшаўскай школе падхарунжых). Падчас паўстання даслужыўся да звання палкоўніка. У верасні 1831 г. трапіў у расійскі палон, сядзеў у астрогах у Бабруйску, потым у Варшаве. Двойчы быў асуджаны на павешанне, аднак смяротная кара была замененая яму на высылку ў Сібір. Пасля амністыі ў 1857 г. вярнуўся ў Польшчу, жыў у Варцы, непадалёк ад Груйца (Мазовія). Напісаў пра ноч выбуху Лістападаўскага паўстання падрабязныя мемуары, упершыню выдадзеныя ў Парыжы ў 1867 г.

*Станіслаў Бажыкоўскі* (1792–1872) – палітычны дзеяч, кансерватар, аднадумца кн. Адама Чартарыйскага. Падчас паўстання 1830–31 гг. быў членам Нацыянальнага ўраду. У Грохаўскай бітве удзельнічаў як шараговы жаўнер, праявіў вялікую асабістую адвагу. Пасля паразы паўстання быў у парыжскай эміграцыі. Аўтар пяцітамовай «Гісторыі Лістападаўскага паўстання» (Познань, 1883), якая стала адной з галоўных крыніц ведаў Станіслава Выспяньскага пра тыя падзеі.

*Казімеж Малахоўскі* (1765–1845) – генерал, які пачынаў вайсковую кар'еру яшчэ ў Рэчы Паспалітай. Удзельнік касцюшкаўскага паўстання, польскіх легіёнаў у Італіі, вайсковай экспедыцыі на Гаіці, напалеонаўскіх войнаў; згаданы ў паэме Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш». У паўстанні 1830–31 гг. камандаваў дывізіямі паўстанцаў у шэрагу бітваў, у т. л. і ў Грохаўскай бітве. У верасні 1831 г. кароткі час быў галоўнакамандуючым паўстанцкіх войскаў. Памёр у эміграцыі ў Францыі.

*Мацей Рыбінскі* (1784–1874) – генерал, родам з Валыні. Пачынаў службу ў напалеонаўскіх войсках. На пачатку паўстання ў канцы лістапада 1831 г. быў камандзірам пяхотнага палка і адразу далучыўся разам з ім да паўстанцаў. Удзельнічаў у шэрагу бітваў, у т. л. асабліва вызначыўся ў бітве пад Грохавам. У верасні 1831 г. стаў апошнім галоўнакамандуючым паўстанцкіх войскаў. У апошнія дні разам з 20 тысячамі афіцэраў і салдат перайшоў мяжу Прусіі, дзе быў інтэрнаваны. Пазней, у эміграцыі ў Францыі, напісаў свае мемуары пра паўстанне 1830–31 гг.

*Немаёўскія* – вядомыя грамадскія і палітычныя дзеячы. Вінцэнт Немаёўскі (1784–1834) у Нацыянальным урадзе паўстанцаў быў міністрам унутраных спраў. Трапіў у расійскую няволю і памёр на этапе па дарозе ў сібірскую высылку. Банавентура Немаёўскі (1787–1835) таксама належаў да Нацыянальнага ўраду, а ў апошнія тыдні паўстання яго ўзначальваў. Памёр у эміграцыі ў Францыі.

*Мыцельскія* – пяцёра патрыятычна настроеных братоў, трое з якіх загінулі падчас бітваў з царскімі войскамі. Юзаф Мыцельскі (1801–1885) быў ад'ютантам генерала Хлапіцкага.

Сярод валынскіх арыстакратаў *Ледахоўскіх* (Ледухоўскіх) найбольш вядомымі былі Ігнацы Гіляры (1789–1870), камандзір варшаўскага арсенала, брыгадны генерал, і Ян (1791–1864), пасол сейма, удзельнік Грохаўскай бітвы.

*Людвік Валоўскі* (1810–1876) належаў да «групы Высоцкага», якая пачала паўстанне ў Варшаве 29 лістапада 1830 г. Пазней у якасці прадстаўніка паўстанцкага ўраду выехаў у Парыж, дзе і застаўся ў эміграцыі. У Францыі стаў вядомым адвакатам і эканамістам, дэпутатам Нацыянальнага сходу і сенатарам.

*Аляксандр Бландоўскі* (1788–1831) – генерал брыгады, удзельнік паўстання 1831–31 гг. Напачатку ўваходзіў у галоўны ваенны штаб, потым камандаваў Літоўскім легіёнам. У бітве пад Ваўрам быў цяжка паранены. Пазней захварэў на халеру і памёр.

*Калікст Бажэўскі* (1805–1836) – уланскі афіцэр, арганізатар паўстання ў Плоцку; даслужыўся да звання капітана. Асабліва вылучыўся ў бітве пад Насельскам. Пасля паразы паўстання – у эміграцыі. Служыў у бельгійскай, пазней у іспанскай арміі. Загінуў у бітве пад Субіры (Іспанія).

*Артур Завіша* (1808–1833) – удзельнік Лістападаўскага паўстання. Ваяваў у складзе Першага палка плоцкай кавалерыі, удзельнічаў у найважнейшых бітвах, паказаў сябе адважным афіцэрам (у выніку атрымаў званне капітана). Пасля паразы паўстання напачатку выехаў у эміграцыю, але ў 1833 г. вярнуўся на радзіму і арганізаваў партызанскі аддзел. Быў схоплены царскімі салдатамі, асуджаны на смерць вайсковым судом і публічна пакараны ў Варшаве 26 лістапада 1833 г.

*Анджэй Пліхта* (1797–1866) – актыўны дзеяч розных патрыятычных арганізацый, у 1828–29 гг. вязень Петрапаўлаўскай фартэцыі. Падчас паўстання 1830–31 гг. быў сакратаром Найвышэйшай Нацыянальнай Рады. Добраахвотнікам браў удзел у Грохаўскай бітве. Пасля паразы паўстання эміграваў разам з членамі Нацыянальнага ўраду. У Парыжы быў актыўным удзельнікам розных эміграцыйных арганізацый, сузаснавальнікам Літаратурнага таварыства ў Парыжы, фундатарам Польскай бібліятэкі.

## *Тэкст п’есы*

Р. 47: *Цынцынат* Лукцый Квінт (к. 519 г. да н. э. – к. 439 да н. э.) два разы быў дыктатарам Старажытнага Рыма. Сярод рымлян уважаўся за ўзор цноты і прастаты.

Р. 55: *Розгі ліктара* (фацэціі) – сімвал улады рымскіх консулаў.

Ліктары былі свайго кшталту служкамі-выканаўцамі пры імператарах, консулах і іншых высокіх чыноўніках.

Р. 95–97: *«Лёс паклікаў мяне – згіну я немінуча, / Застануся затое ў вяках неўміручы!»* – Гэтыя радкі ўяўляюць сабою свабодны пераклад (іранічную парафразу) радкоў з першай сцэны пятага акта трагедыі П'ера Карнэля «Сід».

Р. 97: *Тальма* Франсуа-Жазэф (1763–1826) быў вядомым французскім акторам, майстэрствам якога захапляўся і Напалеон Банапарт.

Р. 101 і наст.: Хлапіцкі ўзгадвае бітву ў Іспаніі, у яры Самасьера, 30 лістапада 1808 г. У складзе Першага імператарскага палка тут бліскучую перамогу атрымаў трэці эскадрон лёгкай кавалерыі, што складаўся з жаўнераў былой Рэчы Паспалітай. Сам будучы генерал у гэтай бойцы не ўдзельнічаў, але вызначыўся пазней, у канцы 1808 – пачатку 1809 гг., пад Сарагосай.

Р. 149: *Жымірскі* Францішак (1778–1831), генерал, камандзір дывізіі пяхоты. З 1797 г. ваяваў у польскіх легіёнах у Італіі, пазней служыў у напалеонаўскіх войсках, даслужыўся там да звання палкоўніка. Падчас бітвы пад Альшынкай трымаў пазіцыі дывізіі да апошняга; загінуў пад гарматным абстрэлам.

Р. 190: *Каліёстра* (сапр. прозвішча *Бальзама*) Джузэпэ (1743–1795) меў славу авантурніка, чарадзея і алхіміка.

Р. 234: *Фантэнбло* – замак непадалёк ад Парыжа, адна з улюбёных рэзідэнцый Напалеона Банапарта.

Р. 235: *Жазэфіна* Роза *Ташэ дэ Пажэры* (1763–1814) – графіня, першая жонка Напалеона, вядомая сваёй прыгажосцю і вытанчанасцю.

Р. 318: *Як быццам бітваў божышчы...* – Маюцца на ўвазе ўвасабленні грэцкай багіні перамогі Ніке.

Р. 340: *«Польшча любая, малітвы / Дзецям лепшы лёс далі...»* – так пачынаецца тэкст вышэйзгаданай «Варшавянкі 1831 года» Казіміра Дэлявіня.

Р. 432–433: *Над вамі галоўным / Прызначаны князь...* – Маецца на ўвазе князь *Міхал Гедэон Радзівіл* (1778–1850), генерал, ваявода Каралеўства Польскага. Падчас паўстання 1830–31 гг. ён уваходзіў у склад Адміністрацыйнай рады, пазней – у склад Найвышэйшай нацыянальнай рады Каралеўства Польскага. У студзені – лютым 1831 г. быў галоўнакамандуючым паўстанцаў, але падчас Грохаўскай бітве фактычна саступіў

свае паўнамоцтвы больш здольнаму і дасведчанаму генералу Юзафу Хлапіцкаму. Пасля капітуляцыі Варшавы быў зняволены, да 1836 г. знаходзіўся ў Яраслаўлі. Пасля выхаду з турмы выехаў у эміграцыю. За ўдзел у паўстанні быў пазбаўлены сваіх маёнткаў у Барысаўскім і Слуцкім паветах.

Р. 438: *...з чартоў быў нехта рады* – Тут у арыгінале мае месца каламбур, намёк на прозвішча ініцыятара стварэння паўстанцкага ўраду, князя Адама Ежы *Чартарыйскага* (1770–1861), ад якога Хлапіцкі атрымліваў паўнамоцтвы дыктатара паўстання.

Р. 512: *Вы першы, граф, былі каля стырна...* – Скшынецкі нагадвае Пацу, што той да моманту, калі з'явіўся Хлапіцкі, выконваў абавязкі дыктатара паўстання.

Р. 513: *Цяпер яно сюды-туды – як мячык Наўсікаі...* – Намёк на эпізод з паэмы Гамера «Адысея». У перакaзе Уладзіміра Анісковіча: «Наўсікая і яе рабыні паехалі да мора... Закончыўшы работу, юныя дзевы пакупаліся ў рацэ і нацерліся духмяным алеем. Потым, падмацаваўшыся, яны пачалі весяліцца, забаўляцца гульнёй у мячык. Тут і прыдумала Афіна-Палада, як пабудзіць Адысея. Наўсікая кінула мячыкам у сяброўак, а Афіна, нябачная для дзеваў, адкінула яго магутнай рукой, і ён упаў у мора. Усе дзевы моцна закрычалі. Ад гэтага крыку прачнуўся Адысей».

Р. 545: *Не то мне дело...* – Тут Хлапіцкі ўжывае ў сваёй мове выразны русізм.

Р. 731: *Чацвёрты полк* лінейнай пяхоты паўстанцаў вызначыўся сваім гераізмам у грохаўскіх баях. Менавіта гэтаму палку належыць галоўная заслуга ў тым, што наступ расійскіх войскаў пад Альшынкай быў прыпынены, а пад Грохавам захлынуўся, нягледзячы на тое, што раней была разбітая дывізія генерала Жымірскага.

# Вяселле

Непасрэдным імпульсам для стварэння драмы «Вяселле» Станіславам Выспяньскім паслужыла рэальнае вяселле вядомага ў канцы XIX стагоддзя польскага паэта і драматурга Люцыяна Рыдэля і вясковай дзяўчыны Ядвігі Мікалайчык з вёскі Малыя Бранавіцы, што ў той час знаходзілася зусім паблізу кракаўскай гарадской мяжы (цяпер – адзін з раёнаў Кракава). Гэтае вяселле адбылося 20 і 21 лістапада 1900 года ў доме паэта і мастака Уладзімежа Тэтмаера, які быў жанаты са старэйшай сястрою нявесты. Вянчанне маладых адбылося 20 лістапада ў знакамітым кракаўскім Марыяцкім касцёле.

На вяселлі ў Малых Бранавіцах былі мала што не ўсе жыхары вёскі, а таксама сямейнікі Рыдэля і Тэтмаера. Сярод запрошаных гасцей быў і Станіслаў Выспяньскі, які, відаць, ужо тады планаваў напісаць п’есу на сюжэт гэтага вяселля. Выспяньскі не ўдзельнічаў у святкаванні, а толькі назіраў за тым, што адбываецца ў хаце Уладзімежа Тэтмаера. Выдатны літаратар, крытык і публіцыст Тадэвуш Бой-Жаленьскі (1874–1941), таксама прысутны на вяселлі, апісваў паводзіны Станіслава Выспяньскага наступным чынам: «*Памятаю яго, як сёння: зашпілены на апошні гузік у сваім двухбортным сурдуце, ён усю ноч стаяў абапершыся аб вушак дзвярэй, углядаючыся ва ўсё, што адбывалася, сваімі незвычайнымі сталёвымі вачыма. Побач гула вясельная забава, чулася аглушальная музыка, якая суправаджала скокі, а сюды, у гэтую святліцу, раз-пораз заходзіла то адна, то другая пара людзей; да яго вушэй далятала абрыўкі іх размоў. І там ён убачыў і пачуў сваю п’есу*».

Большая частка герояў драмы «Вяселле», адпаведным чынам, мае сваіх рэальных прататыпаў. Побач з імі ў п’есе дзейнічае група фантастычна-містычных персанажаў.

## *Спіс Асобаў*

*Гаспадар* выяўляе падабенства з жывапісцам і графікам Уладзімежам Тэтмаерам, мужам Ядвізінай сястры. Рэальны Уладзімеж Тэтмаер (1861–1923) быў адным з заснавальнікаў Польскай сялянскай партыі, дэпутатам парламента Аўстра-Венгрыі ад Кракаўскага рэгіёна.

Першаўзорам *Гаспадыні* была Ганна Тэтмаер, з дому Мікалайчык, жонка Уладзімежа Тэтмаера.

*Жаніх* мае рысы паэта Люцыяна Рыдэля (1870–1918), паэта-хлапамана, прадстаўніка руху «Маладая Польшча».

*Нявеста* нагадвае Ядвігу Мікалайчык – прыгожую, энергічную вясковую дзяўчыну, якая, аднак, паводле сведчанняў сучаснікаў, была больш сціплай і культурнай асобай, чым гераіня п’есы Выспяньскага.

*Марыся* – сястра Ганны і Ядвігі; была заручоная з мастаком Людвікам дэ Ляво, які захварэў на сухоты і памёр у Мюнхене (у п’есе з’яўляецца ў абліччы *Здані*).

*Войтак* – Войцех Сусул, селянін з Малых Бранавіц, на момант вяселля муж *Марысі*.

*Бацька* – Яцак Мікалайчык, гаспадар з Малых Бранавіц, бацька Ганны, Марыі, Ядвігі, Яна і Якуба.

*Ясік* – Ян Мікалайчык, брат Ядвігі.

*Каспар Чэпец* – гаспадар з Малых Бранавіц, сваяк Блажэя Чэпца.

*Паэт* – Казімеж Пшэрва-Тэтмаер, адзін з самых вядомых паэтаў-лірыкаў, што стаялі на чале руху «Маладая Польшча».

*Журналіст* – Рудальф Сташэўскі, універсітэцкі калега Выспяньскага, галоўны рэдактар кансерватыўнага часопіса «Час».

У асобе *Носа* пазнаецца мастак Тадэвуш Наскоўскі, але даследчыкі бачаць у ёй таксама некаторыя рысы іншага мастака – Станіслава Чайкоўскага, а таксама вядомага драматурга-сімваліста Станіслава Пшыбышэўскага.

*Марына* – Марыя, старэйшая сястра Зоф’і Парэньскай.

*Зося* – Зоф’я Парэньская, дачка лекара і прафесара кракаўскага Ягелонскага ўніверсітэта, якая пазней выйшла замуж за вышэйзгаданага Тадэвуша Боя-Жаленьскага.

*Жонка раднага* – Антаніна Даманьская, стрыечная сястра маці Люцыяна Рыдэля, пісьменніца, аўтар раманаў для моладзі; яе муж быў прафесарам універсітэта і радным у кракаўскім магістраце.

*Ганначка* – сястра Люцыяна Рыдэля.

*Блажэй Чэпец* – дзядзька Ядвігі Мікалайчык, вясковы пісар, галоўны сват на вяселлі.

*Кліміна* – гаспадыня з Малых Бранавіц.

*Габрэй* – пад імем габрэя Моўшы ў п’есе выведзены Герш Зінгер, уладальнік карчмы ў Малых Бранавіцах.

*Рахіль* – дачка бранавіцкага карчмара Пепа (Юзэфа) Зінгер, якая павінна была б ствараць прататып Рахілі, на момант вяселля Люцыяна Рыдэля і Ядвігі Мікалайчык мела 15 гадоў і не шмат у чым нагадвала гераіню драмы Выспяньскага.

*Іся* – Ядвіся, найстарэйшая дачка Уладзімежа і Ганны Тэтмаераў.

## *Спіс Асобаў драмы*

*Чахол* – куст ружаў у саламяным каўпаку: у п'есе выконвае функцыю персанажа, які як бы рухае падзеі.

*Здань* – былы нарачоны Марысі, правобразам якога быў мастак Станіслаў Людвік дэ Ляво (1868–1894), вучань класіка польскага жывапісу Юзафа Мэхофера.

*Станьчык* – знакаміты блазен караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Старога ў першай траціне XVI ст. Яго сапраўдныя імя і прозвішча – Станіслаў Гонска. Паводле сведчанняў сучаснікаў, Гонска быў адукаваным чалавекам, вёў кронікі каралеўскага двара. Менавіта яго вобраз увекавечыў у 1862 г. Ян Матэйка на карціне, што знаходзіцца цяпер у экспазіцыі Нацыянальнага музея ў Варшаве. Гэты вобраз зрабіўся ўвасабленнем народнай і дзяржаўнай мудрасці.

*Гетман* – Францішак Ксавер Браніцкі, адзін з актыўных удзельнікаў Таргавіцкай канфедэрацыі, дзейнасць якой у 1792–93 гг. набліжала падзелы Рэчы Паспалітай паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй.

*Рыцар* мае шмат якія рысы паўлегендарнай асобы, Завішы Чорнага, аднаго з галоўных герояў Грунвальдскай бітвы (1410 г.). П'еса-фантазія Казімежа Пшэрвы-Тэтмаера «Завіша Чорны» была пастаўленая ў Кракаве ў 1901 г. – акурат тады, калі Выспяньскі пісаў драму «Вяселле».

*Вупыр* – Якуб Шэля (памёр у 1866 г.), кіраўнік крывавага сялянскага паўстання 1846 г. у Аўстрыі, скіраванага супраць польскай шляхты і падбухторванага акупацыйнымі ўладамі.

*Вярнігара* – легендарны ўкраінскі запарожскі казак-лірнік XVIII ст., якому пагалоска прыпісвала здольнасць прадбачыць і прадказваць будучыню Рэчы Паспалітай. Папулярны герой твораў рамантыкаў, найперш Юльюша Славацкага і Севярына Гашчыньскага.

## *Дэкарацыі сцэны*

* *Керэзія* – світка гранатавага колеру з чырвонымі штрыфлямі і каўняром, які адкладаецца назад, вышытым і аздобленым бляшкамі; характэрны строй людзей з наваколля Кракава.

** *...карціны Матэйкі «Вярнігара» і літаграфія матэйкаўскіх «Рацлавіц».* – Тут гаворка пра дзве знакамітыя працы славутага польскага мастака гістарычнай тэмы Яна Матэйкі (1838–1893). «Вярнігара» быў напісаны ў 1883 г., а карціна «Касцюшка пад Рацлавіцамі» (на якой паказаны момант, калі касінеры на чале з Барташам Главацкім пасля паспяховай здабычы расійскіх гармат вітаюць камандзіра паўстання) была створаная ў 1887 г.

## *Дзея I*

Р. 2: *...Кітайцы... а ці ж цвёрда там стаяць?*– Увосень 1899 г. у Кітаі, у правінцыі Шаньдунь выбухнула т. зв. «паўстанне іхэтуаняў» («паўстанне баксёраў»), скіраванае супраць іншаземцаў, хрысціянскіх місіянераў і кітайцаў-хрысціян. Паўстанне было здушанае пасля міжнароднай інтэрвенцыі войскаў шасці заходнееўрапейскіх дзяржаў, Расіі і Японіі.

Р. 20–21: *...Два гады таму заўзята / Біліся ў Японіі*. – Падчас кітайска-японскай вайны 1894–95 гг. на баку Японіі ваявалі вайсковыя часткі шэрагу еўрапейскіх краін, у т. л. Аўстра-Венгрыі.

Р. 30: *...Быў з такіх, як мы, Главацкі...* – Гл. заўв. пад знакам ** да «Дэкарацый сцэны».

Р. 56–57: *Лаэнгрынавыя спевы / Пан пачаў тут нада мною...* – Тут утрымліваецца намёк на арыю Лаэнгрына з аднайменнай оперы Рыхарда Вагнера. У першай дзеі Рыцар развітваецца з цудоўным Лебедзем, які прыцягнуў яго ў чоўне ў Брабант; той самы спеў вітае яго і ў апошняй дзеі.

Р. 156–157: *...Дабрадзей-ксёндз дачакацца / Можа хутка й пелярынку...* – Пелярынай называлася безрукаўная мужчынская накідка, якая зашпільвалася пад самай шыяй. Сярод простага народа лічылася характэрным уборам ксяндза-каноніка.

Р. 162: *Кансісторыяй* у каталіцкім Касцёле называецца біскупская курыя.

Р. 322: *Сукенніцы* – гандлёвыя шэрагі і яткі на рынку ў Кракаве.

Р. 378: *Коцяць так гарбуз, мой пане…* – г. зн. адмаўляюць таму, хто заляцаецца.

Р. 385: *Псіхея* – у старагрэцкай міфалогіі каханка Эрота, бога кахання; яе імем таксама называлі чалавечую душу.

Р. 439: *Паркі* – у рымскай міфалогіі багіні Наканавання, якім ва ўяўленні старажытных грэкаў адпавядалі Мойры.

Р. 502: Станіслаў *Пшыбышэўскі* (1868–1927) на момант напісання «Вяселля» лічыўся культавым драматургам «Маладой Польшчы», прадстаўніком польскага сімвалізму.

Р. 505: *A la Батычэлі.* – гаворка пра модную ў канцы XIX стагоддзя жаночую прычоску, запазычаную з выяваў на карцінах знакамітага мастака італьянскага Рэнесанса Сандра Батычэлі: прабор на сярэдзіне галавы, завіткі валасоў каля вушэй, нізкі і тоўсты вузел, у які яны сабраныя.

Р. 522: *bonsoir* (франц.) – добры вечар!

Р. 533: *татэ* (ідыш: טאַטע) – бацька, тата.

Р. 543: *Ensemble* (франц.) – разам.

Р. 607: *Белерафонт* – міфічны асілак, родам са старагрэцкага Карынфа, якому ўдалося закілзаць Пегаса. Белерафонт хацеў захапіць Алімп, але быў забіты ўдарам маланкі, пасланай Дзэўсам.

Р. 736: *qui amat* (*лац.* той, які любіць) – назва цыкла вершаў Казімежа Пшэрвы-Тэтмаера, змешчанага ў чацвёртым томе яго «Паэзіі» (1900).

Р. 751–753: *…Ён стаіць, нібы закляты, / Ля калодзежа-крыніцы / І ў ваду глядзіць заўзята…* – Гэтыя радкі асацыююцца з карцінай вядомага польскага мастака маладапольскага напрамку, Яцака Мальчэўскага (1855–1929) «Рыцар каля калодзежа». Матыў атручанай калодзежнай вады, як сімвал польскай няволі, з’яўляецца і ў іншых працах гэтага жывапісца.

Р. 829: *Пясты* – першая дынастыя агульнапольскіх князёў і каралёў, паходжаннем з палян. Пры князю Мешку I, сыну Земамысла з Пястаў, Польшча ў 966 г. прыняла хрысціянства і стала сярэднявечнай дзяржавай еўрапейскага тыпу.

Р. 872–873: *Выбары былі тады / Між сакольскай грамады…* – Гаворка тут пра выбары ў парламент Аўстра-Венгрыі, што адбываліся 13 снежня 1900 г. Далей ідзе згадка пра будынак гімнастычнага таварыства «Сакол» у тагачасным Кракаве.

Р. 880: *Вы там Птаха выбіралі?..* – Падчас вышэйзгаданых

выбараў 13 снежня 1900 г. адным з кандыдатаў быў селянін Францішак Птах (Ptak), які пацярпеў паразу.

Р. 919: *З Рэйсдалевай той карціны…* – Станіслаў Выспяньскі мае на ўвазе карціну нідэрландскага мастака-пейзажыста XVII ст. Якаба *ван Рэйсдаля* (Ройсдала) пад назвай «Габрэйскія могілкі», напісаную каля 1655 г. На ёй пейзаж сімвалізуе малазначнасць асобы чалавека на фоне прыроды, якая ўвесь час адраджаецца.

Р. 1135: *«Курдаш»* – знакамітая старапольская застольная песня на словы народжанага ў Беларусі Францішка Багамольца (1820–1884). Верш, звернуты да тагачаснага прэзідэнта Варшавы Рыгора Лашкевіча, у сучасным перакладзе Ірыны Багдановіч пачынаецца наступнымі словамі:

Чарачкі ўзнімем, мой мілы Рыгору,
Каб не паддацца ні смутку, ні гору.
Хай жа й Ганулька прысядзе тут з намі,
Курдаш над курдашамі.

Р. 1248: *Такое штосьць, як у Бёрн-Джонса…* – Эдуард *Бёрн-Джонс* (1833–1898) быў адным з самых знакамітых прадстаўнікоў плыні прэрафаэлітаў у англійскім жывапісе. На яго карцінах часта можна бачыць ідэалізаваныя вобразы зграбных і дакладна выпісаных дзяўчат, падобных да тых, што сустракаюцца ў італьянскіх жывапісцаў XIV ст.

Р. 1297: *Pour passer le temps…*(франц. *каб забіць час*). – Тут утрымліваецца відавочны намёк на назву паэмы Казімежа Пшэрвы-Тэтмаера, «Pour passer le temps актаваю», змешчанай у трэцім томе яго «Паэзіі».

## *Дзея II*

Р. 196: *Salve!* (лац. вітаю!) – даўняе шляхецкае вітанне.

Р. 229: *Казачкі аб Трэцім Траўня...* – Тут герой узгадвае пра Канстытуцыю Рэчы Паспалітай, прынятую 3 траўня 1791 г.

Р. 272–274: *...на хрыбце – / Акрываўлены хітон / Дэяніры́н…* – Дэяніра, паводле старагрэцкіх міфаў, была дачкою Айнея (паводле іншай версіі – Дыёніса), жонкаю Геракла. Прыраўнаваўшы Геракла да дачкі эхалійскага ўладара Ёлы, Дэяніра дала яму хітон, прамочаны крывёю кентаўра Нэса, і тым загубіла яго, а пасля пакончыла з сабою.

Р. 314–317: Тут гаворка ідзе пра Звон Жыгімонта, адліты на распараджэнне караля Рэчы Паспалітай і вялікага князя Літоўскага Жыгімонта I Старога ў 1520 г. Звон быў вывешаны ў званіцы кракаўскага Марыяцкага касцёла. На карціне Яна Матэйкі «Падыманне Жыгімонтавага звона» (1874) паказаны Станьчык, які сядзіць каля ног караля.

Р. 319: *Італійка* – Бона Сфорца (1494–1557), каралева Рэчы Паспалітай і вялікая княгіня Літоўская (з 1518), другая жонка Жыгімонта I Старога.

Р. 421–422: *Tragediante… Commediante* (іт.) – Гэткімі словамі меліся абмяняцца пры сустрэчы Напалеон I Банапарт і арыштаваны ім Папа рымскі Пій VII.

Р. 425: *status quo ante* (лац.) – папярэдні стан рэчаў.

Р. 428: *Польскае Жазло.* – У арыгінале ўтрымліваецца намёк на *кадукей* – жазло старагрэцкага бога Гермеса, які суправаджаў душы памерлых у Аід; кадукей, аплецены дзвюма змеямі са стуленымі галовамі, быў аздоблены крыламі. Выспяньскі глядзіць на кадукей, як на сімвал ідэйнага і палітычнага правадырства, з доляй іроніі.

Р. 660: *Бранецкі, васпан…* – Аднаго з галоўных дзеячаў Таргавіцкай канфедэрацыі шляхты гетмана Францішка Ксавера Браніцкага (гл. заўв. да спісу Асобаў драмы) называлі «Бранецкім», намякаючы на яго паходжанне ад ссыльнага пасяленца (папольску braniec значыць: палонны). Паводле іншай версіі, яго прозвішча змянілі такім чынам, каб адрозніваць яго ад вялікага кароннага гетмана Яна Клеменса Браніцкага.

Р. 728: *…да байструкоў царыцы…* – Намёк на тое, што гетман Браніцкі быў жанаты з Аляксандрай Энгельгарт, пазашлюбнай дачкою расійскай царыцы Кацярыны II.

Р. 745: *Sursum corda* (лац.) – Узнясем дух!

Р. 798: *Бачыш: медалі на мне…* – Пасля здушэння паўстання 1846 г. у Галіцыі актыўныя ўдзельнікі гэтага здушэння, афіцэры і чыноўнікі, атрымалі ордэны і медалі. Пагалоска сцвярджала, што шчодра ўзнагароджаны быў і Якуб Шэля, хоць гістарычныя крыніцы гэтага не пацвярджаюць.

Р. 973: *Валькірыямі* называлі дзевяць дачок германскага вярхоўнага бога Вотана. Тут маецца на ўвазе найстарэйшая з валькірый, Брунгільда, гераіня папулярнай оперы Рыхарда Вагнера «Валькірыя». У III дзеі оперы валькірыі злятаюцца

на вяршыні гор, сваім подыхам абуджаючы адвагу будучых герояў-змагароў.

Р. 988: *...Бытта кальварыйскі дзед...* – Маецца на ўвазе жыхар гарадка Кальварыя-Зэбжыдоўска, што непадалёк ад Кракава.

Р. 1103–1105: *Ты прыгадваеш званы, / Кроў ракою, перуны / І злавеснасць заранiцаў?..* – Гэтыя радкі звязаныя з падзеямі заключнай дзеі знакамітай драмы Юльюша Славацкага «Срэбны сон Саламеі» (выд. 1844). Дзеянне твора адбываецца ў 1768 г. на Украіне. Казак Вярнігара выступае прадказальнікам будучыні Польшчы: яе краху і пазнейшага адраджэння, абуджанага яго граннем на ліры.

Р. 1138: *...Вярнігара, дзед з лірай!* – Вобраз Вярнігары як «дзеда з лірай» быў выведзены Юльюшам Славацкім у вышэйзгаданай драме «Срэбны сон Саламеі».

Р. 1160: *Віцы* (віці) уяўлялі сабою жэрдкі з пукамі галінак, з якімі ездзілі па ўсіх паселішчах спецыяльныя ганцы. Высыланне віцаў было знакам пачатку вайны і заклікам да шляхты прыбыць у войска.

Р. 1359: *Дэлія* – верхняя мужчынская вопратка, падбітая футрам і з футравым каўняром; частка шляхецкага строю.

## *Дзея III*

Р. 31: *...evviva l'arte* (іт.) – няхай жыве мастацтва; травеставанае заканчэнне аднаго з вершаў Казімежа Пшэрвы-Тэтмаера з другога тома яго «Паэзіі».

Р. 33: *Астарта* – багіня Месяца, Неба, вайны і кахання ў старажытных фінікійцаў і асірыйцаў.

Р. 108: *Там-да-ра-да-дам-дам-дай...* – На думку Тадэвуша Боя-Жаленьскага (гл. уступ да гэтага Каментара), у гэтай рэпліцы Нос напявае музычную фразу з прэлюдыі ля-мажор Фрыдэрыка Шапэна, якую любіў іграць Станіслаў Пшыбышэўскі.

Р. 132: *Après nous le déluge* (франц.) – пасля нас хоць патоп.

Р. 204: *І ў позе Палімніі годнай...* – Тут маецца на ўвазе Палімнія (або *Палігімнія*), старагрэцкая муза лірычнай паэзіі і музыкі. Часцей за ўсё яе выяўлялі ў накінутым на плечы вэлюме, у позе глыбокага задумення.

Р. 430: *...Імпэт Данаід ля вады...* – Паводле старагрэцкага міфа, *Данаіды*, дочкі валадара Аргаса, за забойства сваіх мужоў былі

асуджаныя рабіць марную працу – бясконца запаўняць вадою бяздонную бочку ў Аідзе.

Р. 613: *Ян Станіслаўскі* (1860–1907) – прафесар жывапісу ў Кракаўскай Школе Прыгожых Мастацтваў. Пісаў алейнымі фарбамі пейзажы невялікага фармату і адметнага кшталту, добра апісаныя ў словах Жаніха. У 1904 г. Выспяньскі стварыў партрэт Станіслаўскага.

Р. 993: *Тоні* – вёска на паўночны захад ад Кракава, у суседстве з Вялікімі Бранавіцамі.

Р. 1034: Пад *Каралевай* маецца на ўвазе Маці Божая Чанстахоўская, як Каралева-апякунка польскай Кароны.

Р. 1164: *Хаме, шапку меў жа ты…* – Станіслаў Выспяньскі напісаў гэтыя словы на мелодыю народнай песні, якую ён далучыў да тэксту п’есы. У знакамітай экранізацыі «Вяселля», ажыццёўленай Анджэем Вайдам у 1973 г., гэтую песню спявае выканаўца ролі Чахла, наш зямляк Чэслаў Немэн.

# Змест

